КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
АМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!
פראָלעטאַריער פון אַלע לענדער. פאַראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visų šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.



ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ
1934 год.

№ 1 (47)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетары! ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 1 (47) ВІЛЬНЯ, ЛІПЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1934 г. № 1 (47)

## 7-мы Сусьветны Кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу

**Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту Камуністычнага Інтэрнацыяналу пастанавіў:**

**На падставе рашэньняў XIII пленуму Выканаўчага Камітэту Камуністычнага Інтэрнацыяналу, зацьвердзіць наступны парадак дня VII сусьветнага Кангрэсу Камуністычнага Інтэрнацыяналу:**

**1. Справаздача аб дзейнасьці Выканаўчага Камітэту Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Дакладчык тав. ПІК.**

**2. Наступленьне фашызму і задачы Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў барацьбе за адзінства рабочае клясы проціў фашызму. Дакладчык т. ДЗІМІТРАЎ.**

**3. Падрыхтоўка імпэрыялістычнай вайны і задачы Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Дакладчык тав. ЭРКОЛІ.**

**4. Вынікі будаўніцтва сацыялізму ў СССР. Дакладчык тав. МАНУІЛЬСКІ.**

**5. Выбары кіраўнічых органаў Камуністычнага Інтэрнацыяналу.**

---

БЕЛА КУН

## БАРАЦЬБА ЗА АДЗІНСТВА ДЗЕЯНЬНЯЎ

Тры камуністычных партыі за апошнія тыдні зьвярнуліся да трох сацыял-дэмакратычных партыяў з прапановай выступіць супольна, каб выратаваць правадыра нямецкага пралетарыяту т. **Эрнста Тэльмана** з рук фашыстоўскіх катаў.

Барацьба за выратаваньне Тэльмана ёсьць барацьба за вызваленьне ўсіх антыфашыстоўскіх барацьбітоў, як у Нямеччыне і Аўстрыі, так і ва ўсіх краінах, дзе перамог фашызм. Камуністы ні хвіліны не хісталіся, калі справа ішла аб выратаваньні жыцьця антыфашыстоўскіх змагароў, якія ў свой час знаходзіліся ў шэрагах аўстрыйскай сацыял-дэмакратыі альбо, будучы беспартыйнымі, выступалі проціў прыгнятальнікаў рабочае клясы.

ЦК камуністычнай партыі **Францыі** прапанаваў адміністрацыйнай камісіі сацыялістычнай партыі Францыі арганізаваць супольныя дэманстрацыі і сходы пратэсту ў шэрагу важнейшых прамысловых цэнтраў краіны, асабліва ў тых гарадох, дзе ёсьць консульствы гітлероўскага ўраду.

ЦК камуністычнай партыі **Швэйцарыі** накіраваў да старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі Швэйцарыі дэлегацыю з гэтака-жа прапановай: аб арганізацыі супольных дэманстрацый проціў нямецкага фашызму ў мэтах выратаваньня тав. Тэльмана.

ЦК камуністычнай партыі **Англіі** зрабіў прапанову ў такім-жа духу лейбарысцкай партыі, кіраўнічаму органу рэфармісцкіх профсаюзаў і каапэратываў.

Пры асабістым пабачаньні прадстаўнікоў сацыялістычнай партыі Францыі і кампартыі Францыі сацыял-дэмакраты далі згоду на камуністычную прапанову пры **умове,** што кампартыя на час су-

польных дзеяньняў устрымаецца ад усялякай палемікі з сацыял-дэмакратыяй. Прадстаўнікі кампартыі выразілі гатоўнасьць на час супольных выступленьняў у кожнай мясцовасьці, дзе будуць адбывацца дэманстрацыі пратэсту, спыніць усялякую крытыку сацыял-дэмакратыі.

Кіраўніцтва сацыял - дэмакратычнай партыі **Швэйцарыі** рэзка адхіліла прапанову швэйцарскай кампартыі. Для характарыстыкі нецярпімага тону гэтага адказу досыць прывесьці адну такую вытрымку:

> «Калі кампартыя Швэйцарыі заклікае нас да ўдзелу ў дэманстрацыях перад нямецкімі пасольствам і консульствамі, дык неабходна патрабаваць, каб кампартыя Швэйцарыі ў тых краінах, дзе гэта яшчэ магчыма, наладжвала дэманстрацыі перад рускімі пасольствамі».

Весьці палеміку з падобнымі прапановамі няма чаго.

Кіраўніцтва лейбарысцкай партыі на прапанову сакратарыята КП Англіі пакуль яшчэ—да сучаснага моманту, калі пішуцца гэтыя радкі (15 чэрвеня 1934 г.) — не пасьпяшыла адказаць.

Такавы факты. Мы хочам да гэтых фактаў дадаць толькі некалькі заўваг. Буржуазія, асабліва нямецкія фашысты, правільна расьцэньваюць адзінства дзеяньняў рабочае клясы, як найвялікшую небясьпеку для капіталізму. Яны правільна расцэньваюць і асабістае значэньне т. Тэльмана і значэньне абароны яго ў разгортваньні антыфашыстоўскай барацьбы. Адзін з кіруючых органаў нямецкага буйнага капіталу, «Бэрлінер бэрзенцэйтунг», пісаў па поваду прапаноў, зробленых кампартыяй Францыі французскай сацыял-дэмакратыі:

> «Ня можам-жа мы тут аднесьціся раўнадушна да таго, што французскія камуністы цяпер рыхтуюць «для выратаваньня Тэльмана» вялікія сходы і вулічныя дэманстрацыі ў Парыжы, Рэймсе, Лілі, Страсбургу, Бордо, Марселі і іншых гарадохі нават схіляюць французскую сацыял-дэмакратыю да ўдзелу ў гэтай кампаніі і да стварэньня адзінага фронту».

Фашыстоўскі орган па зусім зразумелым думкам цкуе арганізацыі адзінага фронту камуністычных і сацыял-дэмакратычных рабочых. Гэтае цкаваньне прадыктавана інтарэсамі нямецкага фашызму, інтарэсамі капіталізму наогул.

Ужо такі водгук гітлероўскіх фашыстаў на разгортваючыся адзіны фронт міжнароднага пралетарыяту процiў нямецкага фашызму паказвае, што камуністычныя партыі, зьвярнуўшыся з прапановамі аб адзінстве дзеяньняў да сацыял-дэмакратычных партыяў, паступілі правільна. Крок гэты зьяўляецца правільным ня толькі таму, што кампартыі ўнесьлі гэту прапанову паўторна, ня гледзячы на тое, што II Інтэрнацыянал пасьля прыходу Гітлера да ўлады забараніў сацыял-дэмакратычным партыям арганізаваць супольна з камуністамі актыўныя выступленьні процiў гітлероўскага фашызму. Так паступіў II Інтэрнацыянал ня гледзячы на тое, што Камуністычны Інтэрнацыянал у адозве ад 5 сакавіка 1933 г. прапанаваў сваім сэкцыям спыніць нападкі на сацыял-дэмакратыю на час супольных выступленьняў. Значэньне гэтых новых прапаноў кампартый кіруючым органам сацыял - дэмакратычных партый таксама не заключаецца толькі ў тым, што швэйцарская сацыял-дэмакратыя зноў даказала, што яна ляпей выбірае клясавае супрацоўніцтва з буржуазіяй, як адзіны фронт з камуністычнымі рабочымі, лейбарысцкая партыя нават зусім не адказала на прапанову аб адзінстве дзеяньняў, а французскія сацыялісты паставілі супольную барацьбу процiў фашызму ў залежнасьць ад такіх варункаў, якія азначаюць парушэньне рабочай дэмакратыі.

Зараз, калі пішуцца гэтыя радкі, мы дагэтуль яшчэ ня ведаем, да якога рашэньня прыдзе адміністрацыйная камісія сацыялістычнай партыі Францыі, заслухаўшы справаздачу сваіх прадстаўнікоў, якія вялі перагаворы з прадстаўнікамі кампартыі. Мы ня ведаем, што ўплыве мацней на адміністрацыйную камісію: воля да барацьбы рабочых мас, якія дамагаюцца адзінства дзеяньняў, ці процiўдзеяньне Фросара, Дормуа, Рывьера, якія галасавалі за тое, каб адхіліць прапанову КП Францыі. Але незалежна ад таго, якое рашэньне вынясе кіраўніцтва французскай сацыял-дэмакратыі, незалежна ад прынятага ўжо кіраўніцтвам

швэйцарскай сацыял-дэмакратыі рашэньня і ад таго, што кіраўніцтва лейбарысцкай партыі замоўчвае і ўтойвае ад сваіх членаў, камуністычныя партыі непахісна будуць далей весьці і разгортваць барацьбу за адзіны фронт рабочае клясы проціў фашызму, проціў вайны, за выратаваньне Тэльмана.

Як бы варожа ні адказвалі с.-д. правадыры, па прыкладу швэйцарскай сацыял-дэмакратыі, на прапанову камуністаў аб супольным фронце барацьбы, сколькі-б яны ні пад'юджвалі, абвяшчаючы барацьбу проціў расколу рабочае клясы камуністычным манэўрам, для нас, камуністаў (і мы спадзяемся, што і для шырокіх мас с.-д. і рэфармісцкіх рабочых), адзіны фронт рабочае клясы, адзінства дзеяньняў пралетарыяту ёсьць і будзе вялікай паважнай справай, сьвятой справай.

Мы, камуністы, не зьбіраемся ні на хвіліну адмаўляцца ад палітычнай і арганізацыйнай незалежнасьці і самастойнасьці камуністычных партый, мы ня лічым магчымым аб'яднаньне Камуністычнага Інтэрнацыяналу з ІІ Інтэрнацыяналам. Але мы цьвёрда рашылі ўсімі сіламі дабівацца і забясьпечваць адзінства дзейнічаньня пралетарыята ў барацьбе проціў яго клясавых ворагаў.

Калі раней многія сацыял-дэмакратычныя рабочыя, члены рэфармісцкіх прафсаюзаў і функцыянеры гэтых арганізацый гэтага не зразумелі, дык цяпер, перад абліччам жудасна растучай небясьпекі фашызма і вайны яны ўсё больш і больш разумеюць, што камуністы ня толькі не зьяўляюцца перашкодай на шляху да ўстанаўленьня адзінства рабочае клясы, а наадварот, найбольш садзейнічаюць гэтаму адзінству.

Ужо адозва Камуністычнага Інтэрнацыяналу ад 5 сакавіка 1933 г. (зараз пасьля гітлероўскага перавароту) аб супольнай барацьбе проціў фашызму і наступленьня капітала, пераканала многіх сацыял-дэмакратычных рабочых і функцыянераў у тым, што **камуністы згодны ў інтарэсах устанаўленьня адзінага фронту камуністычных і сацыял-дэмакратычных рабочых проціў буржуазіі пайсьці і на ўступкі.** Мы адкрыта і безагаворачна заяўляем: адмова ад палемікі з сацыял-дэмакратычнымі партыямі, ад нападак на іх палітыку клясавага супрацоўніцтва з буржгазіяй — гэтая адмова на час нашых супольных дзеяньняў проціў наступленьня капіталу, проціў фашызму і імпэрыялістычнай вайны зьяўляецца ўступкай.

Мы ідзем на гэтую ўступку хоць мы глыбака пераконаны, што наша палеміка з староньнікамі сацыял-дэмакратычнага клясавага супрацоўніцтва з буржуазіяй ня толькі ўгрунтована, **але зьяўляецца неадкладнай часткай рабочай дэмакратыі.** Гэта рабочая дэмакратыя не ў апошнюю чаргу заключаецца ў тым, што рабочыя, якія зьяўляюцца братамі па клясе, але розных поглядаў і пераконаньняў, павінны ў ідэалёгічнай барацьбе ўплываць адзін на другога мэтадамі ўзаемнага пераконваньня. Рабочая дэмакратыя азначае ня толькі права, але абавязак такога ўзаемнага пераконваньня. І за гэтую ўступку з нашага боку мы нічога іншага ад сацыял-дэмакратычных партый не дамагаемся, апроч уцягненьня ўсіх рабочых у адзіны фронт нашай агульнай барацьбы, проціў агульнага клясавага ворага.

**Мы, камуністы, ніколі і ні за што не адмовімся ад нашых прынцыпаў, ад нашай тактыкі.** Мы ніколі не адобрым і не дамо нашай згоды на супрацоўніцтва рабочай клясы з яе клясавым ворагам, з буржуазіяй. Мы стаялі, стаім і заўсёды будзем стаяць за рэвалюцыйнае зваленьне ўлады буржуазіі ва ўсялякай форме— як у форме фашыстоўскай улады, гэтак і ў форме буржуазнай дэмакратыі. Мы за неабмежаваную ўладу рабочае клясы, за дыктатуру пралетарыяту, за савецкую ўладу, якая можа быць устаноўлена толькі шляхам застасаваньня пралетарскага гвалту ў процілегласьць гвалту буржуазіі, толькі шляхам рэвалюцыі. Мы даказалі на прыкладзе Савецкага Саюзу, што толькі дыктатура пралетарыяту, толькі Савецкая ўлада можа ажыцьцявіць найшырэйшую дэмакратыю для ўсіх працоўных, расчысьціць шлях да сацыялізму. Але мы заўсёды заклікалі тых рабочых, якія яшчэ не падзяляюць нашых поглядаў ва ўсіх гэтых прынцыповых пытаньнях: змагайцеся разам з намі проціў нашага агульнага клясавага ворага, проціў непасрэдных небясьпек пагра添жаючых пралетарыяту! 1 студзеня 1922 г.

пасьля таго, як пачалося наступленьне капіталу на рабочую клясу ўсяго сьвету, мы зьвярнуліся да пралетарaў і пралетарак усіх краін з такой адозвай:

«...Ну што-ж, вы не рашаецеся яшчэ на барацьбу па ўсяму фронту, не рашаецеся яшчэ на барацьбу за ўладу, за дыктатуру з аружжам у руках, не рашаецеся на рашучы штурм проціў цытадэлі сусьветнай рэакцыі? Дык аб'яднайцеся-ж, па крайней меры, у барацьбе за самае існаваньне, у барацьбе за кавалак хлеба, у барацьбе за мір. Станавіцеся адзінай арміяй дзеля гэтай барацьбы, аб'яднайцеся, як пралетарская кляса, проціў клясы эксплёататараў і апусташыцеляў сьвету. Зрывайце перашкоды якія пастаўлены паміж вамі, станавіцеся ў адзіныя шэрагі незалежна ад таго, ці камуністы вы, сацыял-дэмакраты ці анархісты, ці сындыкалісты, каб змагацца проціў цяжкае нэндзы сёньняшняга дня. Камуністычны Інтэрнацыянал заўсёды прапанаваў рабочым, якія стаяць на грунце дыктатуры пралетарыяту, Саветаў, аб'яднацца ў самастойныя партыі. З таго, што было сказана па гэтаму поваду, у абгрунтаваньне неабходнасьці стварэньня самастойных камуністычных партый, ён ні аднаго слова не бярэ назад, ён пераконан у тым, што кожны новы дзень усё больш будзе пераконваць рабочыя масы ў правільнасьці яго дзейнасьці. Але ня гледзячы на ўсё тое, што нас разлучае, ён кажа: пралетары і пралетаркі ўсяго сьвету, злучыце свае шэрагі для барацьбы за тое, што вас злучае, за тое, што ўсе вы лічыце сваёй агульнай мэтай...»

Камуністы зноў паўтараюць сацыял-дэмакратычным і рэфармісцкім рабочым і іх функцыянерам: **«Няўжо-ж вы не адчуваеце, што наступленьне фашызму ў цэлым шэрагу краін азначае непасрэдную падрыхтоўку новай імпэрыялістычнай бойні народаў, азначае далейшае пагоршаньне становішча рабочае клясы?»**

Вы ідзеце за вашымі правадырамі, якія, па нашай думцы, праводзяць няправільную палітыку, палітыку клясавага супрацоўніцтва, палітыку адказваючую не інтарэсам пралетарыяту, а інтарэсам буржуазіі. Мы лічым, што правільна крытыкуем вашы партыі, але спрэчкі з вашымі правадырамі, нападкі на іх палітыку ня былі для нас самамэтай. Яны заўсёды былі і таксама цяпер зьяўляюцца для нас сродкам да барацьбы для ўстанаўленьня адзінства рабочае клясы проціў капіталізма. Імкнучыся дабіцца разрыву сувязі клясавага супрацоўніцтва з буржуазіяй, сувязі зьвязваючай такую значную частку рабочай клясы, як староньнікі сацыял-дэмакратыі, — каб сац.-дэмакратычныя рабочыя змаглі супольна з намі весьці барацьбу проціў нашага агульнага ворага, імкнучыся да гэтага мінімума прадпасылак пасьпяховай барацьбы з фашызмам, мы выяўлялі і выяўляем гатоўнасьць пайсьці на гэту ўступку вашым правадыром. Мы цьвёрда спадзяёмся, што супольная барацьба камуністычных і сацыял-дэмакратычных рабочых нават пры ўмове нашай часовай адмовы **ад важнай прадпасылкі рабочай дэмакратыі** — **ад** спрэчак проціў неправільнай палітыкі, — пераканае сацыял-дэмакратычных рабочых, што не рэфармісцкая палітыка, не супрацоўніцтва з клясавым ворагам, а непрымірымая клясавая барацьба проціў капіталізма і яго панаваньня зьяўляецца адзіна правільнай тактыкай рабочае клясы.

З гэтага перакананьня вынікае, што ніякімі ветлівымі, альбо варожымі адказамі той ці іншай **сацыял-дэмакратычнай партыі нельга змусіць камуністычныя партыі адмовіцца ад гэтага шляху пасьлядоўнай барацьбы за адзінства дзейнічаньняў пралетарыяту.**

Незалежна ад таго, як будуць адказваць кіруючыя сацыял-дэмакратычныя органы на нашы прапановы аб адзінстве дзейнічаньня, мы будзем заклікаць пралетароў бяз розьніцы іх партыйнай прыналежнасьці, да супольных выступленьняў проціў капіталізму, фашызму і імпэрыялістычнай вайны, у абарону жыцьцёвых інтарэсаў і правоў рабочае клясы. Мы гатовы ўносіць прапановы, мы гатовы весьці перагаворы і з кіруючымі органамі сацыял-дэмакратычных рабочых. Але мы ведаем, што наш неад'емны доўг — зьвяртацца з гэтымі прапановамі ня толькі да сацыял-дэмакратычных партыйных кіраўніцтваў, вядучы закулісныя пе-

рагаворы. Калі некаторыя камуністы яшчэ не разумеюць гэтага, дык цяпер яны павінны асабліва ўлічыць, **што кожная прапанова з якой мы зьвяртаемся да сацыял-дэмакратычнай партыі, ці рэфармісцкага цэнтру профэсыянальных саюзаў павінна суправаджацца сотнямі прапаноў усім зьвеньням сацыял-дэмакратычнай партыі і рэфармісцкіх профсаюзаў.** Мы павінны дабівацца таго, каб аб кожнай прапанове якой небудзь камуністычнай партыі, адносна супольных дзеяньняў процiў клясавага ворага,—староньнікі сацыял-дэмакратычнай партыі, члены рэфармісцкіх профсаюзаў былі шырака павядомлены шляхам найшырэйшай масавай работы. Калі ў Францыі, Швэйцарыі ці Англіі камуністы ўпусьцілі гэта з віду, не змаглі з дня ў дзень прад'яўляць рэзалюцыі сацыял-дэмакратычным партарганізацыям праз свае дэлегацыі, а мясцовым профорганам ці рэфармісцкім профцэнтрам — праз камуністычныя групы, не змаглі арганізаваць супольныя мітынгі і сходы камуністычных і сацыял-дэмакратычных рабочых, дык гэта, бязумоўна, памылка. Такія баявыя ўчынкі для ўстанаўленьня адзінства дзейнічаньня, як прапановы аб супольнай барацьбе за ратаваньне тав. Тэльмана, неабходна шырака агалашаць у дзесятках і сотнях тысяч лістовак. Такія баявыя мерапрыемствы павінны суправаджацца рэзалюцыямі сотняў камуністычных і сацыял-дэмакратычных арганізацый і фабрычна-заводзкіх сходаў. Толькі такая шырака разгорнутая супольная барацьба камуністычных і сацыял-дэмакратычных рабочых і членаў рэфармісцкіх і рэвалюцыйных профэсыянальных саюзаў — з прыцягваньнем ўдзелу ў гэтай барацьбе шырачэзных пластоў неарганізаваных пралетараў — забясьпечыць посьпех барацьбы.

Мы зноў і зноў паўтараем сацыял-дэмакратычным рабочым: вы нас камуністаў ня знаеце, калі думаеце, што мы спыніліся на палове шляху. Барацьба за адзіны фронт рабочае клясы ўключана ў праграму Камуністычнага Інтэрнацыяналу. У нас словы ніколі не разыходзяцца з чынам: мы прымаем нашу праграму ў сур'ёз. І ня гледзячы на ўсялякае дыплёматнічаньне, ня гледзячы на рэзкія адмовы, на замоўчваньне нашых прапаноў, мы зноў і зноў будзем зьвяртацца да вас, прапануючы вам супольна з намі змагацца процiў капіталізма, процiў імпэрыялістычнай вайны, процiў фашызма, за нашы агульна-клясавыя інтарэсы і за нашы непасрэдныя дамаганьні.

І вы, сацыял-дэмакратычныя рабочыя, таксама не павінны спыняцца на палове шляху. Уключайцеся-ж ў адзіны фронт рабочае клясы для перамогі над клясавым ворагам!

## Г. ГЕНРЫКОЎСКІ.

# Праявы разлажэньня

I.

Вострыя трэньні і ўнутраная барацьба ў буржуазным лягеры ўжо даводзяць да паважных праяваў разлажэньня ў кіруючай фашыстоўскай партыі — санацыі. Гэты працэс прыняў у апошні час паскораныя тэмпы. Прамова Прыстара супроць «партыйных праныраў», прамова Славэка на зьездах легіёнаў, шматлікія судовыя працэсы супроць распаўсюджанага прадажніцтва, дэмаралізацыі, — адкрываюць вобраз далёка зайшоўшага гніеньня гэтых «аздаравіцеляў грамадзкага жыцьця». «Кар'ерысты», «падлізы», «анучы», «людзкі пасьлед», «канальлі»— вось эпітэты Прыстара, Славэка па адрасу іх прыхільнікаў. Пераканаўчасьць гэтых лаянак сьведчыць аб тым, як моцна абвостраны ўнутраныя сваркі ў санацыі, як далёка сягае яе ўнутраны разрыў.

Гэтая грызьня ва ўрадавым лягеры, якая выліваецца наверх, зьяўляецца адбыцьцём труднасьцяў, на якія напатыкаецца польская буржуазія ў сваіх імкненьнях да капіталістычнага выхаду з крызісу.

Выбары ў гарадзкія і сельскія самаўрады выявілі значнае зьмяншэньне ўплываў і масавай базы санацыі. Хаця дагэтуль не апублікована колькасьць галасоў, атрыманых асобнымі партыямі, аднак, нават, на падставе перакручанай і сфальшаванай фашыстоўскай статыстыкі, можам арыентавацца ў зьменах, якія адбыліся ў часе выбараў у сойм.

Выбары ў вясковыя самаўрады, яшчэ больш, чым выбары ў гмінныя рады, адбываліся ў атмасфэры тэрору, прадажнасьці, шантажа, фальшаваньняў і машэньніцтваў рознага роду. Тыповым прыкладам «падрыхтоўкі» выбараў былі наступныя «ухваткі», якія прыводзяцца катавіцкай «Полоніяй».

«Паміж 10 гадз. вечара і 6 гадз. раніцы ў Львове абуджана 6 тыс. чалавек, дапучаючы ім павестку аб выкліку ў «староство гродзке» для праверкі выбарных сьпіскаў... Падпісы праверылі тым, што патрабавалі назваць напамяць усіх кандыдатаў па парадку, у якім яны былі на сьпісе. Падобны спосаб прымяняўся ў радзе іншых гарадоў, як напрыклад, у Прушкове, Перамышлі і т. д. Кандыдаты ў радныя павінны былі здаваць вымышленыя экзамены па мове».

Санацыя атрымала 3.298 мандатаў з агульнай колькасьці 5.786 мандатаў. Гэта мала гаворыць, калі ўзяць на ўвагу, што на адзін мандат у раду ў вялікім горадзе прыходзіцца некалькі тысяч галасоў, у той час, як у малым мястэчку патрэбна толькі некалькі сотняў або дзесяткаў галасоў. У вельмі многіх гарадох санацыя, або, таксама, яе арганізацыі, «перамаглі» без галасаваньня, дзякуючыануляваньню ўсіх іншых выбарных сьпіскаў. У 86 гарадах і мястэчках санацыя перамагла дзякуючы арганізацыі адзінага польскага фронту (часта супольна з ППС) пад сваёй фірмай. У Беластоцкім ваяводзтве на 44 гарады, у якіх былі аб'яўлены выбары, санацыйныя сьпіскі «перамаглі» такім чынам у 23 гарадох, між іншым у такіх, як Бельск-Падляскі, Супрасль, якія вядомы гераічнай барацьбой рабочых у мінулым годзе, Семятычы і г. д. На Украіне адзіныя польскія сьпіскі былі ў Дрогабычы, Гусятыне, Падгайцах; на Беларусі — у Навагрудку, Слоніме, Стаўпцах, Баранавічах. У многіх гарадох, асабліва на Заходняй Украіне, галасаваньне адбылося **толькі** ў некалькіх выбарных раёнах данага гораду, як напрыклад, у Самборы, Залешчыках

і г. д. Трудна падлічыць колькі ўсяго было анулявана выбарных сьпіскаў. Відавочна адно, што толькі ў выключных выпадках антыфашыстоўскія сьпіскі рабочай лявіцы ня былі скасованы. Толькі з аднаго Варшаўскага ваяводзтва маем такія-сякія зьвесткі аб колькасьці анулявaных сьпіскаў. Гэта дзякуючы палеміцы санацыі з эндэкамі, якія жаліліся на выбарны тэрор ураду. Санацыйны «Кур'ер Віленскі», прыводзіць наступную статыстыку з варшаўскага ваяводзтва:

«У 59 гарадох, дзе адбыліся выбары, прад'яўлена 847 сьпіскаў, з якіх анулявана толькі 117, прычым **камуністычных сьпіскаў анулявана 60,** чаму эндэцыя павінна радавацца. Сьпіскаў-жа «Строніцтва Народовэго» (эндэкаў) анулявана толькі 17, сьпіскаў ППС—14, яўрэйскіх—10».

Сапраўдную вартасьць трох з лішнім тысяч санацыйных мандатаў характарызуе выбарны закон і спэцыфічная выбарная геомэтрыя, дзякуючы якім колькасьць галасоў, патрэбных для атрыманьня мандата па санацыйным сьпіску, была без параўнаньня меншая, чым колькасьць галасоў, неабходных для атрыманьня мандата па іншым сьпіску. Напрыклад, у Сасноўцу на адзін мандат ББВР (санацыя) прыходзіцца 540 галасоў, на ППС—850 галасоў, а на мандат рабочай лявіцы—больш чым 4 тыс. галасоў.

Магчымасьць дакладнай арыентацыі ў зьменах, якія адбыліся ў масавай базе санацыі, дае толькі аналіз выбарных рэзультатаў у вялікіх гарадох. У перадавыя шэрагі выходзіць Лодзь, дзе ў 1930 г. санацыя атрымала каля 100.000 галасоў, а зараз—ледзь 30 тыс. галасоў. У Чэнстахове санацыйныя галасы расталі з 20 тыс. у 1930 годзе да 6 тыс. пры гэтых выбарах. Катастрафічнымі для санацыі былі вынікі ў шэрагу вялікіх гарадоў, дзе ў часе выбараў у сойм адзінка была на першым месцы, або атрымала абсалютную большасьць усіх галасоў. У Любліне, Радаме, Тарнове, Петрыкове, Калішы колькасьць санацыйных галасоў зьменшылася на 30-60 проц. у параўнаньні з выбарамі ў сойм.

Асноўная база санацыі значна зьменшылася; ад кіруючай фашыстоўскай партыі адыйшла значная частка польскага дробнага мяшчанства, часткова таксама і яўрэйскае дробнае мяшчанства. Польскія дробна - мяшчанскія выбіральнікі пайшлі наагул за эндэцыяй, асабліва ў такіх гарадох, як Лодзь, Люблін, дзе насельніцтва адчула ўжо на ўласнай скуры дабрадзействы пэпээсаўскіх магістратаў. У другіх гарадох значныя масы дробнамяшчанства, якія да нядаўна былі прыхільнікамі санацыі, аддалі свае галасы ППС. Гэта ў першую чаргу адносіцца да такіх гарадоў як Радам, дзе сьпісак эндэкаў быў анулявaны. Вялікія посьпехі атрымалі яўрэйскія буржуазныя партыі, якія амаль усюды выступілі з супольным сьпіскам. У многіх гарадох «Агуда» (санацыйная клерыкальная партыя) і санацыйныя сіяністы атрымалі па гэтых сьпісках найбольшую колькасьць галасоў.

Сярод рабочых мас санацыйная база звузілася нават у такіх цэнтрах, дзе З.З.З. мае значныя профсаюзныя арганізацыі. Найбольш характэрнымі з гэтага пункту погляду зьяўляюцца вынікі выбараў у т. зв. трыкутніку бясьпекі. Ва ўказаным Радаме на 38 мандатаў санацыя атрымала толькі 13, а адзіны не анулявaны апазыцыйны сьпісак — ППС — 26 мандатаў. У Астроўцы, дзе З.З.З. ахоплівае ўсіх рабочых «Закладув Островецкіх», санацыйны сьпісак з 32 мандатаў атрымаў толькі 10, эндэкі — 3, ППС — 6, сьпісак лявіцы быў анулявaны. Яшчэ больш яскравы быў вынік выбараў у фабрычны камітэт «Закладув Островецкіх», у якіх сьпісак рэфармісцкага профсаюзу атрымаў амаль што ўсе мандаты. У Скарышове санацыя здабыла толькі 2 мандаты з 12, або тую-ж самую колькасьць галасоў, што і анулявaны сьпісак лявіцы.

У рабочым асяродзьдзі вынікі выбараў былі вельмі рознаякія. Новым трывожным зьявішчам зьяўляецца ўварваньне эндэцыі ў рады рабочых. Побач з катастрафічным зьмяншэньнем галасоў ППС у Лодзі, значным аслабленьнем яе ўплываў у цэнтрах дамброўскіх гарнякоў, сацыялфашызму ўдалося атрымаць паважныя перамогі ў радзе рабочых цэнтраў (апрача ўспамінаных ужо Радама, Петракова, Каліша, Тарнова). Гэта ўказвае на павольныя тэмпы разлажэньня польскага сацыял-фашызму. Няправільна было-б

шукаць прычны выбарных посьпехаў пэпэсаўцаў у паасобных мясцовасьцях— толькі ў тым факце, што антыфашыстоўскія сьпіскі былі ануляваны. У выбарах у самаўрады пэпэсаўцы праявілі вялікую здольнасьць манэўраваньня рэвалюцыйнымі фразамі. Яны скарыстоўвалі ня толькі накірованыя супроць антыфашыстоўскага лягеру рэпрэсіі, але і яго слабасьці.

Калі йдзе справа аб антыфашыстоўскім лягеры, дык выбары выявілі далейшы ўзрост яго ўплываў. Атрыманьне ў самой Кангрэсоўцы больш як 30 тысяч подпісаў на антыфашыстоўскія сьпіскі, сотні беспартыйных кандыдатаў, даволі масавая выбарная кампанія, якая ў самой Лодзі ахапіла каля 25 тысяч чалавек, бурлівыя дэманстрацыі ў дзень выбараў у Лодзі, Влоцлаўку, Прушкове, у Мінску Мазавецкім, Каляшыне і ва многіх іншых гарадох, протэстацыйная забастоўка 2 тысяч рабочых «Мануфактуры Озорковскей» супроць скасаваньня лявіцовага сьпіска — усё гэта сьведчыць аб паступовым перамаганьні рабочымі масамі фашыстоўскага тэрору. Адсутнасьць усякіх данных аб колькасьці ануляваных галасоў затрудняе орыентацыю ў суме антыфашыстоўскіх уплываў, як яны праявіліся на выбарах у самаўрады. З афіцыяльных фашыстоўскіх даных вынікае, што левыя сьпіскі атрымалі мандаты: у Варшаўскім ваяводзтве — 8; у Келецкім—29; у Люблінскім — 3, разам — 40 мандатаў. Ёсьць весткі, што колькасьць ануляваных лявіцовых галасоў пераважае ў **Лодзі** колькасьць галасоў «сацыялістычнага блёку»; у **Дамброўскім басэйне** (Сасновец — больш як 10 тысяч, у той час, як ППС — 6 тысяч; Бэндзін—3500—4000, ППС — каля 2 тыс.; Дамброва — больш як 4 т., ППС—3500; Чэлядзь—каля 3 т.)— разам больш як 20 тысяч галасоў, у той час, як ППС атрымала 10-12 тысяч; у **Вільні**—каля 4 тыс. галасоў, у **Чэнстахове**—больш як 3 тыс. галасоў, у **Влоцлаўку** — каля 4 тысяч галасоў. З меншых гарадоў — Бяла Падляска, Мендзыржэчэ — па 1000 галасоў.

* * *

Зьмены, якія выявіліся на выбарах у самаўрады, адбываюцца пад уплывам гаспадарчай сітуацыі і абвостраных клясавых супярэчнасьцяў.

Буйныя забастоўкі апошніх 2-х год перашкодзілі буржуазіі правесьці левіятанска-абшарніцкі «прыстараўскі» плян з сьнежня 1932 году. Правядзеньне гэтай праграмы ў разсрочку сустрэнула таксама вялізарнае супраціўленьне рабочае клясы, доказам чаго была хваля частковых забастовак у першай палове г. году. Ня гледзячы на затармажэньне агульнага зьніжэньня прамысловай прадукцыі, прыкметы палепшаньня былі і ёсьць слабыя. Узрост прадукцыі датычыцца перадусім пераапрацоўчай прамысловасьці. Хаця санацыйны друк і баламуціць масы, што ўжо ёсьць значнае гаспадарчае палепшаньне. Левіятан, а разам з ім і ўрад, цьвяроза ацэньвалі бліжэйшыя перспэктывы. Справаздача Левіятана за мінулы год малюе гэтыя перспэктывы наступнымі словамі:

> «Сімптомы палепшаньня трэба ацэньваць з вялікай асьцярожнасьцю, да чаго змушае ў першую чаргу той рашаючы факт, што становішча сельскай гаспадаркі, якая прадстаўляе галоўны рынак збыту, ня выявіла ў справаздачным годзе палепшаньня, зьмяншэньня плацяжоў і заработкаў... неабходнасьць зьмяншэньня дзяржаўнага бюджэта і камунальных бюджэтаў, рэалізацыя нацыянальнай пазыкі — усё гэта было фактарамі, якія ўплылі на зьмяншэньне пакупнай здольнасьці ўнутранага рынку».

Такім чынам, усё ўказвае, што Польшча будзе перажываць дэпрэсію цяжэй, як іншыя капіталістычныя дзяржавы.

Гэта непасрэдна адчуваюць шырачэзныя працоўныя масы. Становішча рабочае клясы ўсьцяж пагаршаецца. Беспрацоўе не зьмяншаецца. Нязначны процант беспрацоўных атрымлівае жабрацкія дапамогі. Аб беднаце вёскі сама буржуазная прэса падае жахлівыя малюнкі.

Па ўсёй краіне шырыцца забастовачны рух. У масах нарастае са стыхійнай сілай імкненьне да адзінага фронту. Супольная барацьба пэпэсаўскіх і камуністычных рабочых у Варшаве супроць штурмавікоў «Нары», што раз, то відавочнейшае ламаньне насупракі супраціўленьня кіраўнікоў ППС і Бунда, будуемых імі паміж сацыялістычнымі і ка-

муністычнымі рабочымі бар'ераў — зьяўляюцца яскравым доказам гэтага імкненьня. Актыўнасьць рабочых мас узрастае.

Незадаваленьне ўсё больш ахоплівае тыя праслойкі, якія санацыя лічыла да гэтага часу за сваю найпэўнейшую базу. Санацыйныя зьезды і канфэрэнцыі інтэлектуальных работнікаў, профсаюзу настаўнікаў пачатковых школ выявілі такое ўзбурэньне ніжэйшых дзяржаўных работнікаў, што аж друк, як і кіраўніцтва санацыі, ударылі трывогу.

Іменна перад абліччам таючых уплываў у масах правадыры кіруючага фашызму стараюцца скінуць адказнасьць за жахлівую бядоту, у якой апынуліся самыя шырокія працоўныя масы, на «партыйных праныраў», якія быццам прымазаліся да «чстага» лягера «маральнага адраджэньня». Каб замыліць вочы сваім староньнікам, некаторыя санацыйныя органы на чале з «Кур'ерам Поранным» пачалі крытыку «чацьвёртай брыгады, асабліва кансэрватыстаў з пад знаку князя Радзівіла і кракаўскіх Станчыкаў.

Трэньне, якое разгараецца ўнутры санацыі, мае шмат рысаў, супольных з барацьбой, якая ў гэты час адбываецца ў нацыянальнай дэмакратыі. І тут і там лічаць неабходным абнаўленьне кіраўніцтва, увядзеньне мацнейшай сацыяльнай дэмагогіі за ўмову адцягваньня працоўных мас ад пераходу ў антыфашыстоўскі рэвалюцыйны лягер.

І тут і там «старшыя» стараюцца прыстасаваць сваю фразэолёгію да новых патрабаваньняў часу, але яны сустракаюць недавер'е ва ўласных шэрагах. Спаборніцтва ў барацьбе за пашырэньне масавай базы вядзе да ўсё большага падабенства праграм абодвух галоўных фашыстоўскіх партый. Гэтае спаборніцтва зьяўляецца выразам заклапочанасьці **ўсёй** буржуазіі аб далейшым лёсе свайго клясавага панаваньня, выразам канцэнтрацыі **ўсіх контррэвалюцыйных** сіл супроць пралетарскай рэвалюцыі. Аднак гэта вядзе да ўпартай барацьбы санацыі за ўтрыманьне сваёй гегемоніі ў лягеры контррэвалюцыі, за ўтрыманьне сваёй масавай базы, да завастрэньня барацьбы з эндэцыяй разам з яе прыбудовамі, якая (эндэцыя) прэтэндуе на гегемонію ў лягеры буржуазіі. Забойства Перацкага, акружанае падазронай патаемнасьцю ўрадавымі сфэрамі, якія пасьля доўгага маўчаньня намагаюцца скінуць гэтае забойства на ўкраінскіх нацыяналістаў, яскрава адлюстроўвае супярэчнасьці, якія разьдзіраюць заможныя клясы ў Польшчы.

II.

Унутраная палітыка фашыстоўскай дыктатуры зьяўляецца адлюстраваньнем нарастаючага працэсу разлажэньня ў санацыйным лягеры. Яна прыймае ўсё больш выразныя рысы бегатні ў пошуках выхаду. За ўвесь час свайго існаваньня санацыя імкнулася да ўзмацненьня свайго манаполю ў апараце кіраваньня. У пэрыяд найбольшай папулярнасьці і шарлатанскай рэклямы гітлерызму ў Польшчы, санацыя нядвузначна падкрэсьлівала ідэю «тотальнай дзяржавы» стварэньнем інстытуцыі «Легіёну заслужоных», характар новай канстытуцыі, імкненьне да стварэньня фашыстоўскага манаполю профсаюзных арганізацый. Яна ўсімі сіламі імкнулася да далейшай канцэнтрацыі ўлады, каб накінуць працоўным масам гаспадарчую праграму Левіятана і прыстасаваць дзяржаўны апарат да антысавецкай вайны з гаспадарчага і ваенна-адміністрацыйнага пункту гледжаньня.

Пасьля назначэньня Казлоўскага Левіятан даваў новаму ўраду наступныя дырэктывы:

> «Вырашэньне гэтай праблемы (дыспрапорцыі паміж грамадзкімі цяжарамі і магчымасьцямі гаспадарчага жыцьця) будзе вымагаць генэральных рашэньняў ураду... Калі гэтае заданьне каранілася **статычна** ў дагэтуляшняй праграме дзяржаўнай палітыкі, дык дынаміка яго вырашэньня павінна прадстаўляць «норум» у палітыцы сёньняшняга габінэта» («Пшыглёнд Гаспадарчы» 1 чэрвеня г. г.).

Гэтая дынаміка мелася грунтавацца на рэалізацыі да канца супольных жаданьняў Левіятана і Саюзу Землеўласьнікаў: далейшай ліквідацыі сацыяльнага стра-

хаваньня, правядзеньня ліквідацыі 8 гадзіннага рабочага дня і ангельскай суботы, падатковага аблягчэньня і адтэрміноўкі для даўгоў буйнай прамысловасьці, абшарнікаў і кулацтва, ліквідацыі калектыўных дагавораў, абмежаваньня правамоцтваў профсаюзаў. Ужо прамова Прыстара, сказаная ім на некалькі тыдняў раней, тлумачаная эндэцкай і пэпээсаўскай прэсай, як кандыдацкая прамова будучага прэм'ера, заключала ў сабе гэтыя абшарніцка-капіталістычныя пастулаты. Першыя праекты аб даўгох, якія былі абвешчаны міністрамі фінансаў і земляробства, былі проста літэральна перапісаны з мэморыялаў Саюза Землеўласьнікаў. Увядзеньне па прыкладу Гітлера канцэнтрацыйных лягераў, новая хваля тэрору пад выглядам рэпрэсій за забойства Перацкага — мелі нанесьці сакрушальны ўдар рэвалюцыйнаму руху, аўладаць пашыраючайся забастовачнай хваляй і адначасова аслабіць эндэцкіх канкурэнтаў. Гэта была палітыка «моцнай рукі», разам з якой ішлі прагныя крыві пагрозы прэм'ера Казлоўскага і санацыйных органаў з «Газэтай Польскай» на чале.

Але ні ў адным закутку Польшчы не настала гэтая цішыня пад абухам тэрору, якою Гітлер у першым пэрыядзе сваей дыктатуры імпанаваў міжнароднай буржуазіі. На пагрозы ўраду пралетарыят, у першую чаргу—сталіцы, адказаў шэрагам выступленьняў пад лёзунгам адзінага фронту.

Ва ўрадавым лягеры было заўважана нэрваваньне, няпэўнасьць, пошукі фортак. Тэрор ня быў зьмягчаны ні на мінуту. Аднак, у тоне афіцыяльных прамоў, у тоне санацыйнай прэсы, нешта зьмянілася. Пачаліся «выясьненьні» быццам прынцыповай розьніцы паміж дыктатурай Гітлера і дыктатурай Пілсудзкага. 21 чэрвеня г. г. «Газэта Польска» абвясьціла:

> «Палітыка пасьлямаёвых урадаў ня йшла і ня йдзе па лініі **«суцэльнай дзяржавы»,** азначаючай у практыцы ўтожсаменьне дзяржавы з пануючай партыяй. Ня йдзе і ня маем намеруісьці па гэтай лініі. Чаму? Таму, што такі мэтад **пераносіць** на даўжэйшы час існуючыя і няўхільныя **супярэчнасьці** звонку — **унутр.** Нявыяўленьне супярэчнасьцяй яшчэ ня ўхіляе іх. Яны не перастаюць існаваць — толькі заместа выражацца ў форме сутычак паміж яўна рознымі лягерамі палітычнай думкі—разыгрываюцца ў форме такіх самых сутычак унутры манапалітычнай партыі».

Чаловы орган санацыі выясьняе далей, што кіруючы лягер гатоў дапусьціць ігру палітычнай думкі», выключаючы з яе КПП і УВО. Гэта накіравана па адрасу таксама эндэцыі, як і ППС і «Стронніцтва Людовэго», а такжа іх частак, заклікань́не да «супрацоўніцтва з урадам» у барацьбе з рэвалюцыйным рухам на падставе далейшай канцэнтрацыі улады і абсалютнага манаполю кіраваньня ў руках санацыі.

Падобную прапанову, але ўжо выразную, падае па адрасу «Стронiцтва Людовэго» Кур'ер Поранны», орган уплывовых пілсудчыкаўскіх груповак, які зараз выступае ня больш і ня менш, як з лёзунгамі арганізацыі фашыстоўскім урадам... калгасаў:

> «Нацыянальны лягер і моладзь, згрупаваная у арганізацыях вясковай моладзі — як аб гэтым сьведчаць шматлікія апавяшчэньні — бачыць неабходнасьць **аграмаджаньня** зямельнай гаспадаркі і наогул усякіх варштатаў прадукцыі.
>
> Захоўваючы прыватную малую зямельную ўласнасьць, не дапушчаючы да яе раздрабленьня, трэба адначасова арганізаваць **вялікія грамадзкія зямельныя гаспадаркі,** будаваць новыя структурныя формы і закладаць фундаманты пад **дзяржаву працы, якая зарысоўваецца.**
>
> ...У хвіліну, калі ўрад пачне класьці падваліны пад новую дзяржаву працы, у шэрагах змагаючыхся за новыя формы гаспадарчага і палітычнага жыцьця мусіць знайціся і знойдзецца кожны, хто жадае дабра

польскай вёсцы і агульнага дабра, перш за ўсё — **увесь нацыянальны лягер».**

Прапановы такога роду зьяўляюцца выразам слабасьці, а ня сілы кіруючага лягеру. Але ў Польшчы, дзе кіруючая фашыстоўская партыя носіць назоў «беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам», гэтыя, на выгляд «ліберальныя зігзагі» зьяўляюцца таксама пошукамі сярод новых труднасьцяў акольнай дарогі ў кірунку манапольнай фашыстоўскай партыі. Дзеля таго за гэтым крокам ідзе лёзунг «пардак мусіць быць» і адпаведныя рэпрэсыйныя сродкі супроць апазыцыйных партый буржуазіі і далейшае імкненьне да пашырэньня непасрэднай апоры ў масах.

Лёзунгам для новага тону санацыйнай прэсы было выступленьне Пілсудзкага ў справе, у якой «ББВР» трымаўся да апошняга часу вельмі задзёрыста ў стасунку да буржуазнай апазыцыі: у справе канстытуцыі. Пілсудзкі, трымаючы ў рэзэрве арганізацыю «Легіёна заслужоных» здэзавуіраваў «царскую» канстытуцыю, загадваючы нанова прадыскутаваць яе ў сойме і сэнаце і прадракаючы правядзеньне абмежаваных выбараў у сойм і сэнат. Апрача таго, на пасады міністраў унутраных спраў і земляробства высоўваюцца фігуры, якія адыгрывалі значную ролю ў лявіцовых сялянскіх партыях.

Гэтыя манэўровыя крокі санацыі пачаліся яшчэ **перад** вядомымі нямецкімі падзеямі. Зьвесткі аб пераломе згніўшай да мазга касьцей гітлераўскай дыктатуры не зьявіліся, відавочна, прычынай для палепшаньня самапачуцьця дыктатуры Пілсудзкага, асабліва, калі адначасова даходзіць рэха баёў пралетарыята ў Парыжы, Мадрыдзе, Амстэрдаме і Сан-Францыско.

**Хуткае разлажэньне германскага фашызму зьяўляецца паважным ударам для ўсіх фашыстоўскіх груп у Польшчы.** Гэта ўдар як у санацыю, так і ў эндэцыю. Зьнікае арэол, які акружаў моцную руку Гітлера. Масы бачаць сёньня ўсё выразьней банкроцтва і безнадзейнасьць капіталістычнага выхаду з крызісу. Германскія падзеі — гэта адначасна моцны ўдар у «вялікадзяржаўную» загранічную палітыку Пілсудзкага, якая да гэтага часу так імпанавала шырокім пластам дробнамяшчанства і моладзі.

Германскія выпадкі, бяз сумленьня, паскораць і паглыбяць працэс разлажэньня які разьядае знутры кіруючы лягер у Польшчы, павялічвае труднасьці, з якімі змагаецца дыктатура Пілсудзкага. Яшчэ мацней крызіс гітлерызма адаб'ецца на пэўна на далейшым разьвіцьці распачатага з такім размахам младаэндэцкага руху. Магчыма, што санацыя, якая да гэтага часу канкуравала з эндэцыяй у расхвальваньні Гітлера, будзе старацца адгарадзіцца ад гітлерызма і прадставіць эндэцыю, як двайнік Гітлера ў Польшчы. Санацыя будзе імкнуцца да здабыцьця страчаных на карысьць эндэцыі дробнамяшчанскіх мас.

Не падлягае сумненьню, што становішча, якое зараз вытвараецца, дае нам большыя, як раней шансы на вызваленьне галоўным чынам дробнамяшчанскіх мас з пад уплываў абодвух фашыстоўскіх груповак, на заваяваньне шырокіх мас працоўнага сялянства, на распыленьне душачага чаду фашыстоўскай дэмагогіі, нацыяналізму і антысэмітызму. Сыстэматычная барацьба супроць вялікай небясьпекі з боку нацыянальнай дэмакратыі, стаіць перад намі, як важнае заданьне дня. Мы маем спрыяючую сітуацыю для здабыцьця мас працоўнай моладзі, для пераканаваньня мас, што адзіным выхадам ёсьць сацыялізм, адзіным шляхам — пралетарская рэвалюцыя. Мы маем спрыяючую сітуацыю для заваяваньня салдацкіх мас, для раскладу арміі, якая зьяўляецца і надалей наймацнейшай апорай фашыстоўскага рэжыму.

Існуюць аб'ектыўныя ўмовы для мабілізацыі шырокіх мас для рэвалюцыйнага наступу, для разгортваньня магутнага адзінага рабочага фронту, рабоча-сялянскага саюзу. Абвостраная барацьба ў лягеры буржуазіі, бурленьне і трэньне ў абодвых галоўных фашыстоўскіх партыях, узрастаючы разлад паміж нізамі і вярхамі ППС і Бунду ў справе адзінага фронту—утвараюць нязьлічоныя шчыліны і пункты зачапеньня для рэвалюцыйнай ініцыятывы і актыўнасьці.

Але ня трэба забываць, што фашызму, які кідаецца сярод узрастаючых труднасьцяй і супярэчнасьцяй, у сучасны мо-

мант памагае ўся палітыка ЦВК ППС і кіраўніцтва іншых сацыял-фашыстоўскіх партый. Правадыры ППС проста аблягчаюць манэўровыя крокі ўраду адурманьваньнем мас, што канцэнтрацыйныя лягеры накіраваны ў першую чаргу супроць эндэкаў, што міністр Панятоўскі, гэта ліберал, «які прадстаўляе сабою найлепшую волю і найбольшыя здольнасьці» (Недзялкоўскі), незацікаўлены ў санацыйнай палітыцы. Правадыры ППС і іншых сацыялістычных партый аблягчаюць ураду ўзмацненьне тэрору, разьбіваюць і сабатуюць адзіны фронт, які ўтвараецца супроць фашызму.

Прыклад германскай сацыял-дэмакратыі, якая ў адносінах да падзеяў у Германіі фразэалёгіяй аб рэвалюцыйнай дыктатуры проста пераскаквае да адкрытага дэкляраваньня сваёй гатоўнасьці супрацоўніцтва з Рэйхсвэрам, даводзіць, чаго можа спадзявацца рабочая кляса ад правадыроў гэтых партый у часе пералому фашыстоўскай дыктатуры і перад аблічам адкрытага рэвалюцыйнага крызісу.

Жыцьцё паказала, што толькі мы—камуністы прадбачылі разьвіцьцё падзей, правідлова намалявалі перспэктыву. Пэпээсаўскія і трацкісцкія нісянеціцы аб контррэвалюцыйнай эпохе, якую быццам меўся распачаць гітлероўскі пераварот у Германіі—абанкроціліся. Працэсы, якія адбываюцца сярод працоўных мас Польшчы, трэньне ў лягеры буржуазіі, працэс разлажэньня лягеру пілсудчыкаў — сігналізуюць набліжаючуюся буру.

---

**СПРАВА ЎЛАДЫ ЯШЧЭ НЯ СТАЛА ЦЭНТРАЛЬНЫМ ЗЬВЯНОМ ШТОДЗЕННАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ ПАРТЫІ. ПРАКТЫКА НАШЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ЯШЧЭ НЯ ЎЗЬНЯТА НА ТАКІ ПАЛІТЫЧНЫ ЎЗРОВЕНЬ, КАБ «МАСЫ БАЧЫЛІ Ў КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ НЯ ТОЛЬКІ ПРАВАДЫРА Ў СВАЁЙ ШТОДЗЕННАЙ БАРАЦЬБЕ, АЛЕ ТАКСАМА СІЛУ, ЯКАЯ ІДЗЕ ДА ЎЛАДЫ». НАША АГІТАЦЫЯ НАДТА СЛАБА ЎВЯЗВАЛАСЯ Ў ГЭТАЙ СПРАВЕ З ШТОДЗЕННЫМІ ЗЬЯВІШЧАМІ І НАОГУЛ АДНАСТАЙНА ПРОЦІСТАЎЛЯЛАСЯ МАНЭЎРОВЫМ ХІТРЫКАМ САЦЫЯЛ-ФАШЫЗМУ. ГАЛОЎНАЙ ЗАДАЧАЙ ПАРТЫІ ПАВІННА БЫЦЬ У ДАЛЕЙШЫМ ТАКОЕ ПАЛІТЫЗАВАНЬНЕ ПРАЦЫ, ЯКОЕ НАЎЗВОЧНА ПАКАЗВАЛА-Б МАСАМ, ШТО БЕЗ РЭВАЛЮЦЫІ, БЕЗ УЗБРОЕНАГА ПАЎСТАНЬНЯ РАБОЧЫХ, СЯЛЯН І САЛДАТ НЯ МОЖА БЫЦЬ ТРЫВАЛАГА ПАЛЕПШАНЬНЯ ЖЫЦЬЦЯ, НЕМАГЧЫМЫ ВЫХАД З КРЫЗІСУ.**

**(З рэзалюцыі ЦК КПП).**

П. КОРЧЫК.

# Досьлед забастовачнай барацьбы лясных рабочых

Шырокая хваля забастовачнай барацьбы пралетарыяту, якая зьяўляецца галоўным зьвяном сучаснага рэвалюцыйнага ўздыму ў Польчы, уцягвае таксама ў забастовачную барацьбу да нядаўна яшчэ пасыўныя масы вясковага пролетарыяту. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца ўсё пашыраючыся забастовачны рух лясных рабочых і возчыкаў у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Ужо ў леташнім годзе барацьба лясных рабочых супроць усё узмагаючагася націску капіталістаў і фашыстоўскай дзяржавы, у руках якой знаходзяцца найбольш буйныя лясныя разработкі у Заходняй Беларусі, вылілася ў буйныя і вельмі упорлівыя забастовачныя баі у Белавескай Пушчы і Пружаншчыне, якія закончыліся паважнай перамогай рабочых і сялян. Зімой гэтага году гэтая барцьба прыняла яшчэ больш шырокія разьмеры, пашырылася на новыя раёны Беласточчыны, Горадзеншчыны, Слонімшчыны і Палесься, ахапіўшы да 10 тысяч рабочых і сялянскай беднаты.

Лясныя разработкі і дрэваабрабляючая прамысловасьць зьяўляецца аднэй з падставовых галін прамысловасьці ў Заходняй Беларусі. Рабочыя тартакоў, фанерных фабрык і другіх прадпрыемстваў па апрацоўцы дрэва зьяўляюцца найбольш чысленным атрадам пралетарыяту ЗБ. Апрача таго кожны год, асабліва ў зімовы і вясеньні сэзоны, дзесяткі тысяч рабочых знаходзяць працу пры вырубцы, вывазе і сплаве лесу. Гэтыя рабочыя вербуюцца галоўным чынам з мясцовай сялянскай беднаты і часткова з пасярод серадняцтва. Востры зямельны голад, збядненьне і разарэньне шырокіх сялянскіх мас, пастаянная пагроза падаткавых экзэкуцый гоніць сялянскую беднату шукаць заработкаў на лясных распрацоўках. Зацяжны прамысловы крызіс, які асабліва востра адбіўся на дрэваапрацоўчай прамысловасьці, вастрыня аграрнага крызісу і хранічны голад у ЗБ выкарыстоўваюцца фашыстоўскім урадам, абшарнікамі і ляснымі прамыслоўцамі для нябывалага пагаршэньня варункаў працы лясных рабочых.

Заробкі зьніжаны больш чым на палавіну пры нічым неабмежаваным рабочым дні — ад зары да зары. Усе падрыхтаваўчыя работы, як напрыклад расчыстка эксплёатуемага пляцу, зусім неаплачваюцца. Карыстаючы з залежнасьці мясцовых сялян ад абшарнікаў і дырэкцыі дзяржаўных лясоў, рабочым і возчыкам навязваюць розныя дадатковыя кабальныя павіннасьці, як адработкі за гальлё і буралом на апал, за пашу быдла, збіраньне грыбоў і ягад, здачу ў арэнду сенажацяў і г. д. Жыльлёвыя варункі рабочых страшэнныя. З заработкаў робяцца адлічэньні за права пражываньня ў гнілых бараках і зямлянках, якімі рабочыя змушаны карыстацца, дзеля таго, што лясныя разработкі часта ляжаць за дзесяткі кілёмэтраў ад іх мейсца пражываньня. Брак усялякай мэдыцынскай дапамогі, запамогаў на выпадак калецтва, хваробы. Выплата заработкаў затрымліваецца, як правіла, па некалькі месяцаў. Рабочых і возчыкаў бязсовесна абмерваюць пры прыёмцы загатоўленага ці зьвезенага матар'ялу.

Пэўнае ажыўленьне ў лясной прамысловасьці пасьля зацяжнога вострага застою, агульны ўздым забастовачнай барацьбы пралетарыяту, прыклад пасьпяховых леташніх забастовак у Белавежскай Пушчы і Пружаншчыне былі магутным штурхачом для разгортваньня забастовачнай барацьбы лясных рабочых у шэрагу раёнаў Заходняй Беларусі,

У канцы лістапада 1933 году па ініцыятыве левага прафсаюзу ў Навасёлках распачалі забастоўку рабочыя і возчыкі ў 3-х надлясьніцтвах (Валілскім, Крынскім і Сакольскім) дзяржаўных лясоў у Беласточчыне. Праз два тыдні, дзякуючы энэргічнай дзейнасьці мясцовых партарганізацый, забастоўка пашыраецца на шэраг другіх надлясьніцтваў, як Супрасль, Злота-Весь, Чарна-Весь Кумялка, Кнышын, Беласток і інш. з ахопам больш 3 тысяч рабочых і возчыкаў. Адначасна з ініцыятывы і ў выніку падрыхтоўкі мясцовай партарганізацыі распачалі забастоўку возчыкі дзяржаўных і прыватных лясоў на Слонімшчыне. Забастоўка шпарка пашыраючыся, ахапіла каля 3 тысяч сялян і 50 вёсак. Барацьба лясных рабочых Беласточчыны і Слонімшчыны знайшла шырокі водгук у другіх раёнах ЗБ: забаставалі сяляне 5 вёсак у Берасьцейскай акрузе і лясных рабочых у Охаўскім раёне на Піншчыне, а ў самы апошні час — лясныя рабочыя і возчыкі 10 вёсак Сьвіслацкага раёну.

Дамаганьні бастуючых рабочых і сялян у залежнасьці ад мясцовых варункаў былі розныя. Падстававымі з іх былі: павялічэньне заработнай платы на 50 процантаў, устанаўленьне 8-мі гадзіннага рабочага дню, карыстаньне больнічнымі касамі. Апрача таго ў розных мясцох быў высунуты шэраг дадатковых вельмі важных лёкальных дамаганьняў, як напр. бязплатны, альбо на льготных варунках водпуск будаўляных матар'ялаў, апалу, пашы, бязплатнае карыстаньне з зямлянак і баракаў, аплата за расчыстку пляцу і другія падрыхтаваўчыя работы, кантроль з боку рабочых пры абмеры лесаматар'ялаў, рэгулярная выплата заработкаў, вывешваньне расцэнак, супроць рэдукцыі і т. п. У выніку барацьбы значная частка гэтых дамаганьняў была выіграна і такім чынам стачкі гэтага году зьяўляюцца буйнай перамогай лясных рабочых.

Гэтыя стачкі зьяўляюцца пераломным момантам у арганізацыі барацьбы мас вясковага пралетарыяту і паўпралетарыяту, што да самага апошняга часу была вельмі слабым вучасткам у працы нашай партыі на вёсцы. Офэнзыўны характар гэтых забастовак, ступень іх арганізаванасьці, іх баявы характар, які выявіўся ў упорнай арганізаванай барацьбе са штрэйкбрэхерамі, баявых масавых паходах і дэманстрацыях, адпоры паліцыі і фашыстоўскаму тэрару сведчаць аб вялізарнай рэвалюцыйнай актыўнасьці вясковага пралетарыяту і сялянскай беднаты. Увесь ход забастовак сьведчыць аб іх высокім палітычным ўзроўні. Па меры разьвіцьця стачак, побач з эканамічнымі дамаганьнямі быў высунуты шэраг палітычных дамаганьняў — звальненьне арыштаваных, прызнаньне профсаюзаў, супроць антырабочага сацыяльнага законадаўства. Мітынгі і дэманстрацыі праходзілі пад лёзунгамі барацьбы супроць фашыстоўскай акупацыі і крывавага тэрору. Гэраічная барацьба рабочых і сялян супроць банд паліцыі і фашыстоўскіх арганізацый, з якіх галоўным чынам вербаваліся штрэйкбрэхеры, безпасрэдна конфрантавала масы з фашыстоўскім дзяржаўным апаратам. Улада адразу ацаніла антыфашыстоўскі і антыакупацыйны характар гэтых забастовачных баёў і мабілізавала сілы паліцыі і фашыстоўскіх банд для здушэньня стачак, ня спыніўшыся перад расстрэлам рабочых і пацыфікацыяў цэлых раёнаў.

Размах забастовачнай барацьбы, яе арганізованасьць, баявы характар і высокі палітычны узровень з'яўляюцца рэзультатам упорлівай працы з боку нашай партыі. Стачкі паўсталі і праходзілі над выключным кіраўніцтвам партыі. Партарганізацыі ў значнай меры ўзялі пад увагу ўрокі папярэдніх стачачных баёў і разгарнулі энергічную дзейнасьць па падрыхтоўцы, арганізацыі і кіраўніцтву забастовачнай барацьбы. На асаблівую ўвагу заслугоўвае шырокая масавая праца ў галіне распрацоўкі дамаганьняў, пашырэньня забастовачнай барацьбы на суседнія вёскі і раёны, арганізацыя шырокай сеткі забастовачных камітэтаў і другіх органаў барацьбы, а таксама ў галіне арганізацыі барацьбы са штрэйкбрэхерамі і фашыстоўскім тэрарам, у галіне падняцьця палітычнага ўзроўню стачак.

Яшчэ да пачатку стачак былі арганізованы два аддзелы прафсаюзаў дрэваапрацовачных рабочых і забясьпечана ў іх кіраўніцтва профлевай. Гэтыя прафсаюзы адыгралі буйную ролю ў дзеле

арганізацыі стачак і мабілізацыі мас. У Беласточчыне з самага пачатку разгарнулася шырокая праца па арганізацыі сеткі нізавых забастовачных камітэтаў, якая пашыралася па меры разьвіцьця стачкі. 29 сьнежня адбылася канфэрэнцыя дэлэгатаў ад нізавых забастовачных камітэтаў, на якой выбраны цэнтральны забастовачны камітэт, да канца кіраваўшы стачкай.

У Слонімшчыне арганізацыя забастовачных камітэтаў і разгортваньня масавай работы распачаліся не адразу. Тут прышлося ламаць усё яшчэ закаранеўшыя ў шэрагах нашых вясковых партарганізацый сэктанцкія настроі — недаацэнка арганізацыі органаў барацьбы мас, як забастовачныя камітэты, сялянскія камітэты і іншыя. Але ўжо у пачатку студзеня партарганізацыя дабіваецца пералому. Аб гэтым яскрава сьведчаць наступныя цыфры: толькі за 6 дзён з 4 па 10 студзеня было праведзена 15 сходаў і канфэрэнцый з ахопам звыш 1.500 чалавек, выбрана 5 дэлегацый у суседнія вёскі з мэтай пашырэньня стачкі, арганізована 10 забастовачных камітэтаў і выбраны цэнтральны забастовачны камітэт, створана 7 дружын самаабароны лікам да 250 чалавек.

У абедзьвюх стачках стачкомы праявілі значную актыўнасьць. У выніку паважнай масавай работы вылучаны шырокі беспартыйны актыў, стачкомы перавыбіраліся і папаўняліся актывістамі, якія вылучыліся у ходзе стачак. Праведзеная масавая работа выявілася ў значным ліку масавых сабраньняў і канфэрэнцыі, у выбары дэлегатаў, стварэньні камітэтаў дапамогі, пікетаў, дружын самаабароны, у арганізацыі мітынгаў і дэманстрацый. Усё гэта забясьпечыла ўзмацненьне кіраўніцтва з боку партыі і падняло баявую актыўнасьць мас, што асабліва яскрава выразілася ў арганізацыі барацьбы са штрэйкбрэхерамі і адпору фашыстоўскаму тэрару.

Адміністрацыя дзяржаўных лясоў і прыватныя прамыслоўцы адразу мабілізавалі для зрыву стачкі банду штрэйкбрэхераў, якія вербаваліся пераважна з мясцовага кулацтва, белагвардзейскіх бандаў і фашыстоўскіх арганізацый, як Стрэлец, Саюз рэзэрвістаў і др. Банды гэтыя працавалі пад ахранай узброенай паліцыі і лясной стражы. Але высокая актыўнасьць мас, глыбокае і правільнае кіраўніцтва стачкай далі прыклады пасьпяховасьці масавай барацьбы са штрэйкбрэхерамі, асабліва на Беласточчыне. Сетка пікетаў, чырвоныя ганцы шпарка выкрывалі штрэйкбрэхераў і паведамлялі кіраўніцтва, якое хутка мабілізавала масу і дружыны самаабароны, праганяўшыя штрэйкбрэхераў і паліцыю.

Вось пара найбольш яскравых прыкладаў.

У чатырох кілёмэтрах ад в. Валілы працавала група 40 штрэйкбрэхераў завербаваныя са Стрэльца і Саюзу Рэзэрвістаў, пад ахранай 4-х паліцэйскіх, 6 лясных старажоў, 3-х лясьнічых і надлясьнічага. Група рабочых загадала спыненьня працы. Штрэйкбрэхеры адмовіліся. 27 сьнежня сабралася каля 400 рабочых з розных вёсак. Да штрэйкбрэхераў быў пасланы пікет з 15 рабочых, а рэшта незаметна абкружыла места работы штрэйкбрэхераў. Калі пікет зажадаў спыненьня працы, камендант паліцыі Ростек загразіў, што распора ўсім бруха і арыстуе. У гэты час з крыкамі «ура» абкружыўшыя рабочыя кінуліся на штрэйкбрэхераў, пачалі біць іх, ламаць сякеры, пілы. Паліцыя дала драпака. Пасьля разгону штрэйкбрэхераў быў арганізованы мітынг. Варочаючыяся рабочыя напаткалі другую банду штрэйкбрэхераў, адвозіўшых лес у Беласток. Падводы былі перакінуты, упраж папорчана, штрэйкбрэхераў прагналі. 30 сьнежня атрад рабочых звыш 500 чалавек разагнаў банду штрэйкбрэхераў з 50 падвод у 2-х кілёмэтрах ад Супрасля. 12 падвод, што здолелі прарвацца ў мястэчка Супрасль, дагналі ўжо ў самым мястэчку і расправіліся з імі ў прысутнасьці сотняў рабочых м. Супрасля, якія актыўна памагалі бастуючым. Паліцыя не адважылася выступіць у абароне штрэйкбрэхераў. 26-га сьнежня атрад рабочых у 300 чалавек прагнаў штрэйкбрэхераў каля станцыі Жэдня. Выкліканы з Беластоку атрад паліцыі ў ліку 50 чалавек прыбыў ужо пасчасе, калі штрэйкбрэхеры былі ўжо разагнаны.

У Слонімшчыне на Залескі вучастак прыбыла 25 штрэйкбрэхераў пад ахранай 2-х паліцэйскіх і купца. Пікеты хутка далі знаць аб гэтым у 7 акалічных вёсак.

Зараз-жа сабралася 280 сялян. На прапанову спыніць працу, штрэйкбрэхеры, надбухторваемые паліцыянтамі і купцом, з сякерамі кінуліся на сялян. Бастуючыя шпарка ўзброіліся чым папала, пачалі лупцаваць штрэйкбрэхераў, паліцыянтаў і купца. Асабліва актыўны былі жанчыны. Штрэйкбрэхеры і паліцэйскія ўцяклі.

У выніку ўпорнай барацьбы штрэйкбрэхерства ўсюды было зломлена, што зьявілася важнай перабудовай посьпеху стачак.

Каб зламаць стачкі, паліцыя узмоцніла тэрар. Абодва прафсаюзы былі зачынены. Пачаліся масавыя арышты. Арыштавалі членаў праўленьня прафсаюзаў, членаў забастовачных камітэтаў і найбольш актыўных рабочых. Бастуючыя адказалі абвастрэньнем форм барацьбы, арганізацыяй баявых дэманстрацый і паходаў, узмацненьнем арганізацыі пікетаў і самаабароны.

20 сьнежня дэманстрацыя звыш 500 чалавек рабочых і сялян накіравалася да пастарунку паліцыі у Супраслі з дамаганьнем звальненьня арыштаваных. Паліцыя змушана была зволіць 6 арыштаваных, абяцаючы звольніць і рэшту. 3-га студзеня чырвоныя ганцы паведамілі, што атрад паліцыі прыбыў у Боркі і робіць масавыя арышты. Сабралася звыш 200 рабочых з мэтай недапусьціць да арыштаў, але паліцыя ўжо здолела выехаць, захапіўшы арыштаваных. На заўтра была вызначана дэманстрацыя пад пастарунак у Шудзялове з дамаганьнем звальненьня арыштаваных. На зборны пункт у в. Талкоўшчына сабралася звыш 300 рабочых і сялян. Некаторыя сяляне прыбылі з вёсак больш за 25 кілёмэтраў, што сьведчыць, як аб надзвычай гібкай сувязі, так аб баявой гатоўнасьці мас. Дэманстрацыя скіравалася да пастарунку. Паліцыя з ліку 7 арыштаваных рабочых звольніла 5, абяцаючы звольніць за паўгадзіны двух пазастаўшых, пад варункам, што дэманстрацыя будзе распушчана. Дэманстранты прадаўжалі наступаць. Каб ашукаць рабочых, камэндант сказаў, што арыштаваных няма на пастарунку, а ў арыштным доме. Маса кінулася к арыштнаму дому. Тады паліцыя пачала страляць, у выніку чаго быў забіты рабочы Хомчык. Дэманстранты заатакавалі пастарунак, выбілі вокны і ранілі аднаго паліцэйскага. І толькі калі надышоў новы атрад паліцыі з Саколак, дэманстранты ў парадку адыйшлі ў вёску Навасёлкі, дзе быў арганізованы мітынг, на якім была прынята рэзалюцыя пратэсту проціў фашыстоўскага тэрара і аб здэцыдаванасьці прадаўжаць стачку да перамогі. Рэзалюцыя канчалася лёзунгамі: «Далоў фашыстоўскую дыктатуру! Няхай жыве дыктатура пралетарыяту!»

Яшчэ больш жорсткім быў разгул фашыстоўскага тэрару на Слонімшчыне. Паліцыя пачала пацыфікацыю вёсак, ахопленых стачкай. Масы і тут праявілі вялізарную актыўнасьць і гатоўнасьць да барацьбы. Але рад палітычных і арганізацыйных памылак з боку мясцовага кіраўніцтва прычынілася да распарушанасьці барацьбы мас, у выніку чаго карацельныя экспэдыцыі не напаткалі на арганізаваны масавы адпор.

9 студзеня атрад паліцыі напаў на вёску Сьціневічы. Зараз-жа былі разасланы чырвоныя ганцы для мабілізацыі мас на самаабарону. Вечарам у суседняй в. Русакове сабралася каля 400 сялян з 8 вёсак. Усю ноч правялі ў баявой гатоўнасьці, раставіўшы караулы. Паліцыя не пасьмела напасьці на Русакова, але 10 студзеня правяла пацыфікацыю ў вёсцы Залесьсе. Кіраўніцтва замест таго, каб узмацніць мабілізацыю мас і арганізаваць адпор карацельным атрадам на мейсцы, арганізавала паход-дэманстрацыю ў мястэчка Жыравічы, каб адбіць знаходзячыхся на паліцэйскім пастарунку арыштаваных. Гэта была буйная памылка, якая адбілася на ходзе усёй далейшай барацьбы. У дадатак дэманстрацыя была дрэнна падрыхтавана, як арганізацыйна, так і тэхнічна, у выніку чаго з 600 чалавек да паліцэйскага пастарунка прыбыў толькі налічны авангард, які быў лёгка разсеяны пры першай сутычцы з паліцыяй. А ў гэты самы час парушаныя тысячныя масы сялян з усяго раёну, пазбаўленыя ўсякага кіраўніцтва бязмэтна брадзілі ад аднэй вёскі да другой, ня будучы ў стане даць адпор карацельным атрадам. Бяздзейнасьць кіраўніцтва, разгром дэманстрацыі выклікалі заламаньне баявых настрояў у масах, выклікалі дэмабілізацыйныя настрoі на-

ват у радох партыі. Пры адсутнасьці адпору карацельныя атрады правялі крывавую пацiфiкацыю у 11 вёсках, у выніку чаго стачка была зломлена. Сяляне прыступілі да працы, згадзіўшыся на павялічэньне зарплаты на 1 зл. (замест высунутага дамаганьня 2 зл), але адначасна правялі ў знак пратэсту процiў пацыфікацыі двухднёвую палітычную стачку.

Палітычнае значэньне стачак лясных рабочых і возчыкаў—вялізарна. Перамога бастуючых рабочых і сялян узмацніла ўплывы партыі ў масах. Стачкі мелі вялізарнае арганізуючае значэньне і спрыялі прысваеньню масам сялянскай беднаты пралетарскіх форм барацьбы. Шэраг чыста сялянскіх дамаганьняў, як дамаганьні пашы, сенажацяў, апалу, будаўляных матар'ялаў безпасрэдна падводзілі масы сялянскай беднаты да барацьбы за зямлю без выкупу. Барацьба за звальненьне арыштаваных, супроць фашыстоўскага тэрору, стычкі з паліцыяй і фашыстоўскімі бандамі, барацьба з карацельнымі экспэдыцыямі надавалі забастовачнай барацьбе выразны антыфашыстоўскі і антыакупацыйны характар Безпасрэдная канфрактацыя мас з фашыстоўскім акупацыйным урадам ставіла перад масамі пытаньне барацьбы за ўладу. Ход забастовачнай барацьбы, даволі шырокая акцыя салідарнасьці, разгорнутая, як у гарадох, так і ў суседніх раёнах (стачка салідарнасьці рабочых Слоніма, збор дапамогі сярод Беластоцкага пралетарыяту і мясцовага сялянства) — узмацнілі салідарнасьць працоўных сялян у іх барацьбе з атакамі капіталу і фашыстоўскай дыктатуры.

Гэтыя буйныя дасягненьні нашай партыі ўсё-ж такі зьяўляюцца толькі першымі сур'ёзнымі шагамі ў галіне арганізацыі барацьбы вясковага пралетарыяту і поўпралетарыяту. Побач з дасягненьнямі мы маем таксама шэраг буйных недахопаў і памылак.

Антыфашыстоўскі і антыакупацыйны характар стачак прыбраў-бы яшчэ больш яскравае выражэньне, калі-б партарганізацыі палажылі-б больш высілак на ўпалітычненьне акцыі, на наданьне ёй характару безпасрэдняй барацьбы супроць акупацыі фашыстоўскага ўраду, на цесную ўвязку з разгорнутай у той самы час кампаніяй супроць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-фашызму. Невыстарчаючая ініцыятыва партарганізацыі ў гэтым напрамку зьяўляецца паважным недахопам акцыі.

Буйнай памылкай, якая адбілася на пасьпяховасьці пашырэньня забастовачнай барацьбы на другія раёны і ператварэньне яе ў агульную стачку лясных рабочых ЗБ, зьяўляецца недастатковай канцэнтрацыяй ўвагі партыі на найбольш важных раёнах, у якіх сканцэнтраваны падставовыя масы лясных рабочых. Гэткім раёнам у ЗБ зьяўляецца ў першую чаргу раён Белавежскай Пушчы — раён Гайнаўка - Белавеж. Важнымі цэнтрамі зьяўляюцца таксама такія раёны, як Аўгустоўскія лясы, Рудніцкая і Налібоцкая Пушчы на Віленшчыне і Наваградчыне. Бяз упорлівай сыстэматычнай працы ў гэтых рашаючых раёнах задача арганізацыі барацьбы лясных рабочых ня можа быць пасьпяховай. Сацыял-фашысты добра здаюць сабе справу з рашаючага значэньня гэтых раёнаў, канцэнтруючы на працу ў Белавежскай Пушчы і ў Аўгустоўскіх лясох галоўныя сілы. Мы-ж гэтым раёнам замала ўдзеляем увагі. І калі ў некаторых раёнах праца наша ў сучасны момант натыкаецца на паважныя труднасьці з прычыны слабасьці партарганізацыі ў гэтых раёнах, то гэтым ніяк нельга вытлумачыць слабасьці нашай працы ў Белавежскай Пушчы — у гэтым рашаючым раёне лясной прамысловасьці, дзе мы маем і значную старую партарганізацыю, і шматгадовыя традыцыі пасьпяховай забастовачнай барацьбы. Прычыны ляжаць перадусім у недаацэнцы ўсяе важнасьці гэтага раёну, у стаўцы на самацёк і стыхійнасьць руху, у адсутнасьці планавасьці ў арганізацыі барацьбы, у адступленьні перад труднасьцямі, на якія натыкаецца наша партыя ў барацьбе за масы, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам сацыял-фашызму.

Ясна, што пры адсутнасьці канцэнтрацыі ўвагі на рашаючых раёнах, высунуты намі слушны лёзунг агульнай стачкі лясных рабочых ня мог быць зьдзейсьнены, хаця аб'ектыўныя варункі і спрыялі гэтаму. З досьледу апошніх баёў трэба выцягнуць урокі. ЦК нашай партыі і Беластоцкі АК павінны паставіць, як

ударную задачу ўзмацненьне працы ў раёне Гайнаўка-Белавеж удзяленьне спэцыяльнай увагі партарганізацыі гэтага раёну, галоўнай задачай каторай павінна быць арганізацыя барацьбы дрэваапрацовачнікаў і лясных рабочых, няўхільная барацьба за масу з сацыял-фашызмам, узмацненьне ўплыву партыі і стварэньне моцнай арганізацыйнай базы. Таксама трэба паставіць задачу сыстэматычнага праніканьня нашых партарганізацый у другія важныя лесапрамысловыя раёны.

Другім буйным недахопам гэтых стачак зьяўляецца слабы упор на ўцягненьне ў забастовачную барацьбу супольна з ляснымі рабочымі рабочых тартакоў, фанерных фабрык і другіх прадпрыемстваў дрэваабрабляючай прамысловасьці. Стачкаю былі ахоплены толькі рабочыя некаторых дробных смалярняў у Беласточчыне. У Слоніме ўдалася зарганізаваць аднадзёвую стачку салідарнасьці рабочых тартакоў. Гэта далёка невыстарчаюча.

У нашай далейшай працы трэба палажыць асаблівы ўпор на аб'яднаньне барацьбы пастаянных рабочых дрэваабрабляючай прамысловасьці і сэзонных рабочых і возчыкаў. Гэта важна, як з пункту гледжаньня пасьпяховасьці барацьбы гэтых абодвух атрадаў дрэваабрабляючых рабочых, так асабліва з пункту гледжаньня ўзмацненьня салідарнасьці паміж прамысловымі і сэзоннымі рабочымі і ўзмацненьне гегемоніі пралетарыяту ў барацьбе сялянскіх мас, з якіх пераважна камплектуюцца сэзонныя лясныя рабочыя і возчыкі. На раз'яднаньне іх барацьбы накіраваны высілкі як фашызму, так і сацыял-фашызму.

Задача аб'яднаньня барацьбы прамысловых і сэзонных рабочых упіраецца перадусім у стварэньне агульнай супольнай прафарганізацыі пастаянных і сэзонных рабочых.

Стварэньне масавых профсаюзаў, ахопліваючых як пастаянных, так і сэзонных лясных рабочых, барацьба за рэвалюцыйнае кіраўніцтва ў гэтых саюзах зьяўляецца важнейшым варункам пашырэньня і пасьпяховасьці забастовачнай барацьбы. На чале трэба паставіць задачу узмацненьня нашай працы ў існуючых масавых пепеэсаўскіх і хадэцкіх профсаюзах, а таксама ў ЗЗЗ. Дасюль праца ў гэтых саюзах бадай зусім не вядзецца. Пепеэсаўскія профсаюзы ў Белавежскай Пушчы і ў Аўгустоўскіх лясох ахопліваюць сотні рабочых. Масавай арганізацыяй зьяўляецца таксама пепеэсаўскі «Саюз Маларольных», які ахоплівае сотні сялянскай беднаты—сэзонных лясных рабочых. Наша сэктанскае праступнае ігнараваньне працы ў гэтых саюзах аддае гэтыя масы пад манапольны ўплыў соц.-фашыстоўскіх профбюракратаў, якія лоўкімі манэўрамі зрываюць іх барацьбу. Мы павінны неадкладна прыступіць да стварэньня левае апазыцыі ў гэтых саюзах. Камуністы і левыя беспартыйныя актывісты павінны ўступіць у гэтыя саюзы і арганізована ўводзіць рэвалюцыйных рабочых для таго, каб весьці барацьбу процiў соц.-фашыстоўскіх профбюракратаў. Камуністы і Левая профапазыцыя павінны прылажыць усе сілы, каб стварыць у гэтых саюзах адзіны фронт барацьбы рабочых наўпракі прадажніцкім профбюракратам; разгарнуць барацьбу за профсаюзную дэмакратыю ўнутры саюзаў, за выбарнасьць усіх профсаюзных органаў, супроць выкіданьня з профсаюзаў камуністаў і рэвалюцыйных рабочых, супроць рэпрэсіяў з боку праўленьняў і сац.-фашыстоўскай Цэнтральнай камісіі. Шляхам няўпыннай арганізацыі штодзённай барацьбы камуністы і левая апазыцыя павінны заваяваць давер'е мас, падняць іх клясавую сьвядомасьць, дэмаскаваць кожную здраду соц.-фашыстаў і, вырываючы масы з-пад іх уплыву, апаноўваць паасобныя аддзелы рэфармісцкіх профсаюзаў і ператвараць іх у органы рэвалюцыйнай барацьбы.

Там, дзе наагул няма профсаюзаў (а гэткіх раёнаў у нас вельмі шмат) трэба рашуча разгарнуць працу па стварэньню рэвалюцыйных профсаюзаў там, дзе іх няма. Досьлед барацьбы лясных рабочых сьведчыць аб вялізарным імкненьні мас да арганізацыі. Аб гэтым гаворыць узрост профсаюзаў у часе апошніх стачак. Аб гэтым таксама гаворыць досьлед леташніх забастовак у Пружаншчыне, дзе ў выніку стачкі быў створаны масавы саюз возчыкаў. Базай для стварэньня рэвалюцыйных профсаюзаў павінен

паслужыць лічны і загартаваны актыў, вылучаны ў часе апошніх стачак — члены забастовачных камітэтаў, камітэтаў дапамогі, забастовачных пікетаў, дружын самаабароны і г. д. Густая сетка створаных у ходзе стачкі забастовачных камітэтаў не павінна быць зьліквідавана. Яны павінны быць пераўтвораны ў пастаянныя камітэты лясных рабочых і возчыкаў і паслужыць базай для арганізацыі саюзаў лясных рабочых і возчыкаў, як сэкцыі агульных прафсаюзаў дрэваабрабляючых рабочых.

Стачкі лясных рабочых адбываюцца ў варунках асабліва жорсткага фашыстоўскага тэрору: масавых арыштаў, забойстваў рабочых і пацыфікацыі цэлых раёнаў. Гэта з усёй вастрынёю ставіць задачу арганізацыі масавай барацьбы супроць тэрору. Галоўны ўпор павінен быць скіраваны на ўцягваньне ў актыўную барацьбу і актыўныя выступленьні магчыма больш шырокіх мас і разгортваньне акцыі салідарнасьці ў суседніх раёнах і буйных пралетарскіх асяродках. Рыхтуючы масы да адпору, трэба высьцерагацца штучнага фарсаваньня перадчасных збройных сутычак, у выніку каторых пры першай няўдачы зьяўляецца дэзарганізацыя масавай барацьбы і панікёрскія настроі. У першую чаргу трэба ставіць задачу раскачкі і актывізацыі мас шляхам уцягваньня іх у актыўныя выступленьні (мітынгі, дэманстрацыі, паходы, барацьба са штрэйкбрэхерамі, фашыстоўскімі бандамі, адпор пры арыштах і г. д.), кладучы націск на ўзмацненьне палітычнай і арганізацыйнай працы, рыхтуючы масу да адпору паліцыі і карацельным экспэдыцыям. Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць арганізацыі дружын самаабароны і падрыхтоўкі іх да актыўных дзеяньняў на чале мас, а таксама арганізацыі гібкай і бесперабойнай сувязі з паасобнымі вёскамі і раёнамі (чырвоныя ганцы і інш.).

Арганізуючы тыя ці іншыя формы адпору, кіраўніцтва павінна цьвяроза ўлічыць агульную палітычную сітуацыю, суадносіны сілаў і ўсе канкрэтныя варункі барацьбы: масавасьць руху, настроі і ступень актыўнасьці мас, іх баявая гатоўнасьць і арганізованасьць, стан самаабароны і яе падрыхтаванасьць да барацьбы, а таксама налічча тэхнічных сродкаў абароны. У строгай залежнасьці ад гэтага павінен быць накрэсьлены плян дзейнасьці, забясьпечана яго правядзеньне. Вельмі важна забясьпечыць бесперабойнасьць кіраўніцтва і яго сувязі з масамі на ўвесь час барацьбы супроць пацыфікацыі.

Кіраўніцтва Слонімскай стачкай, замест таго, каб паставіць перад сабою гэтыя задачы і арганізаваць масавы адпор карацельным экспэдыцыям, зрабіла левы заскок, ставячы задачу адбіць арыштаваных на паліцэйскім пастарунку ў Жыравічах, якая пры данным стане і размаху руху не магла ня скончыцца няўдачай, што выклікала паніку, дэмабілізацыйныя настроі і расьцеранасьць ня толькі ў масах, але і ў самым кіраўніцтве. Гэта аблегчыла карацельным атрадам правядзеньне пацыфікацыі. Такія заскокі нярэдкі ў нашай практыцы. Яны мелі мейсца таксама ў часе леташніх Кобрынскіх выпадкаў, калі нялічная група дэманстрантаў, ішоўшая на злучэньне з агульна-раённай дэманстрацыяй, заместа гэтага, пасьля сутычкі з паліцэйскімі пачала асаду паліцэйскага пастарунку ў Навасёлках. У красавіцкай рэзалюцыі ЦК КПЗБ правільна асьцерагае партарганізацыі перад такімі заскокамі.

Значэньне стачак лясных рабочых і возчыкаў вялізарна. На замацаваньне дасягнутых посьпехаў і іх далейшае пашырэньне павінна быць сканцэнтравана ўвага ўсіх нашых вясковых партарганізацый. Лясныя рабочыя побач з сельскагаспадарчым пралетарыятам зьяўляюцца падставоваю пралетарскай і поўпралетарскай базай нашай партыі на вёсцы. Толькі трывала замацаваўшы свой уплыў на гэтай базе, партыя зможа правільна кіраваць разгортваючайся барацьбой шырокіх сялянскіх мас. Буйнейшым недахопам усяе працы нашай партыі на вёсцы да гэтага часу зьяўляецца недастатковая увага да арганізацыі барацьбы вясковага пралетарыяту і поўпралетарыяту і выцякаючая адгэтуль слабасьць нашага пралетарскага партыйнага ядра ў вясковых партарганізацыях.

Каб дабіцца замацаваньня здабытых дасягненьняў і дабіцца рашаючага пералому трэба з карэньнем вырваць усё яшчэ пакутуючыя ў нашых вясковых партарганізацыях права-апартуністыч-

ныя канцэпцыі недаацэнкі ролі вясковага пралетарыята, як падстававае базы нашай партыі. Усё яшчэ прыходзіцца часта спатыкацца з настроямі, што найбольш актыўным элемэнтам у рэвалюцыйнай барацьбе на вёсцы зьяўляюцца больш заможныя слаі сялянства і што дзеля гэтага партыя ў арганізацыі рэвалюцыйнай барацьбы на вёсцы павінна ў першую чаргу апірацца на серадняцтва. Гэтыя настроі адбіваюць націск кулацтва на нашыя вясковыя партарганізацыі. Карэньні гэтых канцэпцый ляжаць у нязжытай да канца спадчыне эсэраўскай ідэолёгіі БРО, да паглыбленае крытыкі каторае партыя толькі нядаўна падыйшла. Гэтыя антыпартыйныя канцэпцыі затрудняюць доступ нашым вясковым арганізацыям да сельска-гаспадарчых рабочых, гамуюць іх актыўнасьць у арганізацыі барацьбы вясковага пралетарыята, зьяўляюцца падставовай перашкодай для ўзмацненьня пралетарскага ядра нашай партыі на вёсцы. Ударная задача дня—бязьлітасная барацьба з гэтымі антыпартыйнымі канцэпцыямі і іх носьбітамі.

Пераломам, якога дабілася партыя на вучастку лясных рабочых, павінен быць замацаваны і пашыраны на другі, яшчэ больш важны вучастак — вучастак сельска-гаспадарчых рабочых. Арганізацыя барацьбы вясковага пралетарыяту і поўпралетарыяту — гэта падстававае зьвяно для ўзмацненьня пралетарскай базы партыі на вёсцы, для ўзмацненьня саюзу рабочых і сялян, для замацаваньня гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальным руху для прысваеньня формаў пралетарскай барацьбы сялянскім масам.

**І. БРУН.**

# Важнейшыя задачы профсаюзнага руху

Спэцыяльная рэзалюцыя ІІ пленуму ЦК КПП указала як вядома, на абавязковасьць павароту ў нашай працы ў профсаюзах.

Чэрвеньская рэзалюцыя ЦК КПП акрэсьлівае чарговыя задачы партыі, як барацьбу за «вузлавыя пазыцыі арганізацыі мас».

Паміж гэтымі двума рашэньнямі існуе самая цесная сувязь. «Вузлавымі пазыцыямі арганізацыі мас» зьяўляюцца **перадусім** профсаюзы. Чэрвеньская рэзалюцыя ЦК КПП выводзіць задачу барацьбы за пазыцыі ў профэсыянальным руху непасрэдна з практыкі апошніх забастовачных баёў, з суадносін сіл, якія выявіліся ў гэтых баёх.

Гэта факт, што рашаючыя групы пралетарыяту арганізацыйна ахоплены профсаюзамі, якімі кіруюць сацыял-фашыстоўскія агенты буржуазіі, альбо непасрэдна агенты фашыстоўскага ўраду. А яшчэ шырэйшыя масы, ахопленыя забастовачным рухам, альбо адчуваючыя неабходнасьць і блізкасьць забастовачнай барацьбы, «глядзяць на саюз». Кожны ведае, што арганізаваньне забастоўкі зьяўляецца труднай справай, калі кіраўніцтва саюзу высказваецца процiў. Кожны ведае, як лёгка профсаюзным бюракратам высунуцца ў авангард руху нават тады, калі яны яўна сабатуюць забастоўку. Гэтую справу нельга ні абмінуць, ні пераскочыць. У разьвіцьці эканамічных і палітычных баёў мы натыкаемся проста, як на мур, на варожую пазыцыю ў профсаюзах. Думка, што напор руху «сам сабою» праб'е гэты мур зьяўляецца ілюзіяй. Забастовачны рух, рэвалюцыйны рух, накапляе выбуховы матар'ял для таго, каб выбіць контррэвалюцыю з яе пазыцый у профсаюзным руху. Але гэты матар'ял ня дзейнічае «сам сабою». Мы павінны навучыцца дзейнічаць ім.

Асабліва дрэнна стаіць справа ў гэтых адносінах у нас у Заходняй Беларусі— шмат горш, чым у цэнтральных пралетарскіх асяродзьдзях Польшчы. Справаздачы Цэнтральнага профсаюзнага аддзелу, нажаль, добра адлюстроўваюць нашу профсаюзную работу. У цэлым шэрагу гэтых справаздач не знаходзім ані аднаго ўспаміну аб беластоцкіх тэкстыльшчыках, аб палажэньні ў Гайнаўцы-Белавежы, аб рабочых гарадзкіх прадпрыемстваў, аб батраках. Няма таксама ў іх чыгуначнікаў. Профсаюзная праца на 85% вядзецца ў дробных маламястэчковых яўрэйскіх профсаюзіках, сярод дробнапрадпрыемскага і саматужніцкага пралетарыяту, дзе саюз Іглы зьяўляецца ўжо сілай першай велічыні.

Мы ня хочам сказаць, што праца ў гэтым асяродзьдзі ня мае значэньня. Яна мае значэньне, як пункт апору для барацьбы за авангардныя ў нашых умовах пазыцыі профсаюзнага руху. Яна мае таксама самастойнае палітычнае значэньне, асабліва ў мястэчках, якія ляжаць у чыста вясковых акругах. Доказы гэтага маем у тых нямногіх яшчэ выпадках, калі нашы таварышы ўмеюць разгарнуць на гэтым абмежаваным вучастку палітычную ініцыятыву і актыўнасьць. Мы лічым за добрую рэвалюцыйную працу тое, што ў мястэчку С. нашы таварышы, апіраючыся на тры маленькія профсаюзы, налічваючыя разам 80 членаў, ўмелі ў спэцыяльных арганізацыях (узаемнай дапамогі і культурна-асьветных) ахапіць таксама яўрэйскую беднату і дасягнуць дзьве палітычныя здабычы, якія таварышоў з С. ставяць проста як прыклад для камуністаў у сотнях іншых мястэчак Заходняй Беларусі: 1) зьліквідаваць сярод

працоўнай моладзі мястэчка ўплывы так разросшыхся ў апошні час яўрэйскіх фашыстоўскіх арганізацый і 2) правесьці байкот ліцытацыі кароў, заграбленых у сялян за падаткі і даўгі.

Гэтую працу іменна так і трэба весьці. Партыя здолее ацаніць і падтрымаць яе.

Мы ня хочам уступіць ані аднэй пазыцыі сярод бесчалавечна эксплёатуемага дробна-варштатнага і саматужніцкага яўрэйскага пралетарыяту. Дзе ёсьць працоўныя і эксплёатуемыя, дзе вядзецца клясавая барацьба, — там павінны быць камуністы. Забастоўка ў «фабрыцы» ваксы ці ваты, налічваючай 4-х рабочых — гэта таксама клясавая барацьба, і абавязак мясцовай арганізацыі — кіраваць гэтай барацьбой. Камуністы С. паказваюць, як можна зрабіць палітычнай так сама барацьбу пралетарыяту ў гэтым маламястэчковым маштабе, як можна пасыпахова зьвязаць яе з такімі вялікімі заданьнямі, як барацьба з нацыяналізмам, антысэмітызмам і рабоча-сялянскі саюз.

Але іншая справа, калі Цэнтральны Профсаюзны Аддзел у справаздачы Цэнтральнаму Камітэту запісвае цэлую старонку гісторыяй грашовага канфлікту— аб падзеле сумы ад ліцытацыі, альбо продажы дому «Цішо» у горадзе Х (які зусім не зьяўляецца мястэчкам), і стольکі-ж увагі аддае канфліктам на гэтых «фабрыках» ваксы ці ваты і т. п., каб у канцы гэтых вывадаў зазначыць (літаральна): «Есьць некалькі профсаюзаў ППС (чыгуначнікі, спажыўцы, на грамадзкіх работах). Падобныя профсаюзныя аддзелы мае такжа З.З.З. Яны наогул не падаюць прыметаў жыцьця. Нельга верыць гэтым інфармацыям, бо амаль што ня маем адпаведных інфарматараў у гэтых профсаюзах... У апошні час наладжана сувязь з 1 (адным) польскім рабочым...»

Кіраўнік профсаюзнай працы зьяўляецца і павінен быць прадстаўніком **палітыкі** партыі на вызначаным яму вучастку. А палітыка гэта ў першую чаргу—пастаўленьне сабе **мэты** і знаходжаньне шляхоў, якія вядуць да гэтай мэты. Палітычнай мэтай у профсаюзнай працы ў горадзе Х, дзе ППС і З.З.З. маюць чыгуначнікаў, грамадзкіх і спажывецкіх рабочых, а мы маем... кантакт з адным польскім рабочым, ня можа быць здабыцьцё незалежнасьці ад арганізацыі «Цішо», ні пераможнае правядзеньне забастоўкі ў «фабрыцы» ваксы. Галоўнай задачай мясцовых камуністаў і, асабліва, кіраўніка профсаюзнай працы, павінна быць здабыцьцё пазыцый там, дзе сядзіць ППС і З.З.З., каб выбіць з гэтых найважнейшых профсаюзных арганізацый ППС і З.З.З., альбо зрабіць, у крайнім выпадку, пралом у іх пазыцыях на нашу карысьць.

Нельга за такое становішча справы вініць выключна таварышоў з Цэнтральнага профсаюзнага аддзелу. З боку партыйнага кіраўніцтва ня было сталай устаноўкі, а асабліва націску на апазыцыйную працу ў профсаюзах, апанаваных ППС і Бундам. Можна ўказаць на пэўны цыркуляр ЦК аб профсаюзнай працы, у якім гэтую задачу—працу ў рэфармісцкіх профсаюзах—амаль зусім абмінулі.

Каб зрушыць профсаюзную працу з мёртвага пункту, трэба сабе перадусім моцна і раз назаўсёды ўбіць у галаву тую праўду, што, калі-б мы нават мелі ў руках **усе** профсаюзы Заходняй Беларусі **апроч** чыгуначнікаў, тэкстыльшчыкаў, рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасьці, рабочых гарадзкіх прадпрыемстваў і сельска-гаспадарчых рабочых, якія аставаліся-б у профсаюзах ППС і З.З.З. да якіх мы ня маем доступу — то і тады «вузлавыя пазыцыі арганізацыі мас» рабочых ЗБ **ня** былі-б у нашых руках, але ў руках клясавага ворага.

З гэтага пункту гледжаньня трэба цяпер падыйсьці да нашых задач у профсаюзным руху.

Няправільна было-б бачыць у нашай профсаюзнай працы толькі адны адмоўныя бакі. Ня ўсюды становішча такое дрэннае, як у мясцовасьці Х., дзе, да рэчы, да апошняга часу ня было нават тых слабых пунктаў апору, якія маем цяпер. Справаздачу з Х мы ўзялі як яскравы прыклад «дзелячаства» у профсаюзнай працы, калі нашы таварышы даюць сябе ўцягнуць па вушы ў дробныя бягучыя «здарэньні» у дробных, замкнёных у сабе профсаюзіках, перастаючы адрозьніваць справы сапраўды важныя ад друга - і трэцячарговых спраў. Ня раз гэтыя «здарэньні» адбываюцца літаральна ў групе некалькіх чалавек. Пасьля апісаньня такога здарэньня ў справаздачы на-

ступае ўвага: у гэтым профсаюзе (налічваючым 40 членаў) «апроч праўленьня з 5-ці чалавек, няма іншай апоры». Што-ж, чорт вазьмі, робіць праўленьне з 5-ці чалавек, калі яно ня можа знайсьці апоры сярод сваіх 35 членаў?

Аднак, нельга запярэчыць, што ў барацьбе за існаваньне рэвалюцыйных профсаюзаў рабочы рух Заходняй Беларусі дасягнуў у апошні час там-сям значных посьпехаў. Рэвалюцыйныя профсаюзы праяўляюць вялікую жывучасьць пад ударамі тэрору. Шмат з іх, пасьля роспуску, існуе далей «на вуліцы». Здараецца, што профсаюз, які змагаецца за сваё існаваньне такім спосабам, уціскаецца пасьля пэўнага часу зноў у якія-небудзь легальныя формы. Гэтая барацьба з тэрорам заслугоўвае прызнаньня і энэргічнай дапамогі. Але мы ня маем да гэтага часу прыкладу **масавай кампаніі** пратэсту супроць закрываньня профсаюзаў. Закрыцьцё досыць масавага і папулярнага профсаюзу, якім быў профсаюз будаўнікоў у Вільні, прайшло без масавай кампаніі пратэсту будаўнічых рабочых супроць разгрому іх профсаюзнай арганізацыі. А аднак некалькі гадзінная пратэстацыйная забастоўка супроць закрыцьця профсаюзу, мела-б вялікае палітычнае значэньне.

Функцыянаваньне профсаюзу «на вуліцы» зьяўляецца тым труднейшым, чым больш масавым зьяўляецца профсаюз. Значыць, трэба лічыцца з тым, што і пры далейшым існаваньні закрытага профсаюзу, частка рабочых, арганізаваных раней у легальным рэвалюцыйным профсаюзе, распыляецца, а частка зьвяртаецца да іншых профсаюзных арганізацый данай галіны прамысловасьці. Маем цэлы шэраг прыкладаў (гутнікі, будаўнікі ў Вільні і інш.), калі значная частка рабочых пасьля закрыцьця профсаюзу шукае профсаюзнай арганізацыі там, дзе яна ёсьць. Рабочыя ідуць у такім выпадку перадусім у профсаюзы Цэнтральнай Камісіі. Але ў некаторых галінах прамысловасьці, асабліва там, дзе ёсьць прымушаньне і баязьнь страты працы, рабочыя даюць уцягнуць сябе таксама ў проф саюзы З.З.З. і ХД. Нашай балячкай зьяўляецца тое, што рэвалюцыйныя профсаюзныя кадры **не ідуць** тады за рабочай масай. Гэта значыць — адрываюцца ад масы. Палітычная мэта фашыстоўскага тэрору — адасабненьне мас ад рэвалюцыйнага авангарду — зьяўляецца, такім чынам, дасягнутай.

**У галоўных галінах прамысловасьці, дзе няма рэвалюцыйных профсаюзаў, камуністы і рэвалюцыйныя рабочыя, прывязаныя да нашай партыі, знаходзяцца, за выключэньнем толькі адзіночных выпадкаў, у масе профсаюзна-неарганізаваных.** Прыліў у профсаюзы ёсьць нясумненны. Вакол профсаюзаў зьбіраюцца значныя масы. Здалёк ад профсаюзаў астаюцца — побач з найбольш пасыўнымі і забітымі праслойкамі пролетарыяту — партыйныя камуністы і сьвядомыя рэвалюцыйныя рабочыя. Даволі сьцьвярдзіць гэты факт, каб сталася ясным яго ненармальнасьць, недарэчнасьць і заключаная ў ім небясьпека. Ясным зьяўляецца таксама вывад: **найважнейшым і рашаючым адрэзкам профсаюзнай працы зьяўляецца рэвалюцыйная праца ўнутры рэфармісцкіх і рэакцыйных просаюзаў.**

Наша партыя шукала падходу да профсаюзнай проблемы ў арганізаваньні груп Профсаюзнай Лявіцы непасрэдна на прадпрыемствах. Гэтыя групы мелі быць падставай для разбудовы рэвалюцыйных профсаюзаў і забясьпечыць гэтым профсаюзам большую адпорнасьць на паліцэйскія рэпрэсіі. Профсаюзная Лявіца мелася ахопліваць і фабрычныя групы і рэвалюцыйныя профсаюзы і арганізаваныя апазыцыі ў рэакцыйных профсаюзах. На практыцы гэтая лінія была моцна скрыўлена. Работа ўнутры профсаюзаў Цэнтральнай Камісіі, не гаворачы ўжо аб фашыстоўскіх профсаюзах, была адсунута на далёкі плян. Групы профсаюзнай лявіцы, там, дзе яны існуюць, зьяўляюцца быццам ячэйкамі сымпатыкаў альбо кандыдатаў партыі, якія не належаць да профсаюзаў і ў профсаюзах не працуюць. Гэтыя групы, не зьяўляючыся ніякай трансмісіяй у профсаюзным руху, існуюць, як быццам адарваныя, закрытыя. Гэтая неакрэсьленасьць іх становішча і задач зьяўляецца тым большай, што згодна з распаўсюджанай і ў корані няверней практыкай, члены партыйнай ячэйкі не належаць да груп Лявіцы. Інструктаваньне і кіраўніцтва ідзе звонку. Нарэшце, у нас, у Заходняй Беларусі, гэтыя групы зусім малыя па

колькасьці і пазбаўлены значэньня. У той форме, у якой яны існуюць, яны ня маюць сэнсу існаваньня. **Усіх членаў гэтых груп трэба неадкладна ўвясьці ў профсаюзы. З элемэнтаў палітычна і паліцэйскі пэўных стварыць фабрычныя ячэйкі. Увесь склад фабрычных ячэек, старых і новаарганізаваных, увясьці ў профсаюзы.**

У кожнай мясцовасьці і кожнай галіне прамысловасьці наша арганізацыя павінна накрэсьліць плян і кірунак атакі, пазыцый, якія трэба здабыць у тым ці іншым профсаюзе. Пасьля ўстанаўленьня такога пляну (у важнейшых выпадках ён павінен быць зацьверджаны Цэнтральным Профсаюзным Аддзелам, а нават і ЦК партыі) трэба на даны пункт накіраваць усе сілы, якія мы маем у данай галіне, увесьці ў профсаюз рэвалюцыйных рабочых, стварыць унутры профсаюзу арганізаваную апазыцыю, а ўнутры апазыцыі — арганізаваную камфракцыю. Камуністычнымі фракцыямі профсаюзных апазыцый павінны стала кіраваць партыйныя арганізацыі. Утварэньне апазыцыі не зьяўляецца мэтай, але толькі сродкам, зброяй для сапраўднай мэты — заваяваньне профсаюзных мас і ў апоры на іх, заваяваньне трывалых пазыцый у профсаюзах. Ці выканальна гэтая задача? Так. Няма «аб'ектыўных прычын», якія зрабілі-б яе невыканальнай. Затое існуюць фактары, дзякуючы якім гэтая задача зьяўляецца больш выканальнай, чым у працягу апошніх гадоў.

Першым з гэтых фактараў зьяўляецца несумненная радыкалізацыя мас і сталы прылiў іх у профсаюзы. Гэты прылiў ідзе, перадусім, у профсаюзы Цэнтральнай Камісіі. Але прырост паказвае таксама і шэраг профсаюзаў З.З.З. Тут дзейнічае спэцыяльная прычына: «палітыка падбору фабрычнага персаналу, якую праводзіць фашыстоўскі ўрад пры дапамозе дэфэнзывы і праз стасаваньне прымусу належаньня да фашыстоўскіх арганізацый пад пагрозай страты працы» (Рэзалюцыя ІІ пленуму ЦК КПП). У профсаюзы Цэнтральнай Камісіі ідуць актыўныя рабочыя элементы, па баявому настроеныя, больш альбо менш рэвалюцыйныя, але маючыя яшчэ жывучыя ілюзіі адносна клясавага і сацыялістычнага характару гэтых профсаюзаў. Але і ў фашыстоўскіх профсаюзах, дзе ў шырокім маштабе дзейнічае прымус, рэвалюцыйныя элемэнты — маем доказы гэтага ў цагельнікаў, у гутнікаў, у віленскіх тартачнікаў прадстаўлены досыць шматліка. Апора для актыўнай і трывалай апазыцыйнай працы ёсьць у адных і ў другіх.

Другі фактар — гэта круг палітычнага ўплыву нашай партыі ў перадавых частках пралетарыяту. Малюнак нашай пазыцыі ў профсаюзным руху дае зусім няправільнае паняцьце аб ролі і ўплыве КПЗБ. Возьмем тэкстыльшчыкаў. Хто будзе пярэчыць, што ў леташняй трохмесячнай беластоцкай забастоўцы Лявіцовы забастовачны Камітэт быў прызнаны масамі кіраўніцтвам, якому куды больш давяралі масы і слухаліся, чым праўленьня профсаюзу з Капітулкай і Фэйгіным. Толькі ў канцы забастоўкі, дзякуючы памылкам лявіцовага кіраўніцтва, Капітулкам і Фэйгіным удалося ўлезьці ў кіраўніцтва, заключыць дагавор з фабрыкантамі і выканаць сваю здрадніцкую ролю ў заканчэньні забастоўкі. **А пасьля** забастоўкі? Пасьля забастоўкі лявіца тэкстыльшчыкаў сходзіць са сцэны. Чаму? Бо яна ня была арганізацыйна замацавана перадусім, на абшары профсаюзу. У профсаюзе гаспадараць, як і раней, паўнаўладна ППС і Бунд. Пры выбарах праўленьня Капітулка публічна (і заслужана) высьмейвае апазыцыю, якая ня можа нават выставіць сьпісу кандыдатаў у праўленьне. Лявіца тэкстыльшчыкаў здалела тры месяцы трасьці Беластокам і акругай, зламаць штрэйкбрэхерства, арганізаваць рэвалюцыйныя дэманстрацыі, весьці рабочых баявым паходам у Супрасль і Васількава, асаджаць дэфэнзыву з патрабаваньнем вызваленьня аршытаваных, уварвацца нават у хадэцкі профсаюз і ў гэтай антысэміцкай пячэры сцэмантаваць баявы саюз польскіх і яўрэйскіх пралетарыяў. У профсаюзе Капітулкаў і Фэйгінаў сходы ў часе забастоўкі праходзяць пад лявіцовым кіраўніцтвам. Пасьля забастоўкі ўсё гэта расплываецца бяз сьледу. Лявіцовых тэкстыльшчыкаў няма ў профсаюзе, але і па-за саюзам трудна іх пазьбіраць. У апошняй забастоўцы ткачоў Лявіца ізноў зьяўляецца на сцэне і масы аддаюць ёй кіраўніцтва. Масы выражаюць недавер'е пэпээсаўскім і бун-

даўскім профсаюзным махерам, але іх пазыцыі ў профсаюзе тым часам астаюцца непарушнымі. Хто скажа, што гэта «нармальна», хто ня бачыць у гэтым вялікай праблемы, якую трэба паставіць і вырашыць?

У вялікай белавежскай забастоўцы нашы пазыцыі былі слабейшыя. Але былі тры рэвалюцыйныя забастовачныя камітэты, былі мітынгі і дэманстрацыі пад нашым кіраўніцтвам, былі добрыя пачаткі адзінага фронту зьнізу з пэпээсаўскімі рабочымі. Нічога з гэтага ня было арганізацыйна замацавана. У Гайнаўцы-Белавежы арганізацыя наша—**сялянская.** ППС мае там манаполь на арганізацыю **рабочых.** Гэтае разыходжаньне паміж нашымі палітычнымі ўплывамі і магчымасьцямі, —і арганізацыйна ўзмоцненымі пазыцыямі ня мае іншага тлумачэньня, апроч нашых уласных памылак.

У лясных забастоўках мінулай зімы ў Беласточчыне і Слонімшчыне кіраўніцтва было поўнасьцю у нашых руках. У Беласточчыне нашы арганізацыі праявілі вялікую гнуткасьць. Пры іх дапамозе разраслося некалькі мясцовых профсаюзных арганізацый. Паліцыя зачыніла іх. Што далей? Куды пайшлі масы, выкінутыя з гэтых профсаюзаў? Ня ведаем. Але ведаем, што Капітулка круціцца вакол гэтай справы. Зьбірае напэўна плады нашай бязраднасьці ў профсаюзнай працы. Такіх прыкладаў можна прывесьці больш. Раз за разам фашыстоўскі тэрор расьсейвае сабраныя намі ў барацьбе масы, распыльвае іх, пхае ў тыя ці іншыя асяродкі профсаюзных арганізацый. Мэтай гэтага тэрору зьяўляецца ізаляваньне рэвалюцыйнага авангарду ад мас. Калі гэта ўдаецца фашыстоўскаму ўраду ў значнай частцы, дык гэта толькі дзякуючы таму, што рэвалюцыйны авангард **ня сочыць, куды зьвярнуліся масы і ня ідзе за гэтымі масамі.** Гэта галоўнае зло. І з гэтым трэба пакончыць. Непарушнай падставай для нас павінна быць: **знаходзіцца ўсюды там, дзе ёсьць масы.**

Рэзалюцыя ЦК КПП кажа: «У тыя профсаюзы, у якіх мы канцэнтруем нашы намаганьні ў барацьбе за арганізаваньня ў іх масы, уводзім шырокія рады сымпатызуючых нам рабочых, імкнучыся да заваяваньня асобных аддзелаў і змагаючыся за кожную выбарную пасаду».

«Уводзім» — гэта значыць, паколькі магчыма **арганізованым** шляхам, праз папярэднія нарады і канфэрэнцыі. Уводзім **у акрэсьленыя** профсаюзы — гэта значыць плянава. Аднак, усё-ж трэба лічыцца з тым, што ўваход пэўнай колькасьці рэвалюцыйных рабочых пацягне за сабой стыхійны прылыў шырокай масы лявіцовых рабочых. Задачай арганізованай апазыцыі зьяўляецца даць гэтым масам сталае кіраўніцтва на абшары профсаюзу.

Тут зьяўляюцца наступныя пытаньні:

1) Ці да профсаюзу З.З.З. альбо ХД падыходзім таксама, як да профсаюзаў Цэнтральнай Камісіі?

У прынцыпе выходзім з прадпасылкі, што ў профсаюзах Цэнтральнай Камісіі глеба для нас зьяўляецца больш падатлівай, бо там зьбіраюцца больш радыкальныя элемэнты, чым у З.З.З. і ХД, але, нарэшце, рашаючай у кожным выпадку зьяўляецца **масавасьць** данага профсаюзу. Мы агітуем супроць профсаюзаў З.З.З. і ХД і адгаварваем рабочых ад уступаньня ў іх. Аднак, тады, калі імена ў гэтых профсаюзах зьбіраюцца, па тых ці іншых прычынах, значныя масы, мы ідзем да іх і арганізуем у іх апазыцыі. У санацыйных профсаюзах адным з галоўных нашых дамаганьняў зьяўляецца **скасаваньне прымусу належаньня да профсаюзаў.** Таксама ў гэтых профсаюзах мы змагаемся за **ўнутрысаюзную дэмакратыю,** за выбарныя пасады, за аўладаньне аддзеламі, праз увядзеньне ў кіраўніцтва рэвалюцыйных рабочых. У выпадку здабыцьця апазыцыяй аддзелу такога профсаюзу, ня трэба зараз-жа фармальна і механічна адрываць яго ад цэнтру. Першым крокам апазыцыйнага кіраўніцтва павінна быць скасаваньне прымусу належаньня да профсаюзу. Апазыцыйнае кіраўніцтва аддзелу павінна павесьці рэвалщюцыйную палітыку, лінію клясавай барацьбы, для якой завяёўвае масы. Толькі тады, калі фашыстоўскі цэнтр рэагуе на гэта выключэньнем аддзелу, трэба стварыць з яго самастойны (альбо супольна з іншымі выключанымі аддзеламі) рэвалюцыйны профсаюз. У пэўных варунках можа быць параджана далучэньне аддзелу да Цэнтральнай Камісіі профсаюзаў. Калі наступаюць паліцэйскія рэпрэсіі—вядзем

супроць іх **масавую кампанію ў абарону профсаюзу.**

2) Як супроцьпастаўляцца рэпрэсіям профсаюзнай бюрократыі і паліцэйскаму тэрору? Як абараніцца перад небясьпекай, што з профсаюзу будуць сыстэматычна выключаць рэвалюцыйныя кадры, а ўведзеныя ў яго рэвалюцыйныя рабочыя астануцца без кіраўніцтва?

Такая пагроза зьяўляецца вельмі паважнай. Аружжа супроць яе дае нам ужо дасягнуты ўзровень і далейшы ўзрост рэвалюцыйных настрояў у масах, і асабліва глыбокая папулярнасьць лёзунгу **адзінага рабочага фронту.** Уся наша праца павінна апірацца **на тактыцы адзінага фронту** і барацьбе за **рабочую дэмакратыю** у профсаюзах.

Мабілізуючы стала масы пад лёзунгам адзінасьці акцыі, вольнасьці перакананьняў і слова ўнутры саюзу, супроць бюрократычных мэтадаў адміністраваньня профсаюзам, за выбарнасьць усіх профсаюзных пасад і вырашэньне кожнай важнай справы на агульных сходах, знойдзем у профсаюзнай масе апору ў барацьбе супроць рэпрэсій профсаюзнай бюрократыі і паліцыйскіх рэпрэсій.

3) Якую спэцыяльную ролю маюць выканаць рэвалюцыйныя профсаюзы?

Вельмі важную ролю. У першую чаргу яны павінны быць прыкладам добрай, саліднай, рэвалюцыйнай профсаюзнай працы, на якую магла-б спаслацца апазыцыя ў іншых профсаюзах. Рэвалюцыйныя профсаюзы павінны быць прыкладам, асабліва з пункту гледжаньня рэвалюцыйнай апоры на прадпрыемствы і з пункту гледжаньня унутрысаюзнай дэмакратыі, самага шырокага ўдзелу мас у вырашэньні ўсіх актуальных справаў. Далей, рэвалюцыйныя профсаюзы павінны ўсімі сіламі арганізоўваць адзіны фронт барацьбы з рабочымі іншых профсаюзаў, арганізаваць супольныя нарады і па ўзгоджаньню камісіі папулярызаваць сваё становішча ў справах, якія датычаць усіх рабочых данай галіны, быць ініцыятарамі супольнай барацьбы. Нарэшце, рэвалюцыйныя профсаюзы павінны супольна з апазыцыйнымі аддзеламі іншых профсаюзаў выступаць з ініцыятывай стварэньня сталых мясцовых **міжсаюзных камісій,** якія бы фактычна выконвалі функцыі пахаваных сацыял-фашыстамі былых профсаюзных рад, імкнучыся да стварэньня прадстаўніцтва ўсяе рабочае клясы данай мясцовасьці.

4) Што будзе з профсаюзнай Лявіцай?

Профсаюзная Лявіца згодна з першапачатковай канцэпцыяй, мела ахопліваць усе рэвалюцыйныя элементы ў межах профсаюзаў, а значыць і рэвалюцыйныя профсаюзы і профсаюзную апазыцыю і фабрычныя групы, як пераходныя арганізацыі для разбудовы рэвалюцыйных профсаюзаў. На практыцы фабрычныя групы асталіся ў недаразьвітым становішчы, а самая важная складовая частка Профсаюзнай Лявіцы—арганізаваная профсаюзная апазыцыя — апынулася ў стане заняпаду. З фабрычных груп толькі ў вельмі рэдкіх выпадках у ЗБ (шкляныя гуты) маглі ўтварыцца фабрычныя профсаюзныя аддзелы. Большасьць іх трэба перагрупаваць, як аб гэтым гаварылася ўжо вышэй. **Профсаюзная Лявіца астаецца і захоўвае сэнс існаваньня толькі, як прадстаўніцтва ўсёй рэвалюцыйнай часткі профсаюзнага руху,** а з арганізацыйнага пункту гледжаньня — як орган, які ўзгаджае і каардынуе працу зьверху, па даручэньню кіраўніцтва рэвалюцыйных профсаюзаў і кіраўніцтва профсаюзнай апазыцыі.

Спэцыяльных намаганьняў патрабуе справа профсаюзнай арганізацыі сельска-гаспадарчых рабочых, дзе нашы пазыцыі роўныя нулю. З прычыны нашай адсутнасьці на гэтым абшары, ён поўнасьцю апанаваны бюрократычнымі апаратамі сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх профсаюзаў, якія кідаюцца інтарэсамі батрака. Знаходжаньне тут пунктаў арганізацыйнага зачапленьня (хоць бы праз стварэньне мясцовых аддзелаў профсаюзу Квапінскага) зьяўляецца аднэй з важных задач рэвалюцыйнага профсаюзнага руху.

У профсаюзах мы павінны пасьлядоўна і непахісна праводзіць нашы рэвалюцыйныя прынцыпы, якія мы супроцьстаўляем, як фашыстам, так і сацыялфашыстам. Так, напрыклад, вялізарнае значэньне на тэрыторыі ЗБ мае прынцып **пралетарскага інтэрнацыяналізму.** Ня меншае значэньне мае дзейная салідарнасьць рабочых і сялян і салідарнасьць польскіх, яўрэйскіх рабочых з

нацыянальна - вызваленчым беларускім рухам. Ні адна магчымасьць у нашай штодзённай дзейнасьці прадэманстраваць і спапулярызаваць ў масах гэтыя прынцыпы не павінна быць абмінутай.

Таксама непахісна мы павінны змагацца за нашу лінію ў справе арганізацыі **беспрацоўных** і арганізацыі **моладзі.** Профсаюзная бюрократыя наўмысьне будуе мур паміж працуючымі і беспрацоўнымі і, апіраючыся на параграфы фашыстоўскіх законаў перагароджвае моладзі шлях да профсаюзнай арганізацыі. Будзем змагацца за арганізацыю беспрацоўных, за як найбольшае задаваленьне іх эканамічных дамаганьняў, за сапраўднае падтрыманьне руху беспрацоўных профсаюзамі. Будзем змагацца за **сэкцыі моладзі.** Там, дзе гэтаму супрацiўляецца профсаюзная бюрократыя, утвáрайма сілай факту юнацкія групы пры профсаюзе і дамагаймася іх прызнаньня. Не забываймася, што да «вузлавых пазыцый арганізацыі мас» належаць таксама фашыстоўскія арганізацыі **моладзі.** Не забываймася, што ў Вільні, згодна прыблізных даных, фашыстоўскі саюз рамесьніцкай моладзі лічыць 1000 членаў!

Каб выканаць вялікія задачы, якія перад намі ставіць ЦК КПП у профсаюзным руху, трэба рашуча пакончыць з няверным і шкадлівым поглядам, што быццам гэта толькі вузкія задачы «профсаюзьнікаў», нейдзе на бакавым шляху ад вялікіх палітычных баёў. Разумеецца, мы павінны мець, павінны выраблядь спэцыялістаў труднай профсаюзнай працы, але дайма ім неабмежаванае і дзейнае падтрыманьне ўсёй партыі. Для **ўсёй** партыі барацьба за «вузлавыя пазыцыі арганізацыі мас» зьяўляецца сёньня цэнтральнай задачай.

## З МІЖНАРОДНАГА РАБОЧАГА РУХУ.

Л. МАЗУР

# Адзіны фронт пралетарыяту перамагае

«Неабходна як найчасьцей **правяраць** прынятыя тактычныя рашэньні на падставе новых палітычных падзеяў. Такая праверка неабходна і тэорэтычна і практычна: тэорэтычна, каб пераканацца на справе ў тым, ці правільны прынятыя рашэньні, якія папраўкі змушаюць унесьці ў іх адбыўшыяся пасьля іх прыняцьця палітычныя падзеі,—практычна, каб навучыцца сапраўдным чынам кіравацца гэтымі рашэньнямі, навучыцца бачыць у іх дырэктывы, якія падлягаюць непасрэднаму застасаваньню на справе».

(Ленін. «Рэвалюцыя вучыць», т. VI, стр. 283-4).

Разьвіваючыяся за апошняе паўгодзьдзе палітычныя падзеі ў Эўропе наймацней сьцьвердзілі правільнасьць тактыкі Камуністычнага Інтэрнацыяналу, умень не большасьці камуністычных партый стасаваць яе ў адпаведнасьці да канкрэтна зьмяніўшыхся абставін.

Датычыцца гэта ў першую чаргу вялікіх высілкаў камуністычных партый стварыць адзіны рабочы фронт — гэтую «...важнейшую складаную частку ў тактыцы кампартый на **ўвесь** перадрэвалюцыйны пэрыяд» (Праграма Камуністычнага Інтэрнацыяналу).

Ва ўмовах нарастаючага крызісу нямецкага фашызму правільная тактыка адзінага фронту, стасаваная Кампартыяй Нямеччыны паскарае працэс пераходу найшырэйшых працоўных мас на бок пралетарскай рэвалюцыі. Дзякуючы няўхільна растучаму адзінаму пралетарскаму фронту фашыстоўскай сыстэме ў Аўстрыі не ўдалася стварыць сабе больш менш значную апору сярод пралетарыяту. Толькі рашучая барацьба камуністычнай партыі Францыі за адзінства дзеяньняў усяе рабочае клясы ізалявала фашызм ад рабочае клясы і прыпыніла яго далейшы паход.

Значэньне гэтых фактаў, якія сьведчаць, што тактыка адзінага фронту вытрымала «агнёвую спробу», прайшла праверку ў розных баявых варунках, перарастае рамкі той ці іншай краіны. Гэтыя факты змушаюць дрыжаць фашызм ва ўсіх краінах, яны нясуць бадзёрасьць і даюць сьвежы струмень сіл змагаючымся рабочым. Яны павялічваюць давер'е да рабочае клясы з боку хістаючыхся элемэнтаў дробнай буржуазіі.

Інфармаваць найшырэйшыя працоўныя масы аб перамагаючым адзіным рабочым фронце, прыносіць аграмаднейшы вопыт брацкіх камуністычных партый, па ленінску праверыць і ўжыць гэты вопыт у адпаведнасьці з нашымі заходня-беларускімі варункамі — у гэтым заключаецца адна з асноўных задач нашых партыйных арганізацый у справе злучэньня шэрагаў рабочае клясы.

* * *

Дзень 6 лютага г. г. зьяўляецца бязумоўна паваротным пунктам у рабочым руху Францыі. У гэтым дню пралетарыят Парыжа прыняў выклік, кінуты яму фашыстоўскімі арганізацыямі, якія выйшлі на вуліцу дэманстраваць свае імкненьне сьледваць прыкладу Гітлера, каб захапіць уладу ў Францыі. На ўсё больш растучы крызіс і абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяў у Францыі буржуазія гэтай краіны клясычнай «дэмакратыі» мае тое самае лякарства, што яе клясавыя субраты ў іншых краінах — фашызм. Вырасла за апошнія гады шмат арганізацый накшталт «Каралеўскіх малайцоў» «Агнёвы крыж» і «Патрыятычная мо-

ладзь», з якіх буржуазія рыхтуе свае штурмавыя атрады. Гэтыя арганізацыі стараюцца пранікнуць перадусім у асяродзьдзе гарадзкой дробнай буржуазіі, чыё становішча ўсё больш і больш пагаршаецца. На абнішчаньні дробнай буржуазіі стараюцца спэкуляваць фашыстоўскія групоўкі.

У баёх з фашыстоўскімі дэманстрантамі 6 лютага рабочыя Парыжа страцілі 15 байцоў, 1341 былі параненыя, але рабочыя выйшлі з гэтай барацьбы пераможцамі: улічваючы ўрок баёў Нямеччыны і Аўстрыі не дапусьцілі да ўлады фашыстаў. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі вулічныя дэманстрацыі і баі рабочых проціў фашызму паўтараюцца 9 лютага, падрыхтоўваючы гэтым генэральнае выступленьне ў дзень 12 лютага — усеагульную забастоўку. У гэтай забастоўцы ўдзельнічала звыш 4 мільёнаў працоўных. 930 сходаў і 22 вулічныя дэманстрацыі — у адным толькі месяцы лютым і ў адным толькі Парыскім раёне. 630 дэманстрацый у правінцыі з колькасьцю ўдзельнікаў да 1½ мільёна — вось данныя аб рабочых выступленьнях нават паводле вестак французскага міністра ўнутраных спраў Сарро.

У гэтых баёх масы з энтузіязмам падхапілі лёзунгі камуністычнай партыі — заклік да стварэньня адзінага фронту барацьбы проціў фашызму. Выражаючы волю гэтых жа мас, Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Францыі зьвяртаецца 30 мая г.г. адкрыта перад абліччам усяго пралетарыяту, да кіраўніцтва сацыялістычнай партыі з прапановай аб устанаўленьні адзінага фронту барацьбы проціў фашызму. Замест яснага адказу, якога дамагаліся кампартыя і масы, ужо ажыцьцяўляючыя на справе адзіны фронт, сацыялістычная правадыры ставяць усё новыя і новыя перашкоды, дамагаюцца «выясьненьняў» — і то з аднэй толькі мэтай: як найбольш адцягнуць перагаворы. Але ў гэты-ж самы час у нізах рабочае клясы пад кіраўніцтвам кампартыі няўхільна ідзе працэс аб'ядпаньня сваіх сіл. На працягу толькі поўмесяца (ад 30 мая да 15 чэрвеня) створаны сярод адных толькі чыгуначнікаў 53 адзінафрантовых арганізацыі, сярод рабочых іншых галін прамысловасьці — 42 камітэты адзінства. Перад сацыял-дэмакратыяй узрастае пагроза страты уплываў на масы, якія ідуць яшчэ за ёй, паўнейшае здэмаскаваньне яе сабатажных імкненьняў. Да гэтага - ж часу Цэнтральны камітэт Кампартыі паўтарае свой зварот да сацыялістычнай партыі, гэтым разам з падрабязна распрацаванай плятформай, якая зьмяшчала ў сабе наступныя прапановы:

1. Кожная партыя абавязваецца супольна арганізаваць і ўсімі сродкамі удзельнічаць у кампаніі, якая мае на мэце: **па - першае — мабілізаваць усё працоўнае насельніцтва проціў фашыстоўскіх банд, за іх разбраеньне і роспуск, па другое — проціў надзвычайных законаў французскага ўраду, скіраваных проціў рабочых і працоўных, і па трэцяе — проціў фашыстоўскага тэрору і за вызваленьне Тэльмана.**

2. Гэтая кампанія проціў фашызму будзе весьціся з дапамогаю супольных мітынгаў, вулічных антыфашыстоўскіх дэманстрацый. Кампанія проціў надзвычайных законаў павінна быць арганізована такім жа спосабам, а таксама шляхам стасаваньня арганізацыйных мэтадаў, забясьпечваючых ажыцьцяўленьне шырокага забастовачнага руху.

3. Абедзьве партыі абавязваюцца на час супольнай акцыі ўстрымацца ад зьняважлівых нападак і крытыкі ў стасунку да арганізацый і актывістаў, якія лёяльна бяруць удзел у супольных акцыях. **Кожная партыя, аднак, захоўвае поўную незалежнасьць у справе разгортваньня сваёй прапаганды і вербаваньня членаў.**

**4. Тэорэтычныя спрэчкі і дыскусіі аб тактыцы не адпадаюць пры ажыцьцяўленьні адзінства дзеяньняў.**

5. Дзеля забясьпечаньня посьпехаў супольных дзеяньняў кожная партыя захоўвае за сабою права дэмаскаваць тых, хто, узяўшы на сябе ясны аба-

вязак, спрабуе ўхіліцца ад выкананьня гэтага абавязку, а таксама тых, якія сваімі ўчынкамі могуць сарваць вызначанае выступленьне.

Гэтыя прапановы, з абсалютнай яскравасьцю прадстаўляючыя плятформу заключэньня адзінага фронту, змусілі сацыял-дэмакратыю даць ясны адказ. Першай гэты адказ дала Парыская сацыялістычная арганізацыя. Яна выказала згоду на заключэньне адзінага фронту. Скліканы 15 ліпеня г.г. спэцыяльны пленум ЦК сацыялістычнай партыі прымае пасьля напружанай унутранай барацьбы прапановы Кампартыі.

Далейшае разьвіцьцё барацьбы рабочае клясы Францыі праходзіць пад знакам усё больш узрастаючых масавых выступленьняў. Стотысячны мітынг у Вэнсенскім лесе пад Парыжам у абарону т. Тэльмана і Паўлы Валіш, масавыя дэманстрацыі аб'яднанага пралетарыяту ў 20 гадавіну сусьветнай вайны, супольныя выступленьні процiў японскіх ваенных правакацый — у абарону Савецкага Саюзу вось агульныя вехі, знамянуючыя палітычны зьмест адзіна-франтовай барацьбы. За Парыжам ідуць іншыя гарады Францыі. Антыфашыстоўскі зьезд у Сэнт-Эцьене з удзелам 811 дэлегатаў, якія прадстаўлялі звыш 16 тысяч працоўных, шматтысячныя мітынгі і дэманстрацыі ў Бордо, Валенсьен, Аржантайль і ў дзесятках іншых гарадоў, узварушыўшыя найшырэйшыя масы працоўных, сьведчаць аб рашучасьці працоўных усяе Францыі адбіць атакі фашызму.

У сьвядомасьці мас з усё большай сілай расло пераконаньне, што для барацьбы з наступленьнем капіталістаў неабходна аб'яднаньне масавых рабочых арганізацый — профсаюзаў. Выражаючы інтарэсы і волю найшырэйшых рабочых масаў, кампартыя і рэвалюцыйная профсаюзная фэдэрацыя кідаюць лёзунг: аб'яднаць профсаюзны рух. І ў гэтым выпадку сабатаж рэфармісцкіх правадыроў зьяўляецца найбольшай перашкодай. Замест аб'яднаньня профсаюзаў высоўваюць яны дамаганьне ўступленьня рэвалюцыйных профсаюзаў у рэфармісцкія. Але ня гледзячы на гэтыя перашкоды рабочыя масы пачынаюць самі рашаць лёс сваіх арганізацый. Сярод чыгуначнікаў ужо існуе 70 аб'яднаных саюзаў, якія выбралі агульнае кіраўніцтва і выпрацавалі агульную праграму. На апошнім зьезьдзе рэфармісцкіх фэдэрацый чыгуначнікаў 133 профсаюзы з агульнага ліку 400 выказаліся процiў сабатажу рэфармісцкіх правадыроў. Сярод працаўнікаў пошты і тэлеграфу таксама існуе ўжо 7 аб'яднаных саюзаў. Ідэя адзінства атрымала таксама вялікую перамогу сярод працоўнай інтэлігенцыі. Аб'ядналіся рэфармісцкі саюз настаўнікаў з рэвалюцыйным саюзам, выбіраючы супольнае кіраўніцтва ў большасьці сваёй з рэвалюцыйных элемэнтаў.

Гэтыя факты сьведчаць аб тым, што грунт для аб'яднаньня профсаюзнага руху цалкам ужо падрыхтаваны. Ад далейшых высілкаў кампартыі залежаць будзе пашырэньне фронту на гэтым важнейшым вучастку клясавай барацьбы.

Кампартыя Францыі паставіла перад сабой задачу заваяваць для барацьбы з фашызмам усе слаі працоўных на аснове абароны іх непасрэдных дамаганьняў. Партыя стараецца арганізаваць адзіны фронт з арганізацыямі былых удзельнікаў вайны, служачых, платнікаў падаткаў, дробных гандляроў і г.д. «бароначы дамаганьні, якія стаяць у праграме іх арганізацый, дамаганьні, якія не разыходзяцца з інтарэсамі пралетарыяту» (з ухвалы канфэрэнцыі Камуністычнай Партыі Францыі). ЦК кампартыі апублікаваў маніфэст у сувязі з прадстаячымі выбарамі ў самаўрады.

У гэтым маніфэсце камуністычная партыя выказвае сваю рашучасьць не дапусьціць да выбару кандыдатаў буйнага капіталу і фашызму. Для гэтай мэты кампартыя гатова зьняць у другім туры выбараў свайго кандыдата там, дзе сацыялістычны кандыдат атрымае больш галасоў, як камуністычны кандыдат. Тое-ж самае павінен рабіць сацыялістычны кандыдат у выпадку, калі камуніст атрымае больш галасоў. У гэтым маніфэсце кампартыя асаблівую ўвагу ўдзяляе барацьбе ў абарону зруйнаваных сялян, дробных гандляроў і дробных ранцье. Кампартыя гатова ў выпадку, калі супольныя сілы камуністаў і сацыялістаў недастатковы будуць, каб пераважыць фашыстоўскага кандыдата, падтрымаць кандыдата радыкалаў, калі той выскажацца

катэгарычна процій ураду «нацыянальнага адзінства», процій яго палітыкі надзвычайных дэкрэтаў, процій садзейнічаньня фашызму і падрыхтоўцы вайны, процій пастаноў зьездаў радыкальнай партыі, якія падтрымоўваюць урадавую палітыку, процій радыкальных міністраў, абавязваючыся пры гэтым адкрыта кляймiць і змагацца процій гэтай палітыкі, змагацца процій атакаў на дэмакратычныя свабоды.

Такім спосабам французская кампартыя мабілізуе **ўсе антыфашыстоўскія сілы** процій аб'яднанага фашыстоўскага лягера, прыход якога да ўлады ўзмоцніў-бы міжнародны фашызм і небясьпеку контррэвалюцыйнай вайны процій Савецкага Саюзу. Мабілізацыя **ўсіх** антыфашыстоўскіх сіл у часе гэтых выбараў садзейнічае адрыву ад фашызму дробна-буржуазных мас і злучэньню іх у агульны адзіны фронт барацьбы працоўных.

* * *

У іншых варунках разьвіваецца барацьба за адзіны фронт у фашыстоўскай Нямеччыне. У адзнаку ад Францыі, дзе барацьба вядзецца з фашызмам, які прабуе толькі прыйсьці да ўлады, — у Нямеччыне барацьба адбываецца з фашызмам перамогшым і перажываючым зараз глыбокі ўнутраны крызіс. Адзначаецца таксама барацьба за адзінства пралетарыяту ў Нямеччыне тым, што тут сацыял-дэмакратыя, як арганізацыйна-цэнтралізованая сіла больш ня існуе, а таму і мовы ня можа быць аб перагаворах з Вэльсамі і іншымі правадырамі былой с.-д. Кампартыя Нямеччыны, вядучы барацьбу за адзіны фронт актыўнага масавага дзейства ўсяе рабочае клясы процій фашыстоўскай дыктатуры, бярэ на сябе ініцыятыву арганізацыі барацьбы на аснове адзінага фронту за восстанаўленьне разьбітых клясавых профсаюзаў — свабодных профсаюзаў і арганізацыі ў іх шэрагах самых шырокіх колаў рабочых.

«Усё растучая воля рабочых ад адзінства — гаворыцца ў рэзалюцыі ЦК кампартыі Нямеччыны ад 1 жніўня г.г. — знаходзіць на фабрыках таксама свой выраз ў імкненьні стварэньня профсаюзнага адзінства і аднаўленьня свабодных профсаюзаў, як органаў клясавай барацьбы процій фашызму і наступленьня прадпрыемцаў. Партыя павінна ня толькі самым дзейным чынам падтрымліваць гэтыя імкненьні, але таксама ўзяць гэту ініцыятыву ў свае рукі».

Для ажыцьцяўленьня гэтай мэты ЦК прапануе прыступіць зараз-жа да перагавораў з існуючымі разрозьненымі сацыял-дэмакратычнымі групамі для выстаўленьня супольных дамаганьняў і выпрацоўкі форм кіраўніцтва барацьбой.

У выніку правідловага застасаваньня тактыкі адзінага фронту Кампартыя Нямеччыны дабілася таксама і вялікага ўзросту сваіх уласных шэрагаў. У адным горадзе Цюрынгіі ў камуністычную партыю ўступіла 100 былых сацыял-дэмакратаў. У пэўным баварскім горадзе партыя зьвязана праз сацыял-дэмакратычнага ўпаўнаважанага з 500 рабочымі. У іншым раёне ў партыю ўступіла 200 сацыял-дэмакратычных рабочых, ствараючы такім чынам 7 новых парт. груп у мясцовасьці, дзе ў легальны час ня было партыйных арганізацый. У горадзе V сацыял-дэмакратчныя рабочыя і моладзь стварылі 7 камуністычных ячэяк. Для заваяваньня с.-д. рабочых партыя стварае спэцыяльныя групы прадаўцоў нелегальных выданьняў, групы спачуваючых і слухачоў маскоўскіх радзыё-перадач. Партыя асабліва стараецца ўцягнуць рабочых у працу арганізацый МОПРу і дапамогу палітычным вязьням.

У сувязі з прадстаячым VII сусьветным кангрэсам Камінтэрну КПН разгортвае шырокую адзінафронтовую кампанію, высоўваючы перад сацыял-дэмакратычнымі рабочымі прапановы выбраць сваіх дэлегатаў на кангрэс з дарадчым голасам, імкнучыся тым самым шчыльней злучыць сацыял-дэмакратычных рабочых з камуністычнай партыяй.

Ня гледзячы на неймаверна цяжкія ўмовы, у якіх прыходзіцца працаваць нямецкай кампартыі, яе заклік да адзінства, да барацьбы з фашызмам даходзіць да найшырэйшых мас працоўных. Сьведчыць аб гэтым апошні плебісцыт, праведзены фашыстамі, дзе лік галасаваўшых процій Гітлера ўзрос у два з паловай разы ў параўнаньні з мінулым плебісцытам. 5 мільёнаў галасаваўшых процій Гітлера — гэта галасы тых, хто дэ-

манстраваў сваю прыналежнасьць да адзінага фронту пралетарскай рэвалюцыі ў Нямеччыне.

* * *

Своеасаблівым зьяўляецца шлях да адзінства аўстрыйскай рабочай клясы. Нялічная перад лютаўскімі баямі кампартыя Аўстрыі вырасла цяпер да дамінірукочай палітычнай сілы сярод аўстрыйскага пралетарыяту. На здрадніцтва сацыял-дэмакратычных правадыроў—Баўэра, Дэйча і інш. у лютаўскай узброенай барацьбе пралетарыята, рабочыя адказалі масавым пераходам у шэрагі кампартыі. Характэрнай у гэтых адносінах зьяўляецца рэзалюцыя, прынятая на сходзе кіраўнікоў рэспубліканскага шуцбунда, якія рашылі калектыўна перайсьці ў кампартыю:

«Мы, прысутныя на сходзе, былыя кіраўнікі рэспубліканскага шуцбунду, цалкам згодны з пунктам гледжаньня камуністычнай партыі па пытаньню аб паўстаньні. Мы перасьцярагаем рабочых супроць стварэньня так званай «радыкал-сацыялістычнай партыі, альбо іншых падобных груп, якія маюць мэту — толькі ўтрымаць рабочых ад пераходу ў камуністычную партыю і ад стварэньня адзінага рэвалюцыйнага фронту з камуністамі, каб гэтым самым сыграць на руку здраднікам рабочай клясы — сацыялдэмакратычным правадырам...

**Мы клянемся аддаць усе нашы сілы на барацьбу за зваленьне капіталізму і за пралетарскую рэвалюцыю і заклікаем клясава сьвядомых рабочых уступаць у адзіную рэвалюцыйную партыю — у Камуністычную партыю Аўстрыі.**

Мы адпомсьцім за нашых забітых і праданых братоў!

**Няхай жыве бальшавіцкая рэвалюцыя! Няхай жыве Камуністычны Інтэрнацыянал!»**

Але сярод паасобных частак аўстрыйскіх рабочых яшчэ моцныя ілюзіі ў стасунку да с.-д. партыі. «Правадыры — здраднікі, але партыя—добрая». І на базе гэтых настрояў паўстала так званая «рэвалюцыйна сацыялістычная партыя» з існаваньнем якой Кампартыі Аўстрыі змушана была лічыцца. Змагаючыся за злучэньне рабочых шэрагаў, Кампартыя заключыла з ёю дагавор аб адзіным фронце. Да 1 жніўня былі арганізованы супольныя выступленьні абодвух партый пад лёзунгам барацьбы проціў фашызму, проціў вайны, у абарону СССР, за вызваленьне Тэльмана і ўсіх вязьняў фашызму. «Рэвалюцыйна-сацыялістычная партыя» зьвярнулася з адозвай да ўсіх сваіх арганізацый і членаў аб уступленьні ў шэрагі МОПРу. Але ня гледзячы на ўсю радыкальнасьць «рэвалюцыйна-сацыялістычнай партыі», у Аўстрыі адбываецца той-жа працэс, што і ў Нямеччыне: чым больш мацнее адзіны фронт, тым больш с.-д. рабочыя пераконваюцца, што толькі камуністычная партыя здольна весьці іх да пераможнай барацьбы з фашызмам. Члены «рэвалюцыйна-сацыялістычнай партыі» масава пераходзяць у камуністчную партыю. Аб гэтым сьведчыць наступны факт: раённая канфэрэнцыя «рэвалюцыйных сацыялістаў» у Флёрыдсдорфе (рабочы раён у Вене) вынесла рашэньне аб пераходзе ў кампартыю ў выпадку, калі за гэта выкажацца 70 проц. членаў арганізацыі. Праведзена галасаваньне, і ў выніку—87% высказалася за пераход у кампартыю.

У Аўстрыі, як і ў Нямеччыне, шлях адзінага рабочага фронту вядзе да аб'яднаньня ўсіх пралетарскіх рэвалюцыянэраў у шэрагах кампартыі.

* * *

Тактыка адзінага фронту Камуністычнага Інтэрнацыяналу атрымала таксама перамогу ў Саарскай абласьці і ў Італіі, дзе паміж камуністычнымі партыямі і сацыялістычнымі заключаны дагаворы аб супольнай барацьбе.

Але ў тых краінах, дзе сацыял-дэмакраты ўдзельнічаюць у агульна-буржуазных урадах — у Чэха-Славакіі, Галяндыі, Швэцыі, Бэльгіі, Даніі, — сац.-дэмакратыя рашуча адмаўляецца ад стварэньня адзінага фронту, стараючыся выкруціцца ад камуністычных прапановаў фармальнымі агаворкамі, што «ІІ Інтэрнацыянал

забараніў весьці паасобныя перагаворы», што камуністы грашылі ў адносінах да с.-д. у мінулым і т. п. аргумантамі. Сэнс усіх гэтых аргумантаў зводзіцца толькі да аднаго: за ўсялякую цану адкруціцца ад ненавіснага ім адзінага фронту, бо для іх удзел у адзіным фронце роўназначны з адмоваю ад удзелу ў буржуазных урадах. Каб апраўдаць перад масамі гэты ганебны сабатаж міністэрскіх сацыялістаў, правадыр ІІ Інтэрнацыяналу Ф. Адлер стварыў спэцыяльную тэорыю аб двух катэгорыях краін. У такіх краінах, як Аўстрыя і Нямеччына—неабходна гвалтоўнае зваленьне фашызму, а ў Чэхіі, Даніі, Галяндыі — там адбываецца мірнае ўрастаньне ў сацыялізм, значыць, няма неабходнасьці ў адзіным рабочым фронце, а шлях вядзе толькі праз міністэрскія габінэты.

Але рабочыя масы, адчуваючыя на сваёй уласнай скуры дабро буржуазнай дэмакратыі, усё больш і больш пераходзячай да адкрыта фашыстоўскіх мэтадаў панаваньня, ламаюць сацыял-фашыстоўскія перашкоды, ідучы за прыкладам сваіх французскіх, аўстрыйскіх і нямецкіх клясавых братоў. Шлях да адзінага фронту ў гэтых краінах вядзе праз бязьлітасную барацьбу з сабатажнікамі рабочага адзінства — з сацыял-фашыстамі.

* * *

Крок за крокам, з упорлівасьцю свомой бальшавікам, камуністычныя партыі пры дапамозе праверанай і выпрабаванай тактыкі адзінага фронту ломяць перагароды, аддзяляючыя рабочых - сацыялістаў, ад рабочых - камуністаў. Адзіны фронт перамагае. Адзіным фронтам пралетарыят атрымае перамогу над наступаючым фашызмам.

---

**ПЕРАМОГА РЭВАЛЮЦЫІ НІКОЛІ НЯ ПРЫХОДЗІЦЬ САМА. ЯЕ ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЬ І ЗАВАЯВАЦЬ. А ПАДРЫХТАВАЦЬ І ЗАВАЯВАЦЬ ЯЕ МОЖА ТОЛЬКІ СІЛЬНАЯ ПРАЛЕТАРСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ПАРТЫЯ. БЫВАЮЦЬ МОМАНТЫ, КАЛІ СТАНОВІШЧА — РЭВАЛЮЦЫЙНАЕ, УЛАДА БУРЖУАЗІІ ХІСТАЕЦЦА ДА САМАЙ АСНОВЫ, А ПЕРАМОГА РЭВАЛЮЦЫІ ЎСЁ-Ж НЯ ПРЫХОДЗІЦЬ, БО НЯМА Ў НАЯЎНАСЬЦІ РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ПАРТЫІ ПРАЛЕТАРЫЯТА, ДАСТАТКОВА СІЛЬНАЙ І АЎТАРЫТЭТНАЙ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПАВЕСЬЦІ ЗА САБОЙ МАСЫ І ЎЗЯЦЬ УЛАДУ Ў СВАЕ РУКІ. БЫЛО-Б НЕРАЗУМНА ДУМАЦЬ, ШТО ПАДОБНЫЯ «ВЫПАДКІ» НЯ МОГУЦЬ МЕЦЬ МЕСЦА.**

**(З дакладу тав. СТАЛІНА на XVII зьезьдзе ВКП(б).**

АГЛЯД НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫСТОЎСКАЙ ПРЭСЫ.

Андрэй ГАЛУБОК

# Шлях здрадніцтва і фашыстоўскай контррэвалюцыі

Вайна проціў Савецкага Саюзу рыхтуецца як з Усходу, так і з Захаду. Гэта становіцца ўсё больш ясным для найшырэйшых масаў. У той самы час, калі Японія з кожным днём абвастрае сваю палітыку нахабных правакацый у стасунку да СССР, Польшча, у адказ на савецка-францускую прапанову аб заключэньні ўсходня-эўрапэйскага пакту, забясьпечваючага мір, разам з Нямеччынай прыймае самыя энэргічныя меры па стварэньню блёку балтыцкіх дзяржаў для антысавецкай вайны. Нядаўна францускія газэты апублікавалі весткі аб існуючым тайным ваенным дагаворы паміж Польшчай, Нямеччынай і Японіяй.

Рашучая антысавецкая палітыка Польшчы заграніцай падмацоўваецца шырокай антысевацкай кампаніяй унутры краю. Як заўсёды, так і цяпер, найбольш актыўным дапаможнікам польскага імпэрыялізму ў справе разгортваньня антысавецкай кампаніі зьяўляюцца беларускія і ўкраінскія нацыянал-фашысты. І гэта зразумела: вайна проціў Савецкага Саюзу паводле плянаў Пілсудзкага і Гітлера мае на мэце ў першую чаргу адарваць ад СССР Савецкую Ўкраіну і Савецкую Беларусь. Ясна, што выгнаная і пазбаўленая магчымасьці грабіць працоўных у БССР і УССР беларуская і ўкраінская буржуазія спадзяецца атрымаць больш прывілегіраванае, як дагэтуль у Польшчы, становішча, значна большы як дагэтуль удзел у эксплёатацыі беларускіх і ўкраінскіх працоўных мас.

Беларускія нацыянал - фашыстоўскія газэты ў сваёй ярасьці ня маюць граніц. Яны ня толькі друкуюць нязьлічоную колькасьць артыкулаў і карэспандэнцый, поўных бязглуздых вымыслаў і недарэчных паклёпаў аб голадзе, аб няўраджаі, аб уціску беларусаў у Савецкай Беларусі, але проста і адкрыта заклікаюць польскі ўрад да вайны проціў СССР.

> «Дзеля ўтрыманьня супакою і дзеля эўрапэйскага эканамічнага поступу патрэбна незалежная Украіна і група незалежных дзяржаў (Беларусь і інш.) на ўсходзе Эўропы, якія тварылі-б з Украінай палітычную фэдэрацыю, аддзяляючы Расею ад Захаду. Урэшчэ гэтую групу дзяржаў на ўсходзе Эўропы тварыць настала пара. Так, бязумоўна пара!»

— нецярпліва падганяе імпэрыялістаў «Беларуская Крыніца», тлумачачы, што цяпер найлепшы час для вайны, бо

> «калі пачнецца вайна на Далёкім Усходзе і трэба будзе (Савецкай уладзе) пасланць войска туды, дык тады лёгка могуць адарвацца ад Саветаў Украіна і Беларусь».

Справа разумееццца ня ў тым, што Ўкраіна і Беларусь «могуць адарвацца», а ў тым, што тады трэба напасьці на Савецкі Саюз, каб сілай **адарваць** БССР і УССР ад Савецкага Саюзу.

«Родны край» яшчэ ясьней ставіць гэту справу і, хочучы вытаргаваць для беларускай буржуазіі большую падачку ад міжнародных імпэрыялістаў, усяляк падкрэсьлівае важнасьць актыўнага ўдзелу беларускай контррэвалюцыі ў антысавецкай вайне. Вітаючы імкненьне Польшчы ўцягнуць у антысавецкі блёк Літву, «Родны Край» зазначае:

> «Калі пры гэтым паразуменьні Літва і Польшча недаацэняць беларускага пытаньня, літоўска-польскае паразуменьне ў будучыні можа стацца палітычна малаважным... Гэнае паразуменьне яшчэ сёньня павінна змадыфікавацца на беларуска-літоўска-польскае паразуменьне. Бо толькі блёк незалежных Беларусі, Літвы, Польшчы будзе мецъ належна адпорную сцэмантоўку, дзейна проціўставіцца Нямеччыне і Ўсходу... Гэты блёк... зможа нават узьняць рэвіндыкацыйную палітыку ў кірунку... прылучэньня Ўсходняй Беларусі». «Адным словам», — заключае «Родны Край», — рашаючую ў ім (у будучай вайне) ролю адыграюць ізноў «палкі смаленскія» (гэта значыць беларускія).

Каб не сказаць працоўным масам адкрыта, што адрыў БССР і УССР ад Савецкага Саюзу азначае ператварэньне іх у нявольніцкія калёніі польскіх і нямецкіх імпэрыялістаў, у такія самыя акупаваныя краі, якімі зараз зьяўляецца Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна, беларускія нацыянал-фашысты гавораць аб фэдэрацыі незалежных дзяржаў. Але хто-ж ня ведае, што польскія імпэрыялісты акупавалі Зах. Беларусь і Заходнюю Ўкраіну і ў 1920 годзе ішлі на Кіеў і Менск іменна з фразамі аб фэдэрацыйнай і незалежнай Беларусі і Ўкраіне. Хто ня ведае, што і Гітлер, рыхтуючы крывавае ярмо фашызма для народаў СССР, гаворыць толькі аб фэдэрацыі і незалежнасьці.

Беларускі нацыянал-фашызм без намыслу згаджаецца на польскую і нямецкую акупацыю ўсёй Беларусі, ахвотна яшчэ раз прадае нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы беларускіх працоўных мас, абы толькі зьнішчыць ненавісную ім рабоча-сялянскую савецкую ўладу ў БССР, абы толькі задушыць пагражаючы іх існаваньню рэвалюцыйны рух на Заходняй Беларусі, абы толькі забясьпечыць сабе магчымасьць грабіць і эксплёатаваць беларускіх працоўных разам з з польскімі акупантамі.

Але, каб с'агітаваць рабочых і сялян Заходняй Беларусі на контррэвалюцыйную вайну пад камандай ненавісных польскіх акупантаў проціў Савецкай Сацыялістычнай Беларусі, у якой рабочыя і сяляне бачаць ажыцьцяўленьне сваіх уласных жаданьняў і надзей, трэба перадусім разьбіць рэвалюцыйны рух на Заходняй Беларусі, зьнішчыць рэвалюцыйныя настроі беларускіх працоўных мас і затруціць іх сьвядомасьць. І вось беларускія нацыянал-фашысты выступілі з цэлым шэрагам контррэвалюцыйных тэорый, стараючыся як мага шырэй распаўсюдзіць іх сярод працоўных.

У вялікім артыкуле «Нацдэмаўшчына» у № 26 «Крыніцы» мы знаходзім гэтыя тэорыі, сабраныя ў адну цэласьць, і дзеля таго на гэтым артыкуле варта спыніцца даўжэй.

Адным з найважнейшых заданьняў нацыянал-фашызму зьяўляецца забіць клясавую сьвядомасьць беларускіх працоўных. І дзеля таго на цэнтральным месцы гэтага артыкулу мы знаходзім старую, але нанова абгрунтаваную контррэвалюцыйную тэорыю аб бясклясавасьці беларускага народу:

> «Вось-жа трэба нам помніць, што Беларусь, як нацыя, зьяўляецца бясклясавай. Беларуская нацыя складаецца з аднэй клясы сялянскай, — беззямельнага, малазямельнага і серадняцкага сялянства. Абшарніцтва, кулацтва, чыноўніцтва, купецтва, духавенства і гарадзкі пралетарыят і ім п. зьяўляюцца сягоньня здэнацыяналізаванымі і за малымі выняткамі да беларускасьці не прызнаюцца. Той кулак, чыноўнік, духоўнік і ім п., які ў сёньняшніх варунках прызнаецца да беларускасьці, напэўна не зьяўляецца ворагам сялянства, а дзеля гэтага няма патрэбы з ім змагацца. Наадварот, калі такі чалавек аддае свае ўслугі дзеля дабра беларускай народнай справы, трэба яго прывітаць шчырым сэрцам і супрацоўнічаць з ім».

Паводле афіцыяльнай польскай статыстыкі на Заходняй Беларусі ёсьць каля тысячы беларускіх абшарнікаў, ня менш гарадзкіх буржуяў і тысячы кулакоў. У часе ўсеагульнага перапісу насельніцтва яны запісваюцца, як беларусы, а значыць «прызнаюцца да беларускасьці», як кажа «Крыніца». Запэўняючы, што яны не зьяўляюцца ворагамі сялян, угаварваючы, што з імі няма патрэбы змагацца, а наадварот, трэба іх шчырым сэрцам прывітаць і супрацоўнічаць з імі, «Беларуская Крыніца» як ня трэба ляпей выконвае сацыяльны заказ беларускай буржуазіі і сваю ролю абаронцы беларускай буржуазіі і ашуканца і здрадніка беларускіх працоўных.

Запісваючы ўсю беларускую нацыю ў сялянскую клясу», запярэчваючы існаваньню беларускай буржуазіі і беларускага пралетарыяту, называючы пралетарыят Заходняй Беларусі «чужым беларускай нацыі», нацыянал-фашысты праз гэта імкнуцца ня толькі вырваць сялянства з пад уплыву пралетарыята, разьбіць рабоча-сялянскі саюз і падбухторыць сялян проціў рабочых, але і адстрашыць сялян ад рэвалюцыйнай барацьбы, зганьбіць лёзунг дыктатуры пралетарыяту, пад якім вядзе рэвалюцыйную барацьбу Камуністычная партыя.

> «Дыктатура пралетарыяту гэта значыць панаваньне гарадзкога пралетарыяту над сялянствам і над усімі слаямі насельніцтва», гэта значыць «зьнішчэньне ўсіх клясаў фізычна і духова».

—наганяе страху «Крыніца», скажаючы праўду, што дыктатура пралетарыяту, якая дае рабочым уладу, фабрыкі, зьнясеньне эксплёатацыі і ўсебаковае паляпшэньне быту, адначасна для працоўнага сялянства значыць: свая рабоча-сялянская савецкая ўлада, зямля бяз выкупу і нацыянальнае вызваленьне, значыць: усямерная брацкая і матар'яльная і духовая дапамога гарадзкіх рабочых, значыць: зьнішчэньне адвечных ворагаў працоўнага сялянства — абшарнікаў і капіталістаў і вызваленьне сялян ад эксплёатацыі і ўціску.

Але рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі занадта добра ведаюць, што дала Савецкая ўлада беларускім працоўным і мала вераць антысавецкай хлусьні. Беларускія нац.-фашысты гэта моцна чуюць і на падмогу сабе ствараюць новую тэорыю, што калі ў Савецкай Беларусі і зроблена што-небудзь у галіне гаспадарчага ці нацыянальна-культурнага будаўніцтва, дык гэта заслуга не Савецкай улады і дыктатуры пралетарыяту, а контррэвалюцыйных беларускіх нацдэмаў, якіх выкрыла і арыштавала Савецкая ўлада.

Мы добра ведаем дабрадзействы нацдэмаў. Ведаем, як яны працівіліся будове вялікіх фабрык у БССР, як даказвалі, што на Беларусі ня трэба трактараў, бо хацелі аддаць Беларусь пад панаваньне польскіх капіталістаў і абшарнікаў, якім выгадна, каб Беларусь была адсталай і цёмнай. Ведаем, як хацелі вярнуць кулакоў і абшарнікаў, насаджваючы замест калгасаў кулацкія хутары. Ведаем, як выкрыўлялі і ўтрудннялі беларускую мову і беларускі правапіс, каб зрабіць яго недаступным шырокім масам працоўных.

Роля нацдэмаў ніколі ня была такой вялікай, як гэтага хацела-б «Крыніца», кажучы, што яны захапілі ў сваі рукі ўсё жыцьцё Савецкай Беларусі. Яна сьвядома перабольшае іх ролю, каб на гэтай падставе пасеяць новую контррэвалюцыйную байку аб тым, што цяпер пасьля арышту нацдэмаў

> «На ніве беларускай культуры ў БССР бачым адно жахлівае пажарышча, дзе чужы люты вецер раздзьмухвае попялішча — сьляды працы беларускай мазольнай рукі».

Брахня гэта настолькі бязглуздая і недарэчная, што сама-ж «Крыніца» мімаволі абвяргае яе і дэмаскуе сябе ў іншым нумары (№ 31) дзе піша:

> «Менск моцна разбудаваны і цяпер прыгожы горад. Гэта прыгожая сталіца Беларусі. У Савецкай Беларусі адчуваецца, што гэта сапраўды беларуская дзяржава: усюды і ўсе гавораць па-беларуску. У школах дзяцей вучаць пабеларуску, газэты, аб'яўленьні, распараджэньні і ўсялякія афішы напісаны і надрукаваныя па беларуску. Прашэньні ўсюды падаюцца пісаныя па беларуску і выдаюць дакуманты напісаныя також па беларуску».

Але гэта, разумеецца, не перашкаджае «Крыніцы» на заўтра зноў пісаць аб «нішчэньні беларускай культуры» і «прасьледваньні беларускага народу» у БССР.

Цэласьць тэорый беларускіх нацыянал-фашыстаў паказвае, што, як Беларуская Санацыя, так і Беларуская Хадэцыя гэта партыі—з пачатку і да канца буржуазныя, ужываючыя тэрміны «працоўныя» «сялянства» і г. д. толькі для ашуканства працоўных, і бароняючыя інтарэсы толькі беларускай буржуазіі і кулацтва. Партыі, прадаючыя інтарэсы ўсяго беларускага народу, аддаючыя свой край у няволю чужаземным імпэрыялістам дзеля інтарэсаў аднае клясы—беларускай буржуазіі і кулацтва.

Шлях беларускай буржуазіі, шлях «Крыніцы» і «Роднага Краю» ў асьвятленьні іх уласных тэорый аказваецца толькі і выключна шляхам контррэвалюцыі, шляхам служэньня польскім і заграначным імпэрыялістам, шляхам здрадніцтва інтарэсаў вялізарнай большасьці беларускага народу. І беларускі нац.-фашызм ідзе гэтым шляхам бяз хістаньня і раздумы і, каб уцягнуць на гэты шлях беларускіх працоўных, прыкладае ўсе сілы, каб зьнішчыць нацыянальна-вызваленчы рух, які паказвае беларускім рабочым і сялянам іншы шлях — шлях вызваленьня з пад польскай акупацыі і з пад уціску буржуазіі, шлях барацьбы пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і пралетарыяту.

Апынуўшыся перад фактам выкрыцьця і разгрому сваёй агентуры ў нацыянальна-вызваленчым руху, нац.-фашысты, не зложылі рук, не склалі аружжа, а пачалі новымі спосабамі правакаваць нац.-вызваленчыя арганізацыі. Цяпер яны ўсімі сіламі стараюцца запэўніць, што надзвычайна прыхільна адносяцца да ТБШ і толькі... сэрцам хварэюць, што

«маскоўска-камуністычныя апякуны разьядаюць гэтую беларускую культурна-асьветную арганізацыю».

Бяручы пад сваю абарону правакатараў Марцінчыка, Шырму і яго кампанію, нацыянал-фашысты імкнуцца ўбіцца ў давер'а ўсёй сяброўскай масы ТБШ, каб пасеяць сярод іх нацыяналістычныя настрої, ашукаць, падбухторыць проціў Камуністычнай партыі.

«Ня думаем, што ўсе сябры ТБШ — піша «Крыніца» (№ 2) — здольны быць толькі чужацкімі служкамі і рабіць толькі тое, што загадаюць ім з «тайнага» жэрала. Верым, што ў радох ТБШ знойдуцца яшчэ людзі, якім беларуская справа дарагая і якія гэтым варожым сілам дадуць адпор».

Убачучы, што ня гледзячы на ўсе іхнія захады, ТБШ, ачысьціўшыся ад правакатараў, ідзе далей сваім шляхам і, згуртаваўшы свае шэрагі, рыхтуецца да свайго зьезду, каб вылучыць новае вернае кіраўніцтва, нац.-фашысты кінуліся яўна памагаць дэфэнзыве граміць зьезд ТБШ.

«Ці ня кіравала гэтымі дэлегатамі спрытная рука кампартыі?»

— заахвочваў дэфэнзыву да аршытаў «Родны Край».

Пасьля арышту дэлегатаў зьезду «Беларуская Крыніца» запэўняе дэфэнзыву:

«Сярод затрыманых няма ані аднаго беларускага народніка, затрыманы ўсе камуністы».

Найбольшай, аднак, увагі заслугоўвае вельмі хітрая і складаная правакацыя, застасаваная ТБА. У нумары 9 «Роднага Краю» у няпрыкметным аддзеле «Паштовая скрынка» зьяўляецца «Адказ тэбэшоўцам», дзе нацыянал-фашыстоўскія правакатары пішуць, што быццам да іхняй канцэлярыі ТБА з усіх бакоў Заходняй Беларусі зьвяртаюцца сябры ТБШ з просьбамі ці то памагчы ўзнавіць дзеяльнасьць завешаных уладамі гурткоў ТБШ, ці з іншымі такімі просьбамі.

«Ня маючы магчымасьці адказваць на гэтыя пісьмы кожнаму паасобку, даем на гэтым мейсцы адказ усім адразу, бо-ж усе гэтыя справы фактычна зьвязаны паміж сабою і маюць адну супольную прычыну».

Прычына гэта, паводле «Роднага Краю» ня ў тым, што акупанцкая ўлада душыць нац.-вызваленчы рух, а ў тым, што быццам КПЗБ у сваіх адозвах называе ТБШ сваёй экспозытурай, і «у шмат якіх мясцох ёй сапраўды ўдалося справакаваць паасобныя гурткі на чыста камуністычную работу».

«Вось дзе фактычна ляжыць уся прычына, чаму ў сучасны момант так трудна дагаварыцца з адміністрацыяй у парушэных вамі пытаньнях».

І далей, акурат такім тонам, якім шэф дэфэнзывы прапануе арыштаванаму стаць супрацоўнікам дэфэнзывы, «Родны Край» пераконвае тэбэшоўцаў:

«Мэты кожнай культурна-асьветнай арганізацыі аднолькавыя, дык, калі сапраўды вам ходзіць аб гэта, калі вы ўжо сапраўды перакаланіся ў той правакацыі, якую прарабілі вашыя «прыяцелі» так справа, як зьлева, і ў сучасны момант вам ходзіць аб чэсную і шчырую выключна культурна-прасьветную працу, дык найлепш пачынайце працу пад тым сьцягам, які такой мінуўшыны ня мае — гэта значыць пад сьцягам нашае арганізацыі ТБА».

Як бачым у цэнтры ўсёй гэтай правакацыі стаіць імкненьне ўзбурыць нац.-вызваленчыя арганізацыі проціў КПЗБ, ператварыць рэвалюцыйны нац.-вызваленчы рух у контррэвалюцыйны нацыянал-фашызм. З гэтай мэтай беларускія нац.-фашысты прысылалі ў Грамаду, Змаганьне і ТБШ сваіх агентаў, з гэтай мэтай змагаліся з КПЗБ і рэвалюцыйным нац.-вызваленчым рухам у працягу ўсяго яго існаваньня. Але нічога ім не памагло. Не паможа і на гэты раз.

Чым больш узрастае рэвалюцыйная сьвядомасьць і актыўнасьць беларускіх працоўных мас, тым хутчэй пераходзіць беларускі нацыянал-фашызм на яўна-фашыстоўскія пазыцыі, тым больш пераймае гітлероўскія спосабы ашуканства працоўных фальшыва радыкальнымі фразамі.

«Капіталізм, гэта ненасытная бэстыя, банкрутуе і ўступае месца грамадзкаму ладу новаму, больш справядліваму. Сьмерць капіталізму гэта радасьць наша»,

— грыміць «Беларуская Крыніца», жыўцом перанятымі ад гітлероўцаў антыкапіталістычнымі фразамі. Побач з гэтым ідзе гітлероўскае дэмагагічнае ўсхваленьне працы:

«Можна з усёй пэўнасьцю цьвердзіць, што ідэалам новых часоў на мейсца даўнейшай панскай беларучнасьці, пагарды да працы фізычнай і жыцьця на чужы рахунак, — прыходзіць пашана і культ працы, кожнай працы, ня гледзячы на тое, ці чалавек растрасае на ніве гной, ці кіруе міністэрствам» («Бел. Крыніца» № 27).

Гэтае «ганаровае» зраўнаньне працы селяніна з працай міністра «Крыніцы» патрэбна на тое; каб адсюль вывесьці, што

«найлепшым грамадзкім ладам зьяўляецца корпоратызм», які «імкнецца да таго, каб усе грамдзкія клясы: сялян, работнікаў, купцоў, фабрыкантаў, злучыць у адну вялікую арганізацыю для агульнага дабра».

Як выглядае гэтае «агульнае дабро», беларускія працоўныя могуць бачыць на прыкладзе Нямеччыны і Італіі, дзе Гітлер і Мусаліні для гэтага «агульнага дабра» паставілі мільёны працоўных у палажэньне поўных нявольнікаў абшарнікаў і капіталістаў.

«Ня іншы шлях, як шлях корпоратыўны, пры тым на асновах хрысьціянскай навукі і хрысьціянскай этыкі астаецца адроджанай, вызваленай і аб'яднанай Беларусі» —

— з бяспрыкладным цынізмам заключае «Беларуская Крыніца» свае разважаньні, прагавіта выцягваючы свае лапы у бок Савецкай Беларусі.

Каб запэўніць Беларусі гэту фашыстоўскую будучыню і забясьпечыць панаваньне польскай і беларускай буржуазіі, беларускія нацыянал-фашысты стараюцца адгарадзіць беларускіх рабочых і сялян ад працоўных іншых нацыянальнасьцяў, а перадусім ад польскага пралетарыяту, сеюць сярод працоўных дзікі, зьвярыны нацыяналізм. У гэтым сваім зьвярыным нацыяналізме беларускія нац.-фашысты даходзяць да нячуванай агіды і ганьбы.

«Дзіўным для нас зьяўляецца пратэст, падпісаны некаторымі сялянамі ў справе нейкага чужынца Дзімітрава»—чытаем мы ў нумары 3-м «Роднага Краю». — «Можа гэтыя пратэстанты думаюць, што як гэты вялікі чалавек выйдзе на волю, то паможа ім зажыць на «шырокую ногу»? Шкада тых сялян, якія злажылі пад пратэстам свае подпісы і тых, каторыя такімі пратэстамі займаюцца. Лепш падумалі-б яны аб беларускіх барацьбітох, каторых чакае вялікая небясьпека ў БССР».

Гітлер можа быць здаволены сваімі беларускімі спаборнікамі.

Беларускі нацыянал-фашызм становіцца ўсё больш нахабным, усё з большым імпэтам і энэргіяй стараецца пралезьці ў шэрагі працоўных. Побач з Хадэцыяй і Санацыяй зьявіліся групы, якія ўжо адкрыта называюць сябе фашыстамі і беларускімі нацыянал-сацыялістамі і выдаюць свае газэціны «Новы Шлях» і «Беларусь працы».

Каб пераможна весьці барацьбу з польскай акупацыяй, каб аб'яднаць для пралетарскай рэвалюцыі і для абароны СССР усіх працоўных Заходняй Беларусі, партыя наша мусіць у шмат разоў узмоцніць сваю барацьбу з беларускім нац.-фашызмам.

Бязьлітасна дэмаскуючы капіталістычна-фашыстоўскую сутнасьць беларускага нац.-фашызму, яго ганебны прадажніцкі і здрадніцкі характар, трэба вырваць з пад яго ўплыву тыя нават невялікія групы працоўных, якія яшчэ даюць сябе баламуціць, абкружыць яго сьцяной пагарды і нянавісьці мільёнаў рабочых і сялян Заходняй Беларусі.

# Аб асноўных крыніцах нацыянал-апартунізму ў Камуністычнай партыі Зах. Беларусі

## (РЭЗАЛЮЦЫЯ ЦК КПЗБ.)

1. Выкрыцьце беларускай контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі ў БССР, на чале якой стаялі Дварчанін, Рак-Міхайлоўскі, Гаўрылік і інш., выявіла, што яна працавала, як у БССР, гэтак і ў Заходняй Беларусі і кіравалася адзіным палітычным контррэвалюцыйным цэнтрам у Вільні з Луцкевічам, Астроўскім, кс. Станкевічам на чале. Дэмаскаваньне і разгром гэтай арганізацыі, якая знаходзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам 2-га аддзелу генэральнага штабу і ў цесным кантакце з украінскай буржуазіяй, зьяўляецца перамогаю рабочае клясы і працоўных мас Савецкага Саюзу і нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі.

2. Посьпехам нацыянальна-вызваленчага руху ў ЗБ і Кампартыі Заходняй Беларусі зьяўляецца таксама здэмаскаваньне сапраўднага твару цяперашняй Галоўнай Управы ТБШ, на чале якой стаіць Шырма, Марцінчык, Стэцкевіч і інш. агенты нацыянал-фашызму і польскай дэфэнзывы, якія ў працягу шэрагу гадоў прабавалі сьпіхнуць ТБШ са шляху нацыянальна-вызваленчай барацьбы і падпарадкаваць яго беларускаму нацыянал-фашызму і польскаму фашызму.

3. Здэмаскаваньне гэтых контр-рэвалюцыйных агентур па абодвух баках граніцы, дало магчымасьць партыі выявіць мэтады работы клясавага ворага, які пранікаў у КПЗБ дзеля таго, каб рас класьці з сярэдзіны рэвалюцыйны рух і нанесьці яму здрадніцкі ўдар у сьпіну ў момант рашаючых рэвалюцыйных баёў або вайны проціў СССР. Гэта-ж дало магчымасьць партыі дэмаскаваць паасобных агентаў беларускага нацыяналізму (Сталевіч, Бабровіч-Борскі), якія з мэтаю правакацыі пранікі ў КПЗБ і нават займалі ў ёй кіраўнічыя пляцоўкі, праводзячы на працягу шэрагу гадоў замаскаваную здрадніцкую працу ўнутры партыі.

Выкрыцьце гэтых агентур завастрыла ўвагу партыі на барацьбе проціў беларускага нацыянал-фашызму, як на неабходным варунку ўзмацненьня барацьбы проціў польскай акупацыі, а таксама мабілізавала партыю на ўзмацненьне барацьбы проціў нацыянал-апартуністычных памылак і хістаньняў, проціў усялякай няўстойлівасьці — за бальшавіцкую пільнасьць. Партыя прыступіла да выкарчоўваньня ідэолёгічных карэньняў нацыянал-апатунізму.

4. КПЗБ пад кіраўніцтвам КПП за 10 год свайго існаваньня разгарнула масавую рэвалюцыйную і нацыянальна-вызваленчую барацьбу пралетарыята і працоўных мас сялянства ЗБ у цеснай сувязі з рэвалюцыйнай барацьбою пралетарыята і сялянства ўсёй Польшчы. У барацьбе з контррэвалюцыйным нацыяналізмам і польскім імпэрыялізмам КПЗБ пад кіраўніцтвам КПП і Камінтэрну прысвоіла ленінскія прынцыпы ў нацыянальным пытаньні і пасьлядоўна выхоўвала масы ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Акупацыйны рэжым у Заходняй Беларусі з аднаго боку, перамога пралетарскай рэвалюцыі і магутны рост пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР і ў прыватнасьці ў БССР—з другога, спрыялі ўзмацненьню ўплываў КПЗБ і росту шырокага нацыянальна-вызваленчага руху. Працоўныя масы пачалі хутка выжываць ілюзіі ў стасунку да беларускіх буржуазных партыяў, якія пхалі іх на шлях угоды з польскай акупацыяй. У гэтых варунках беларускі нацыяналізм, побач з завастрэньнем адкрытай барацьбы з рэвалюцыйным рухам, пачаў стасаваць мэтады маскіроўкі і прыкрытай дзейнасьці сваіх агентаў у рэвалюцыйных арганізацыях, дзеля таго, каб раскласьці іх знутры. Гэта яго дзейнасьць палягчылася шэрагам нацыянал-апартуністычных памылак і недастатковай рэвалюцыйнай пільнасьцю з боку партыі.

5. Нацыянал-апартуністычныя памылкі і слабая пільнасьць кіраўніцтва КПЗБ і ўсёй партыі каранілася ў нераскрытыкаваных і нявыжытых да рэшты нацыянал-апртуністычных канцэпцыях і ўстаноўках, якія прыносяць з сабою ў партыю дробна-буржуазныя элемэнты, поўныя нацыяналістычных перажыткаў, у нявыжытым да рэшты лібэральным стасунку да выхадцаў з чужацкіх дробна-буржуазных партый. Слабасьць пралетарыята ў ЗБ пацягнула за сабою параўнальна-большую адносную вагу дробнабуржуазных элемэнтаў у партыі ў першым пэрыядзе яе існаваньня і адбілася на асабліва цяжкім працэсе стварэньня кіраўнічых пралетарскіх кадраў КПЗБ.

6. Нацыянал-апартуністычныя памылкі КПЗБ шлі ў асноўным па лініі няправільнага аналізу растаноўкі клясавых сіл у Заходняй Беларусі. Гэта знайшло свой адбітак на першым этапе разьвіцьця партыі ў моцных уплывах эсэраўскай тэорыі аб безбуржуазнасьці беларускага народу і адзінстве беларускай вёскі. Неперамажэньне да рэшты гэтай тэорыі выражалася ў недаацэнцы значэньня і контррэвалюцыйнай ролі бела-

рускай буржуазіі і беларускага нацыяналізму; у недааацэнцы ролі беларускіх контррэвалюцыйных нацыяналістычных партыяў, як саюзьнікаў і агентаў польскага імпэрыялізму, а таксама іх мэтадаў барацьбы з рэвалюцыйным рухам, у недаацэнцы нацыяналістычных настрояў беларускай дробнай буржуазіі; у тым, што інтэлігенцыя разглядалася, як адзіная адасобленая клясавая група і ідэалізавалася, як кіраўнічая рэвалюцыйная сіла ў нацыянальна-вызваленчым руху. Правільна разглядаючы нацыянальна-вызваленчы рух, як у оснаўным рух сялянскі, з уласьцівымі гэтаму руху палітычнымі ваганьнямі і хістаньнямі, партыя памылкова лічыла складовай часткаю гэтага руху **УСЮ** беларускую інтэлігенцыю ў **цэлым,** няправільна прыпісвала гэтыя хістаньні таксама контррэвалюцыйным буржуазным інтэлігентам, якія мелі за сабою гады барацьбы процiў рэвалюцыйнага руху і Савецкага Саюзу. Іх сьвядомыя спробы сказіць рэвалюцыйныя ўстаноўкі ў нацыянальна-вызваленчым руху, што зьяўляецца сьвядомай лініяй клясавага ворага, партыя аж да апошніх месяцаў разглядала толькі, як хістаньні безпрынцыпных дробна-буржуазных інтэлігентаў. Адсюль вынікала прыхільная крытыка, курс на захаваньне і перавыхаваньне іх, дамаганьне ад іх самакрытыкі, замест рашучага адсеву іх і барацьбы з прымірэнцтвам у стасунку да іх.

7. Гэтыя нацыянал-апартуністычныя ўстаноўкі праяўляліся на розных этапах у розных формах.

Другая канфэрэнцыя КПЗБ (1924 г.), якая адбывалася ў момант бурнага ўздыму рэвалюцыйнага руху ў вёсцы, правільна высоўваючы — у процілегласьць люксэмбургіянскім устаноўкам— задачу барацьбы за кіраўніцтва сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам, зусім няправільна зводзіць рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі амаль выключна да сялянскага руху, прычым яна памылкова расцэньвае сялянства як адзінае цэлае, ня бачучы клясавай барацьбы унутры яго. II канфэрэнцыя недааацэніла ролі пралетарыяту ў ЗБ, а таксама знчэньня арганізацыі барацьбы рабочае клясы, разглядаючы КПЗБ перадусім як кіраўніка барацьбы сялянства.

Моцны адбітак знаходзіць тэорыя безбуржуазнасьці і ў рэзалюцыях III конфэрэнцыі (пачатак 1926 г.). Палітычная рэзалюцыя гэтай канфэрэнцыі дае наскрозь памылковы аналіз расстаноўкі клясавых сіл у Заходняй Беларусі. Беларуская буржуазія, яе партыі і арганізацыі ў той час ацэньваюцца канфэрэнцыяй, як дробнабуржуазныя, інтэлігенцкія, хісткія, безпрынцыпныя групоўкі. Гэтая-ж рэзалюцыя зусім няправільна прыпісвае асобную ролю беларускай інтэлігенцыі ў рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі, як маючай непасрэдную сувязь з рэвалюцыйнай вёскаю, з якой яна выйшла, з чаго, быццам, выцякае яе кіраўнічая роля ў нацыянальна-вызваленчым і сялянскім руху.

На наступным этапе КПЗБ (1929 год), найбольш яскравай праявaю контррэвалюцыйных нацдэмаўскіх тэорыяў у партыі, быў артыкул агента нацыянал-фашызму Сталевіча, які пралез у партыю, (артыкул пад назваю «Польскі імпэрыялізм і беларускае пытаньне», зьмешчаны ў часопісу «Полымя»), дзе запярэчвалася наяўнасьць беларускай буржуазіі і падкрэсьліваліся сэпаратысцкія тэндэнцыі беларускага кулацтва ў стасунку да польскага імпэрыялізму, г. зн. прызнавалася, што кулак зьяўляецца рэвалюцыйнай сілаю ў барацьбе з польскай акупацыяй. ЦК КПЗБ, хаця і выступіў з рашучым асуджэньнем гэтай тэорыі, тым ня менш не правёў шырокай унутры-партыйнай кампаніі, не зрабіў з яе выходнага пункту для разгортваньня бязьлітаснай барацьбы з нацыянал-апартунізмам як у шэрагах самой партыі, гэтак і ў нацыянальна-вызваленчым руху.

8. З гэтых-жа установак вынікалі памылкі, дапушчанныя ЦК КПЗБ у кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам. Партыя стварыла і кіравала масавай стотысячнай рабоча-сялянскай арганізацыяй нац.-вызваленчага руху «Грамадой», потым «Змаганьнем» і направіла іх дзейнасьць у рэчышча рэвалюцыйнай барацьбы процiў акупацыі. Тое, што ў кіраўніцтве «Грамады» знаходзіліся агенты беларускай буржуазіі і польскага імпэрыялізму ні ў якой ступені не аслабляе значэньня і рэвалюцыйнай ролі «Грамады» у разьвіцьці нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Той факт, што ўрад аказаўся змушаным ліквідаваць легальнае існаваньне «Грамады», ярка сьведчыць, што «Грамада», наўпракі ўсім спробам клясавага ворага сьцягнуць яе з рэвалюцыйнага шляху, засталася рэвалюцыйнай рабоча-сялянскай арганізацыяй, якая знаходзіцца пад палітычным кіраўніцтвам КПЗБ. Тое-ж самае можна сказаць і ў стасунку да «Змаганьня». Сотні тысяч галасоў, паданых на сьпіскі клюба «Змаганьня», былі галасамі рэвалюцыйных працоўных мас, аддадзенымі не за агентаў фашызма — Дварчанінаў, Гаўрылікаў і іншых, а за рэвалюцыйную праграму барацьбы з польскай акупацыяй.

Неабходным варункам пасьлядоўнага правядзеньня рэвалюцыйнай лініі ў гэтым шырокім народным руху, які ахоплівае рабочых, сялянскую беднату, серадняцтва і значную праслойку дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, было ўзмацненьне гегемоніі пралетарыята і непасрэднага кіраўніцтва партыі. Толькі пры гэтым варунку рух мог быць максымальна забясьпечаны ад прыладжваньня да яго буржуазна-кулацкіх элемэнтаў, якія намагаюцца захапіць у ім кіраўніцтва, і ад дробна-буржуазных хістаньняў, якія выкарыстоўваюцца гэтымі элементамі. Захаваньне і ўзмацненьне гегемоніі пралетарыята ў гэтым руху абумоўліваліся ўпартай барацьбою процiў напора кулацка-капіталістычных элемэнтаў, якія імкнуцца вырваць яго з-пад кіраўніцтва кампартыі. Партыя наша недааацэньвала, а часта ня бачыла гэтых высілкаў контррэвалюцыі, раскладовай працы агентур клясавага ворага, а таксама значных хістаньняў у грамадоўскіх масах.

У выніку гэтага ў кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам быў дапушчаны шэраг паважных памылак:

а) Недааацэнка барацьбы польскіх акупантаў і беларускай буржуазіі за ўплывы ў масах, якія ідуць за «Грамадой» і «Змаганьнем»; слабая пільнасьць у стасунку да контррэвалюцыйных агентур, якія пралазілі альбо прымазаліся да

гэтага руху; недаацэнка барацьбы контррэвалюцыйных элемэнтаў унутры «Грамады» і «Змаганьня» за ўплывы ў гэтым руху.

б) Адсутнасьць цьвёрдага курсу на тое, каб згуртаваць пралетарска-бядняцкі асяродак унутры «Грамады» і забясьпечыць пралетарскае кіраўніцтва гэтай арганізацыяй; ня быў праведзены адсеў буржуазных контррэвалюцыйных элемэнтаў, якія прабраліся ў яе шэрагі; падобныя-ж памылкі былі дапушчаны і ў стасунку да ТБШ аж да апошніх часоў уключна.

в) Слабы націск на ўзмацненьне кіраўнічай ролі камфракцыі ўнутры арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху; камфракцыі часта расплываліся ў арганізацыях «Грамады», «Змаганьня», ТБШ і т. п. Часта заціраліся межы паміж нізавымі вясковымі партарганізацыямі і арганізацыямі нацыянальна-вызваленчага руху і паасобныя вясковыя партарганізацыі разьмешваліся ў арганізацыях «Грамады» і «Змаганьня».

г) Аслабленьне непасрэднага кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам у выніку стварэньня прамежнага зьвена — так званага «цэнтра нац.-вызваленчых арганізацый».

д) Недастатковая крытыка ў масах непасьлядоўнасьці паасобных чынаў «Грамады» і «Змаганьня» і замаскаваных, але па сутнасьці контррэвалюцыйных выступленьняў кіраўніцтва «Грамады», «Змаганьня», ТБШ, якія разглядаліся, як хістаньні, трусасьць і непасьлядоўнасьць дробна-буржуазных інтэлігентаў.

е) Недастаковасьць аж да самага апошняга часу, пасьлядоўнай бальшавіцкай крытыкі прэсы нацыянальна-вызваленчага руху, у якой часта працягваліся нацыянал-фашыстоўскія ўстаноўкі.

9. Нацыянал-апартуністычныя памылкі праявіліся таксама ў арганізацыйнай палітыцы партыі:

а) Недастатковыя намаганьні па ўзмацаваньню пралетарскай базы ў горадзе і вёсцы, па ўмацаваньню пралетарскага ядра ў партыі.

б) Недастатковая мабілізацыя партыі на адпор заможным элемэнтам, якія пранікалі ў яе шэрагі, асабліва на першым этапе разьвіцьця партыі. Напрыклад, ліпеньскія тэзісы ЦК КПЗБ аб бальшавізацыі (1925 год) прапануюць уключаць у шэрагі партыі ўвесь актыўны элемэнт вёскі. Гэтыя тэзісы былі падданы крытыцы III канфэрэнцыяй, якая ўказала, што ў арганізацыйнай палітыцы партыі няма яснага падыходу да розных клясавых прасластаваньняў сялянства, што зьвяртаецца недастатковая ўвага на неабходнасьць клясавай пралетарскай сьвядомасьці пры прыняцьці ў партыю рэвалюцыйных сялян і на важнасьць узмацненьня пралетарскага ядра партыі. Але і ў далейшай працы партыя далёка ня поўнасьцю праводзіла гэтыя ўказаньні ў жыцьцё.

в) Ліберальны стасунак да выхадцаў з буржуазных і дробна-буржуазных нацыяналістычных партыяў, якія ўліліся ў шэрагі КПЗБ на першым этапе яе існаваньня; недастатковая праца па выхоўваньню кадраў і недастатковае вылучэньне на кіраўнічую працу ва ўсіх зьвеньнях партыі мясцовага рабочага і бядняцкага актыву, а таксама шырокае дапушчэньне ў кіраўнічыя органы выхадцаў з варожых партыяў.

10. Побач з аб'ектыўнымі сацыяльнымі варункамі Заходняй Беларусі, працэс бальшавізацыі КПЗБ тармазіўся непераможаным дарэшты варожым ідэалёгічным багажом, унесеным у яе шэрагі выхадцамі з буржуазных і дробна-буржуазных нацыяналістычных партыяў, у асаблівасьці выхадцамі з Беларускай Рэвалюцыйнай Організацыі (БРО).

Заходняя Беларусь зьяўляецца краінай з вялізарнай перавагаю сялянскага дробна-буржуазнага насельніцтва, пры слабой праслойцы прамысловага пралетарыяту. Ня гледзячы на вялікія рэвалюцыйныя традыцыі пралетарыяту (1905, 1917-20 г.г., моцны ўплыў Р. С. Д. Р. П. (бальшавікоў) і СДКПЛ), напор дробна-буржуазнай стыхіі быў тут асабліва моцны і ўтрудняў зьдзейсьненьне гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху. КПЗБ, як рэвалюцыйная партыя пралетарыяту, стварылася ў 1923 годзе з існаваўшых раней на тэрыторыі ЗБ арганізацый, якія засталіся ў падпольлі пасьля ліквідацыі савецкай улады ў ЗБ і адступленьня Чырвонай Арміі, і з арганізацый КПРП, якія існавалі на тэрыторыі ЗБ. Гэтыя арганізацыі былі арганізацыйнай і ідэолёгічнай падставаю КПЗБ. У КПЗБ у першым пэрыядзе яе існаваньня ўліліся пасобныя выхадцы і цэлыя групы з Бунда, ПЦ, ППС і арганізацыя эсэраўскага тыпу, якая звалася «Беларуская Рэвалюцыйная Організацыя», якія прынесьлі з сабою багаж сваіх дробна-буржуазных нацыяналістычных поглядаў і канцэпцый.

11. БРО, вырастаючы з дробна-нацыяналістычнага беларускага лягеру (БСГ і С-Р) зьяўлялася дробна-буржуазнай, наскрозь нацыяналістычнай, эсэраўскай арганізацыяй, якая палітычна не адасабнілася канчаткова, аж да сваёй ліквідцыі, ад буржуазна-нацыяналістычнага лягеру, зьяўляючыся яго радыкальнай адменаю. Яе асноўныя ўстаноўкі (тэорыя аб безбуржуазнасьці беларускага народу, аб самабытных шляхох разьвіцьця рэвалюцыі ў Беларусі, як напрыклад, тэорыя аб тым, што нацыянальнае вызваленьне ЗБ зьяўляецца гэтым самым і клясавым вызваленьнем пралетарыята і сялянства ЗБ, запярэчваньне дыктатуры і гегемоніі пралетарыята і г. д.) былі проста процілеглы і варожы камунізму. Яе дадатны стасунак да БССР вынікаў з разьліку на перараджэньне дыктатуры пралетарыята ў СССР, з той надзеі, што БССР зьявіцца этапам да ўстанаўленьня беларускай буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Застаючыся на гэтых пазыцыях, БРО ня толькі не магла разьвівацца ў напрамку да камунізму, але не магла таксама весьці барацьбы з беларускай буржуазіяй і польскай акупацыяй.

Тэорыя аб тым, што КПЗБ стварылася на падставе злучэньня арганізацый КПРП і БРО, г. зн. стварылася з злучэньня двух плыняў, альбо перапевы гэтай тэорыі, як напрыклад цьверджаньне, што «БРО дала нам вёску», якое кантрабандна працягвае Сталевіч, зьяўляецца ярка нацдэмаўскай контр-рэвалюцыйнай контрабандай, маючай на мэце замазаць бальшавіцкія падставы КПЗБ і ідэалізаваць БРО, як рэвалюцыйную і масавую рабоча-сялянскую арганізацыю.

Да таго моманту, як БРО уключаецца ў КПЗБ

пад уплывам рэвалюцыйнага бурленьня ў найшырэйшых масах сялянства ЗБ, у БРО завастраецца ўнутраная барацьба, адбываецца радыкалізацыя і набліжэньне да КПЗБ клясава найбольш блізкіх рэвалюцыйных бедняцка-серадняцкіх элемэнтаў. Партыя дапусьціла асноўную буйную памылку, прыймаючы ў свае шэрагі **ўсю** Беларускую Рэвалюцыйную Організацыю, **як арганізацыю,** мэханічна ўключаючы ў кіраўнічыя органы партыі шэраг кіраўнікоў БРО, захаваўшых свае старыя пазыцыі,—старых нацыяналістаў, скрыта двурушніцкіх элемэнтаў (Сталевіч, Капуцкі). У выніку гэтага, адначасна з уваходжаньнем у партыю сапраўды рэвалюцыйных сялян і паасобных інтэлігентаў, разам з імі праз БРО пранікла ў партыю група буржуазных нацыяналістаў, якія ўвайшлі ў кампартыю з мэтаю апанаваньня рэвалюцыйнага руху і развала яго знутры.

Партыя не правяла крытыкі мінулага БРО і яе ідэолёгіі, не запатрабавала ад былых яе членаў асуджэньня свайго мінулага з усімі яго ідэалёгічнымі карэньнямі. Партыя ня здолела пераварыць гэтыя элементы і правесьці досыць шырокую ідэалёгічную працу па перавыхаваньню іх у духу бальшавізму, ня здолела адсеяць чужацкія клясава-варожыя элемэнты. Гэты працэс утрудняўся таксама і нацыянал-апартуністычнымі ўстаноўкамі II зьезду КПРП і нявыжытымі рэшткамі люксэмбургізму, якія ўтруднялі крытыку нацыянал-апартунізму з бальшавіцкіх пазыцый.

12. Усё гэта тармазіла працэс бальшавізацыі КПЗБ, палягчала дзейнасьць нацыяналістаў і дывэрсыйных элемэнтаў унутры яе. У 1924 годзе контррэвалюцыйныя нацыяналістычныя элемэнты зрабілі адкрытую спробу захпіць кіраўніцтва КПЗБ і раскалоць партыю (так званая «сэцэсія»). «Сэцэсія» зьяўлялася контррэвалюцыйнай групаю, арганізованай правакатарскімі элементамі, якія пралезьлі ў партыю і працавалі пад кіраўніцтвам польскай дэфэнзывы і буржуазных нацыяналістаў па абодвух баках граніцы (Ігнатоўскі і Гурын-Маразоўскі). Асноўнае ядро «сэцэсіі» складалі выхадцы з БРО (Сталевіч, Капуцкі, Гарбацэвіч і інш.). Ідэолёгія «сэцэсіі» цалкам і поўнасьцю вырастала з ідэолёгіі БРО.

КПЗБ здолела палітычна і арганізацыйна разьбіць «сэцэсію» і ізаляваць яе. III канфэрэнцыя КПЗБ асудзіла контррэвалюцыйную ідэалёгію і ўстаноўкі «сэцэсіі». Але партыя ў працэсе барацьбы з «сэцэсіяй» і пасьля яе ліквідацыі не правяла досыць шырокай ідэалёгічнай працы, ня выявіла ідэалёгічнай сутнасьці «сэцэсіі», яе ідэалёгічных і арганізацыйных карэньняў, яе сувязі з БРО, не зрабіла ўсіх неабходных палітычных і арганізацыйных вывадаў, не ўзмацніла дастаткова бальшавіцкай пільнасьці. Гэта дало магчымасьць некаторым з правакатарскіх элемэнтаў, пасьля няўдалай спробы раскалоць партыю, застацца ў яе шэрагах і нават у кіраўніцтве і прадаўжаць сваю правакатарскую працу.

13. Той факт, што КПЗБ здолела палітычна і арганізацыйна разьбіць «сэцэсію», дакавае, што КПЗБ мела бальшавіцкія падставы і шла няўхільна па шляху бальшавізацыі. Аб гэтым таксама сьведчыць адсутнасьць у КПЗБ на ўсіх этапах яе існаваньня сэпаратысцкіх тэндэнцый і шчыльнейшая сувязь з КПП.

Унутры-партыйная барацьба, якая сьледам за гэтым разгарнулася пасьля майскіх памылак КПП, і ўдзел у ёй КПЗБ і яе кіраўніцтва ў сваёй большасьці на баку былой меншасьці ЦК КПП у барацьбе проціў правй групы Варскага-Кастшэвы — сьведчыць пра далейшы працэс бальшавізацыі КПЗБ. Пра гэта таксама сьведчыць супольная з КПП рашучая барацьба проціў нацыяналістычнай групы Васільківа-Тур'янскага ў КПЗУ, якая падтрымлівалася правымі ў КПП.

Разгром правай групы на VI пленуме і V зьезьдзе КПП і стварэньне новага бальшавіцкага кіраўніцтва на чале з тов. Ленскім (1929 — 30 г.), яшчэ больш паскорылі працэс бальшавізацыі КПЗБ.

Абноўленае кіраўніцтва КПП сваёй няўхільнай непрымірымай барацьбой на два фронты — проціў правай небясьпекі і «левых» заскокаў, проціў перажыткаў нацыянал-апартунізму і люксэмбургізму, за стварэньне трывалых бальшавіцкіх кадраў, штодзённа і непасрэдна кіруючы працаю партыі, дапамагло КПЗБ выхаваць невялікія,але ідэолёгічна вытрыманыя кадры і ў пэўнай меры павысіць пільнасьць партыі.

Новае кіраўніцтва КПП неаднакраць указвала КПЗБ на неабходнасьць умацаваньня сваіх пазыцый у нацыянальна-вызваленчым руху, сьмелага вылучэньня рабочага і бядняцкага актыву, завастрэньня барацьбы проціў усялякіх нацыянал-апартуністычных хістаньняў, выкаранеьня гнілога лібэралізму ў стасунку да чужацкіх і няўстойлівых элемэнтаў, а таксама усялякага нядбальства ў арганізацыйнай палітыцы. Новае кіраўніцтва КПП неаднакраць давала ў гэтым кірунку дырэктывы ЦК КПЗБ.

Значны ўплыў на працэс бальшавізацыі КПЗБ зрабілі прыклад і ідэалёгічная дапамога брацкай КП(б)Б, якая пад бальшавіцкім кіраўніцтвам свайго ЦК і ЦК ВКП(б) праводзіць непрымірымую барцьбу з нацыянал-апартунізмам і контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчынай, бязьлітасна ачышчаючы ад іх партыйныя і савецкія органы.

Дзякуючы гэтым перадумовам, КПЗБ і яе ЦК, ня гледзячы на паасобныя памылкі, здолелі ў момант раскрыцьця агентур ворага ўнутры нацыянальна-вызваленчага руху даць адпор ворагу і разгарнуць наступленьне проціў нацыяналізму.

14. КПЗБ здолела хутка мабілізаваць асноўныя зьвеньні партыі для барцьбы проціў шалёпай антысавецкай нацыяналістычнай кампаніі і з разгортваючым яе беларускім нацыяналізмам і польскім фашызмам, даўшы правільную ацэнку і ўстаноўку для гэтай барацьбы. У гэтай барацьбе партыя здолела ўзяць ініцыятыву ў свае рукі і, разгарнуўшы масавую працу, перайшла ў контр-наступленьне. Партыя разгарнула шырокую кампанію па дэмаскаваньню здрадніцкіх мэтадаў працы беларускай контррэвалюцыі сярод шырокіх масаў рабочых і сялян (масоўкі, сходы гурткоў, рэзалюцыі, лісты ў газэты і г.д.). Партыя дэмаскавала контррэвалюцыйную агентуру ў шэрагах ТБШ (Галоўная Управа і інш.) і пасьпяхова вядзе барацьбу за яе ізаляваньне і ачышчэньне ад яе ТБШ, проціў спроб фашы-

зацыі ТБШ. Партыя пачала працу па выкрыцьцю ідэалёгічных карэньняў нацыянал-апартунізму ў КПЗБ.

Гэта, аднак, толькі першыя крокі дзеля шырокага разгортваньня барацьбы з нацыяналізмамі і для перамажэньня да канца перажыткаў нацыянал-апартунізму ў партыі.

15. Перад партыяй стаяць наступныя задачы:

а) Разгарнуць магутную барацьбу проціў беларускага буржуазнага нацыяналізму і ў найкарацейшы тэрмін зьдзейсьніць указаньні II пленуму ЦК КПП аб тым, што ўдарнай задачай КПЗБ у сучасны момант зьяўляецца барацьба проціў беларускага нацыяналізму і выхаваньне мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму.

б) Адначасна з гэтым неабходна шырака разгарнуць барацьбу проціў антысавецкага цкаваньня беларускай і ўкраінскай буржуазіі, як складовай часткі падрыхтаваньня польскім і міжнародным імпэрыялізмам вайны проціў СССР, за адрыў ад яго БССР і УССР.

в) КПЗБ павінна значна ўзмацніць і разгарнуць пад сваім кіраўніцтвам барацьбу шырокіх працоўных мас проціў польскага імпэрыялізму і акупацыі, як галоўнага ворага, проціў усялякай праявы нацыянальнага ўціску, на барацьбу ў саюзе з пралетарыятам усёй Польшчы, за савецкую ўладу, за права нацый на самаазначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы. Толькі тады барацьба з беларускім нацыяналізмам будзе пасьпяховай.

г) Да канца выкрыць усе праявы нацыянал-апартунізму ў партыі, даць крытычнае асьвятленьне гісторыі КПЗБ і бальшавіцкую ацэнку БРО і іншых дробна-буржуазных нацыяналістычных элемэнтаў, якія ўліліся ў КПЗБ; узьняць на гэтай аснове ідэалёгічны ўзровень і павысіць бальшавіцкую пільнасьць усёй партыі.

д) Дабіцца рашучага павароту ў справе пашырэньня і ўмацаваньня пралетарскай базы ў партыі; выхаваць і вылучыць рабочыя і бядняцкія кадры як у партыі, гэтак і ў нацыянальна-вызваленчым руху; узмацніць пільнасьць да сацыяльнага складу партыі і яе кіраўнічых органаў, асабліва ў вясковых арганізацыях, значна засьмечаных кулацкімі элемэнтамі.

е) Рашуча змагаючыся проціў недаацэнкі значэньня нацыянальна-вызваленчага руху, як саюзьніка пралетарыята, і недавер'я да яго ў сувязі з выяўленьнем у ім контррэвалюцыйных агентур, партыя ставіць сваёй задачай разгортваць шырокую сетку нацыянальна-вызваленчых рабоча-сялянскіх арганізацый пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, змагаючыся проціў спроб нацыянал-фашызму захапіць іх. **Трэба рашуча пакончыць з такой практыкай, калі кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам пакідаецца ў руках паасобных таварышоў. Кіраўніцтва гэтым рухам павінна стаць справай усёй партыі.** Трэба, каб уся партыя ўсьведаміла сабе выяўленыя за апошнія часы мэтады працы клясавага ворага, памятаючы, што вораг не адмовіцца паўтарыць спробы пранікнуць у нашыя шэрагі. Толькі ўзьняцьце на вышэйшую ступень бальшавіцкай пільнасьці і ідэалёгічнага ўзроўня ўсіх членаў партыі, далейшая бальшавізацыя КПЗБ змогуць папярэдзіць пранікненьне клясавага ворага. Партыя павінна ўзмацніць кіраўніцтва арганізацыямі нацыянальна-вызваленчага руху шляхам абавязковага стварэньня ўнутры іх моцных камфракцый, цалкам і поўнасьцю адказных за сваю працу перад партыяй. Партыя павінна шырака, але з усёй бальшавіцкай пільнасьцю вылучаць маладыя рабоча-сялянскія кадры ў нацыянальна-вызваленчым руху, памятаючы аб тым, што вораг пранікае і ў нізавыя зьвеньні арганізацый гэтага руху. Партыя павінна няўхільна і пасьлядоўна весьці далей працу па ачыстцы нацыянальна-вызваленчых арганізацый ад нацыяналістычных варожых элемэнтаў.

Вільня, май 1934 г.

## ЗЬМЕСТ:

## ЗА АПОШНІ ЧАС У ВЫДАВЕЦТВЕ ЦК КПЗБ ВЫЙШЛІ НАСТУПНЫЯ БРАШУРЫ:

Алесь Гарадоцкі. **Як беларуская Хадэцыя гандлюе крывёю рабочых і сялян** (па беларуску).

**Як мы жывем у Савецкім Саюзе** (па яўрэйску).

А. Е. — **Чым павінна быць і як павінна працаваць ТБШ** (па беларуску).

Ван-Мін. — **Рэвалюцыя, вайна і інтэрвэнцыя ў Кітаі** (па беларуску і яўрэйску).

**Рэзалюцыі II пленуму ЦК КПП** (па беларуску і яўрэйску).

А. Е. — **На барацьбу з голадам** (па беларуску, украінску і літоўску).

М. Герасімчык. — **«Стралец» — гэта вораг рабочай і сялянскай моладзі** (па беларуску і польску).

Іван Падабед. — **Слова праўды аб яўрэях** (па беларуску і польску).

П. Корчык. — **Нацыянал-апартунізм у КПЗБ і ідэалёгічная спадчына БРО** (па беларуску, польску і яўрэйску).

**Агонь барацьбы проціў нацыяналізму і нацыянал-апартунізму** (Рэзалюцыя ЦК КПЗБ) (па беларуску, польску і яўрэйску).

Ракіта. — **Адказ беларускім нацыянал-фашыстам** (па бел. і польску).

**Аб асноўных крыніцах нацыянал-апартунізму ў КПЗБ.** (Рэзалюцыя ЦК КПЗБ) па беларуску, польску і яўрэйску).

**Ліст т. Дзімітрава да аўстрыйскіх рабочых** (па беларуску).

Янка Падлескі. — **Гадавіна барацьбы і перамогі** (па беларуску).

**11 ліпеня** (літаратурна-мастацкі зборнік) (па беларуску).

**20 гадавіна вайны** (па беларуску, польску і яўрэйску).

Максім Падгайскі. — **Вялікая барацьба лесарубаў** (па беларуску і польску).

**Пад сьцягам Камсамолу** (па беларуску).

Б. Мельцэр. — **Так выглядае Бунд** (па яўрэйску).

Т. Мур. — **Выходзь з сіянісцкага балота!** (па яўрэйску).

**Арганізацыі, якія ня атрымалі гэтых брашур, павінны дамагацца іх ад партыйнай тэхнікі.**

---

